# ПРАГРАМА
# ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ
# XX СТАГОДДЗЯ

для студэнтаў філалагічнага факультэта спецыяльнасцяў:
D 21 05 01 – "Беларуская філалогія";
D 21 05 02 – "Руская філалогія";
D 21 05 02 – "Славянская філалогія";
D 21 05 05 – "Замежная філалогія"

Аўтары-складальнікі:
доктар філалагічных навук, прафесар
***Л.Дз.Сінькова***,
кандыдат філалагічных навук ***А.А.Пашкевіч***.

Навуковы рэдактар –
прафесар ***Дз.Я.Бугаёў***.

Рэцэнзент –
член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук
***А.А.Лойка***.

*Зацверджана Навукова-метадычным саветам філалагічнага факультэта БДУ (2001 г.)*

**Сінькова Л.Дз., Пашкевіч А.А.**
Праграма па гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя для студэнтаў філалагічнага факультэта спецыяльнасцяў: D 21 05 01 – "Беларуская філалогія"; D 21 05 02 – "Руская філалогія"; D 21 05 02 – "Славянская філалогія"; D 21 05 05 – "Замежная філалогія".– Мн.,Белдзяржуніверсітэт, 2003. – 103 с.

Праграма складзена на аснове выданняў: "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: Праграма для універсітэтаў / Складальнікі: Дз. Я. Бугаёў, В. В.Казлова, І. Я. Навуменка.– Мн., Вышэйшая школа, 1986; "Праграма па гісторыі беларускай літаратуры (1945–1997 гадоў.) для студэнтаў філалагічнага факультэта" / Складальнікі: Л.Дз.Сінькова, П. І. Навойчык, а таксама новых распрацовак аўтараў-складальнікаў.

У "Праграме" знайшлі адлюстраванне найбольш адметныя з'явы беларускага літаратурнага працэсу XX стагоддзя як цэласнага гісторыка-культурнага перыяду.

# УСТУП

Сучасныя погляды на шляхі развіцця беларускай літаратуры XX стагоддзя як цэласнага гісторыка-культурнага перыяду, як літаратуры шматплыневай, з рознымі светапоглядна-філасофскімі сістэмамі і эстэтычна-мастацкімі кірункамі. Беларуская літаратура XX ст. як мастацкая мадэль нацыянальнага быцця, як патрыятычная, гуманістычная, гераічная, рознастылёвая і надзвычай багатая на творчыя індывіду-альнасці. Трагічны лёс беларускай літаратуры.

Неабходнасць навуковай метадалогіі ў вывучэнні беларускай літаратуры XX ст., пераадоленне тэндэнцыйных падыходаў у яе асвятленні. Сутнасць тэорый паскоранага і аўтахтоннага развіцця літаратуры; тэорыя змены мастацкіх сістэм. Дыскрэтнасць у развіцці нацыянальнай культуры.

Праблема перыядызацыі беларускай літаратуры XX ст.

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯ (1900–1916)

Беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя і ідэі нацыянальнага адраджэння. Праблемы сацыяльнай і палітычнай свабоды, духоўнага разняволення і нацыянальнага самавызначэння. Уздым беларускага літаратурна-грамадскага руху.

Дзейнасць "Круга беларускай народнай прасветы" (браты Вацлаў і Юры Іваноўскія, Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка) і інш.).

Беларуская рэвалюцыйная партыя і яе адозва "Да інтэлігенцыі", дзе выказваліся думкі аб неабходнасці стварэння граматыкі беларускай мовы і працы па абуджэнні нацыянальнай свядомасці народа.

Выдавецкая дзейнасць В. Іваноўскага. Часопіс "Свабода" (1902) – першае беларускамоўнае выданне стагоддзя. "Калядная пісанка" (1903) і "Велікодная пісанка" (1904). Зборнік вершаў Я. Лучыны (Я. Неслухоў-скага) "Вязанка" (1903). Зборнік "Песні" (1904) з вершамі Ф. Багушэвіча і К. Каганца.

Беларуская культура і рускамоўны перыядычны друк: газеты "Минский листок" ("Северо-Западный край"), "Минское эхо", "Минский курьер".

Указ ад 12 снежня 1904 г. аб скасаванні абмежаванняў на выкарыстанне мясцовых моў і пашырэнне беларускага друку. Абуджэнне нацыянальна-адраджэнцкага руху і рэвалюцыйны ўздым

1905 г. Пецярбургская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца" і яе супрацоўнікі (В. Іваноўскі, Б. Эпімах-Шыпіла, У. Сталыгва, В. Валейка і інш.). "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання" (1906) К. Каганца. Прыватнае выдавецтва А. Грыневіча.

"Нашаніўскі" перыяд у гісторыі беларускай літаратуры як працэс дынамічны. "Наша Доля" (1906) і "Наша Ніва" (1906-1915) – першыя беларускамоўныя газеты ХХ ст. Роля "Нашай Нівы" ў культурна-гістарычным і грамадска-палітычным развіцці Беларусі, абуджэнні нацыянальнай і сацыяльна-палітычнай свядомасці народных мас, у збіранні беларускіх літаратурных сіл, у развіцці беларускай літаратурнай мовы, паэзіі, прозы, публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі і мастацкага перакладу.

Уключэнне маладой нацыянальнай літаратуры ў агульнаеўрапейскі кантэкст. Змест і праблематыка беларускай літаратуры пачатку ХХ ст. Новыя ідэі, матывы, вобразы. Жанрава-стылёвае ўзбагачэнне літаратуры. Развіццё нацыянальнай паэзіі, прозы і драматургіі. Адраджэнцка-асветніцкі пафас. Арыентацыя на творчае выкарыстанне фальклорнай спадчыны і лепшых мастацкіх традыцый сусветнай літаратуры. Станаўленне творчых індывідуальнасцей, сталенне літаратуры як паўнакроўнага і шматграннага мастацкага адлюстравання жыцця. Асноўныя эстэтычна-стылявыя тэндэнцыі. Рамантызм, рэалізм, сімвалізм і маладая беларуская літаратура пачатку ХХ ст. Сацыяльна-бытавы і эстэтычна-мастацкі кірункі ў беларускай літаратуры 10-х гадоў. Пашырэнне вобразна-выяўленчых сродкаў. "Нашаніўская" дыскусія 1913 г. аб шляхах развіцця беларускай літаратуры і яе значэнне.

Газеты "Гоман", "Светач" і "Дзянніца" (1916) і палярызацыя беларускага грамадска-культурнага руху.

## ТВОРЧАСЦЬ ПЛЕЯДЫ СТАРЭЙШЫХ АДРАДЖЭНЦАЎ

Шматграннасць творчасці КАРУСЯ КАГАНЦА (1868–1918). Ідэі духоўнага абуджэння народа ў вершах К. Каганца. Мастацкая апрацоўка народных легендаў і паданняў ("Прылукі", "Вітаўка"), празаічныя замалёўкі. Жанрава-стылёвая адметнасць прозы К. Каганца. Камедыя "Модны шляхцюк" у гісторыі беларускай драматургіі. Значэнне творчасці К. Каганца і яго грамадскай дзейнасці ў нацыянальным адраджэнцкім руху.

Шматграннасць прозы ЯДВІГІНА Ш. (1868–1922). Рэалістычна-побытавыя апавяданні ("Гаротная"), гумарэскі ("З маленькім

білецікам"), лірычна-філасофскія імпрэсіі ("Васількі"), прытчава-казачныя абразкі ("Заведзеная надзея"). Майстэрства мастацкай дэталі ў апавяданнях Ядвігіна Ш. Няскончаны раман "Золата": традыцыйнае і наватарскае, элементы прыгодніцка-дэтэктыўнага жанру. Нарысы пісьменніка. Значэнне постаці Ядвігіна Ш. у гісторыі беларускай літаратуры.

Паэзія АЛЬБЕРТА ПАЎЛОВІЧА (1875–1951). Зборнік "Снапок" (1910). Гумарыстычная скіраванасць лірыкі, рэалістычна-апавядальная манера. Традыцыя беларускага сацыяльна-бытавога анекдота.

Ідэі нацыянальнага адраджэння, рэлігійныя і натур-філасофскія матывы паэзіі АНДРЭЯ ЗЯЗЮЛІ (1878–1921).

Матывы сацыяльнай нядолі, нацыянальна-патрыятычная праблематыка і трагізм светаўспрымання ў лірыцы Гальяша Леўчыка (1880–1944).

Адметнасць лірыкі ЯНКІ ЖУРБЫ (1881–1964).

Гумарыстычныя апавяданні Уладзіслава Галубка (1882–1937), паглыбленне ў праблемы быцця чалавека ("Парабкі", "Апошняе спатканне"). Драматургія У. Галубка.

Літаратурна-крытычная дзейнасць АНТОНА НАВІНЫ (1884–1942), праблемы эстэтычнай сутнасці мастацтва.

Адметнасць творчасці СЯРГЕЯ ПАЛУЯНА, КАЗІМІРА СВАЯКА, ЛЯВОНА ГМЫРАКА, АЛЕСЯ ГУРЛО, КАНСТАНЦЫІ БУЙЛО.

Асоба АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ (ЦЁТКІ) (1876–1916). Грамадзянская дзейнасць. Адметнасць лірыкі. Зборнікі "Скрыпка беларуская" і "Хрэст на свабоду" як адлюстраванне адраджэнска-рэвалюцыйных настрояў грамадства. Рамантычны пафас ахвярнасці ў імя свабоды і гераізму. Патрыятычныя матывы лірыкі ("Мае думкі", "З чужыны"). Абнаўленне зместу і эстэтыкі паэтычнай творчасці. Сімвалічнасць і рамантычная маштабнасць вобразаў. Афарыстычнасць паэтычнага выказвання. Тэма мастацтва ў вершах Цёткі ("Скрыпка", "Артыст грайка", "Музыкант беларускі") і выяўленне духоўнага свету асобы. Вершы Цёткі для дзяцей. Наватарства і арыгінальнасць паэзіі.

Жанрава-стылёвая разнастайнасць прозы. Ідэі і паліфанічнасць стылю апавядання "Прысяна над крывавымі разорамі". Гуманістычны пафас апавяданняў "Зялёнка" і "Міхаська".

Нарысы, дарожныя нататкі і публіцыстыка Цёткі.

Жыццёвы шлях ЦІШКІ ГАРТНАГА (1887–1937). Матывы лірыкі. Дэкларатыўнасць і лозунгавасць у вершах. Стыль Ц. Гартнага-

апавядальніка. Праблематыка рамана "Сокі цаліны". Вобраз Рыгора Нязвычнага, аўтабіяграфічнае ў творы. Сюжэт і кампазіцыя. Недахопы рамана. Ц. Гартны ў крытыцы і літаратуразнаўстве.

## АСОБА І ТВОРЧАСЦЬ ЯНКІ КУПАЛЫ (1882–1942)

Я. Купала як дзеяч беларускага адраджэння. Роля Я. Купалы ў адраджэнцкім руху і стварэнні беларускай нацыянальнай літаратуры.

Жыццёвы шлях паэта. Фарміраванне творчай асобы і індывідуальнасці. Асноўныя ідэі, вобразы, асаблівасці ранняй лірыкі. Беларускія тыпы ў зборніку "Жалейка" (1908). Прырода мастацкага метаду. Верш "А хто там ідзе?" як гімн нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст. Узмацненне мастацкай індывідуальнасці ў зборніку "Гусляр" (1910) і творчая эвалюцыя Я. Купалы. Асоба паэта і рамантычная маштабнасць адлюстравання свету. Нацыянальная праблематыка. Экзістэнцыяльныя матывы ў зборніку "Гусляр". Глабальнае адчуванне эпохі, глыбіні і маштабу яе канфліктаў і катаклізмаў. Купалаўскі "касмізм" як лад душы паэта. Зборнік "Шляхам жыцця" (1913) як якасна новая мастацкая цэласнасць. Шырыня выяўлення духоўнага свету чалавека, яго дум і пачуццяў, апяванне рамантычнай духоўнасці беларуса. Міфалагічна-фальклорныя традыцыі, філасафічнасць кнігі. Вастрыня грамадска-палітычных праблем. Вобраз Маладой Беларусі. Патрыятычная і пейзажная лірыка паэта. Увасабленне адзінства ўсяго жывога на зямлі, знітаванасці чалавека з прыродай. Лірыка Я. Купалы ў кантэксце рамантызму і сімвалізму. Умоўныя формы, рамантычная "трэцяя рэальнасць", фантазія аўтара. Шырыня вырашэння тэмы кахання. Пачуццёва-інтанацыйны характар і імпрэсіяністычны каларыт. Кампазіцыя зборніка. Месца і значэнне зборніка "Шляхам жыцця" ў беларускай паэзіі пачатку XX ст. Асаблівасці паэтыкі. Рытм, рыфма купалаўскай лірыкі. Вершы 1913–1915 гадоў. Развіццё ранейшых ідэй, вобразаў і тэм. Антываенная лірыка, сацыяльны гумар і сатыра. Жанравае ўзбагачэнне і эстэтызацыя лірыкі.

Раннія паэмы Я. Купалы ("Зімою", "Нікому", "Калека", "Адплата кахання"). Ідэйны змест, рамантычна-баладны характар і сацыяльна-побытавы план, незвычайнасць герояў і абставін. Драматычныя паэмы "Адвечная песня" (1910) і "Сон на кургане" (1912). Праблематыка "Адвечнай песні". Нацыянальна-паэтычны кантэкст, сувязь з міфалагічна-фальклорнай сімволікай. Сацыяльная абумоўленасць чалавечага лёсу. Мастацка-вобразная структура

"Адвечнай песні" і мадэрнісцкія ўплывы. Вобразна-выяўленчая палітра і кампазіцыя. Тыпалагічныя паралелі і адметнасць "Адвечнай песні" Я. Купалы і паэм "Жыццё чалавека" і "Цар-Голад" Л. Андрэева: пытанне аб абсурдным характары чалавечага існавання. Драматычная паэма "Сон на кургане" як найяскравае дасягненне купалаўскага рамантызму. Паглыбленне філасофскага аспекту мастацкага пазнання. Ідэйна-эстэтычная аснова твора. Алегарычна-сімвалістычная форма. Мастацкая шматзначнасць паэмы і складанасць мастацкага вырашэння, фальклорна-міфалагічны каларыт. Вобраз Сама як увасабленне драматычных пошукаў шляхоў да шчасця. Матыў ізаляванасці і адзіноты чалавека ў навакольным свеце. "Сон на кургане" і паэма Ю. Славацкага "Кароль-Дух". Паэма "Курган"(1910) як узор рамантычнага эпасу з палярызацыяй дабра і зла. Фальклорны каларыт, сінтэз народна-паэтычных матываў. Увасабленне рамантычнага пратэсту і вобраз гусляра. Праблема мастака і ўлады. Стыхія магутнага чалавечага духу і яго свабоднага развіцця. Мастацкая адметнасць і кампазіцыйная зладжанасць паэмы "На Куццю" (1911). Рамантычнае светабачанне і мастацкая адметнасць паэмы-ідыліі "Яна і я". Ідэі і вобразна-выяўленчыя сродкі паэмы "Бандароўна" (1913). Узмацненне эмацыянальнасці народнай песні-балады. Філасафічнасць паэмы "Магіла льва" (1913). Адмаўленне ніцшэанскай ідэі звышчалавека ў творы.

П'еса "Паўлінка" як класічны ўзор нацыянальнай камедыяграфіі. Сутнасць канфлікту. Мастацкія сродкі іроніі і шаржу ў камедыі. Жанравая прырода драмы "Раскіданае гняздо" (1913). Праблематыка і вобразы-персанажы п'есы. Сямейны і агульнанацыянальны планы, сацыяльна-філасофскі аспект твора. Асаблівасці паэтыкі. Сімволіка драмы. Літаратурны кантэкст "Раскіданага гнязда": драматургія С.Выспянскага, драма Тодара Лебяды "Загубленае жыццё".

Я. Купала – прарок нацыянальнага адраджэння. Вершы 1918–1919 гадоў. ("Свайму народу", "На сход!", "Паўстань" і інш.). Дзяржаватворны пафас, нацыянальна-незалежніцкія ідэі. Ваярска-патрыятычны цыкл "На вайсковыя матывы": адметнасць тэматыкі і вобразна-выяўленчых сродкаў. Публіцыстыка Я. Купалы 1918–1920 гадоў. (артыкулы "Больш самачыннасці", "Незалежнасць", "Моладзь ідзе", "Беларускае войска", "Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год") і купалаўская канцэпцыя нацыянальнага самавызначэння і беларускай дзяржаўнасці.

Грамадская дзейнасць паэта. Празаічны і вершаваны пераклады "Слова аб палку Ігаравым", іх значэнне для разумення купалаўскай грамадзянскай пазіцыі, мастацкая дасканаласць.

Трагікамедыя "Тутэйшыя". Фактурная аснова твора (адлюстраванне складанай і лёсавызначальнай рэчаіснасці ваенна-акупацыйных часоў), ідэя і праблематыка. Выкрыццё вялікарускага і польскага шавінізму і філасофіі прыстасавальніцтва (вобраз Мікіты Зносака). Феномен "тутэйшасці" ў мастацкай трактоўцы Я. Купалы. Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі ў творы (Янка Здольнік, Аленка). Выкарыстанне шаржу і гратэску. Жанравая адметнасць п'есы і лёс сцэнічнага ўвасаблення.

Мастацка-філасофскае асэнсаванне асноватворных праблем чалавечага існавання (асоба – народ – гісторыя – дзяржава) у паэтычным зборніку Я. Купалы "Спадчына" (1922). Аналіз вершаў "Спадчына", "Час!", "Для Бацькаўшчыны", "Гадаўшчына", "Паэт і цэнзар" і інш., іх глыбінная нацыянальная і патрыятычная сутнасць. Асноўныя матывы, спецыфіка паэтыкі.

Савецкая ява і творчасць Я. Купалы. Трагічны разлад паміж паэтавымі спадзяваннямі і рэчаіснасцю. Сімволіка і алегорыя ў паэме "Безназоўнае" (1924). Партыйна-ідэалагічны зацiск беларускага мастацтва ў канцы 20-х гадоў. Знішчэнне кнігі Я. Купалы "Творы 1918–1928 г.". Трагедыя творцы ў таталітарнай дзяржаве. Рытарычнасць і сацыялагізатарская трафарэтнасць вершаў Я. Купалы 30-х гадоў. "Ляўкоўскі цыкл" 1935 г., адыход ад жыццёвай праўды, асаблівасць паэтыкі. Паэзія масавай, псеўдакалектыўнай эмоцыі. Паэма Я. Купалы "Тарасова доля". Думкі аўтара пра агульнасць гістарычных лёсаў беларусаў і ўкраінцаў. Выкарыстанне элементаў народнай паэтыкі. Заходнебеларускія матывы ў паэзіі Я. Купалы 30-х гадоў. Творы для дзяцей ("Лявоніха", "Юрачка").

Творчасць Я. Купалы перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Папулярнасць антыфашысцкіх вершаў паэта. Публіцыстыка паэта перыяду вайны і праблема аўтарства.

Перакладчыцкая творчасць Я. Купалы. Пераклады твораў Т. Шаўчэнкі, А. Пушкіна, Ш. Руставелі, М. Канапніцкай, Ю. Крашэўскага, У. Бранеўскага і іншых паэтаў.

Роля Я. Купалы ў развіцці беларускай літаратуры. Ацэнка творчасці паэта выдатнымі прадстаўнікамі суседніх нацыянальных літаратур. Я. Купала ў перакладах на многія мовы свету.

Крытычныя і літаратуразнаўчыя працы аб жыцці і творчасці паэта.

Вобраз Я. Купалы ў мастацтве.

## АСОБА І ТВОРЧАСЦЬ ЯКУБА КОЛАСА (1882–1956)

Біяграфія пісьменніка. Этапы грамадзянскага і літаратурнага станаўлення. Фальклорна-бытавая аснова ранніх апавяданняў. Паэтыка анекдота (наяўнасць сюжэтнай інтрыгі, нечаканасць развязкі), смехавая культура ("Соцкі падвёў"). Драматызацыя сацыяльных канфліктаў у апавяданні "Нёманаў дар". Канцэпцыя жыцця і чалавека ў ранніх апавяданнях. Маральна-філасофская праблематыка апавядання "Малады дубок", спроба аналітычна-псіхалагічнага пісьма. Рост псіхалагічнага майстэрства пісьменніка ў апавяданнях 1912–1914 гадоў. Трапнасць мастацкіх дэталяў, псіхалагічная дакладнасць чалавечых характараў. Пейзажная проза. Роля Я. Коласа ў станаўленні беларускай прозы пачатку XX ст.

"Казкі жыцця", творчая гісторыя. Казкі жыцця як арыгінальны мастацкі жанр. Колас-апавядальнік і Колас-філосаф. Мастацка-ідэйная вартасць "Казак жыцця". Праблемна-тэматычны аналіз "Казак жыцця". Жанрава-стылёвыя асаблівасці алегарычных апавяданняў цыкла і іх роля ва ўзбагачэнні філасофска-інтэлектуальнай насычанасці беларускай літаратуры, у развіцці выяўленчых магчымасцяў беларускага мастацкага слова. Сінтэтычнасць і поліфанічнасць "Казак жыцця". Біблейскія матывы, глыбокі псіхалагізм твораў. Фальклярызм у творчасці пісьменніка. Алегарызм вобразнасці. Эзопава мова і падтэкст "Казак жыцця". Сцвярджэнне нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцяў і народна-сялянская мараль.

Праблематыка ранняй паэзіі Я. Коласа. Адметнасць мастацкай сістэмы Коласа-лірыка. Паглыблены роздум, увага да будзённых момантаў народнага жыцця. Канкрэтнасць, эпічнасць у выяўленні нацыянальнага характару. Зборнік "Песні-жальбы": эмацыянальна-роздумны пачатак, асабіста-індывідуальныя перажыванні, рэалістычныя абагульненні, літаратурныя вобразна-выяўленчыя традыцыі. Адметнасць лірычнага пейзажу Я.Коласа. Публіцыстычныя і сатырычныя вершы ("Ворагам", "Сябрам", "Кіньце смутак", "Не бядуй!"; "Канстытуцыя", "Асадзі назад!"). Паэтыка і стылёвыя асаблівасці ранняй паэзіі Я. Коласа: "ходкія" фігуральныя сродкі, лірызм, меладычнасць, меланхалізм, класічна-метрычная звычайнасць, прастата вобразатворных форм, статычнасць і рэалістычнасць малюнка.

Зборнік вершаў "Водгулле". Ідэйны аспект, праблемна-тэматычная сутнасць. Трывога за лёс Беларусі, яе будучыню. Абумоўленасць

матывіроўкі складанасцю грамадска-сацыяльнай сітуацыі (войны і акупацыі краіны). Вершы патрыятычнага зместу ў "Водгуллі".

Паэма Я. Коласа "Новая зямля". Аўтабіяграфічнасць твора. Гісторыя напісання. Жанр, праблематыка, ідэйны змест паэмы. Яе ацэнка і трактаванне беларускай крытыкай і літаратуразнаўствам. Філасофская глыбіня "Новай зямлі", яе экзістэнцыяльнае і біблейскае гучанне. Гістарызм і энцыклапедызм паэмы. Паэтызацыя беларускага светабачання. Прыёмы і сродкі мастацкай індывідуалізацыі вобразаў Міхала, Антося і Ганны. Маштабнасць і агульначалавечая змястоўнасць характараў. Пошукі сацыяльнай незалежнасці героямі твора. Паэтызацыя сялянскага побыту і непераможнасці нацыянальнага духу. Прырода ў "Новай зямлі", роля пейзажу ў абмалёўцы чалавечых характараў, у паказе прыгажосці і велічы беларускага краю. Лірычныя адступленні і іх значэнне ў раскрыцці ідэйнага зместу паэмы. Верш, рытміка, строфіка. Сюжэт і кампазіцыя. Адметнасць стылёва-выяўленчай сістэмы "Новай зямлі". Мова твора, роля ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы, у развіцці стылёвай шматграннасці беларускай літаратуры XX ст. Наватарскае значэнне "Новай зямлі" ў развіцці жанру шматпланавай, эпічнай паэмы і беларускага рамана.

Паэма "Сымон-музыка". Першая, другая і трэцяя рэдакцыі твора. Мастацкая канцэпцыя і жанравая адметнасць паэмы, яе філасофскі змест і вобразна-выяўленчы лад. Роля "Калевалы" ў творчай гісторыі "Сымона-музыкі". Жанр, ідэя твора, праблематыка. Народныя вытокі і аўтабіяграфічнае ў творы. Сюжэт паэмы і яе рамантычная вобразнасць. Мастацка-ідэйная сутнасць вобраза Сымона, яго міфалагічна-арфейскі пачатак. Духоўнае станаўленне Сымона-музыкі. Праблема мастацкага таленту і сацыяльнага асяроддзя. Вобразы Музыкі (Песняра) у сусветнай літаратуры (Дантэ, Байран, А. Пушкін, М. Лермантаў, М. Някрасаў, Г. Сянкевіч, Я. Купала, М. Багдановіч, З. Бядуля, М. Танк і інш.). Жабрак Курыла, карчмар Шлёма, князь у сістэме вобразаў-персанажаў паэмы. Бунтар Яхім і стары Даніла як увасабленне вызваленчай ідэі. Паэзія кахання ў паэме. Паэтызацыя прыроды. Філасофска-эстэтычная сутнасць вобразаў прыроды. Лірычныя адступленні і іх мастацкая функцыя. Патрыятычныя матывы ў лірычных адступленнях. Філасофія гісторыі і мастацкі роздум над трагічнымі старонкамі гісторыі Беларусі. Сімволіка і алегорыя ў паэме, пачуццёвасць і сентыментальнасць. Сюжэт і кампазіцыя, інтанацыйна-рытмічны лад верша, вобразная палітра, моўныя асаблівасці. Эстэтычныя і этычныя погляды Я.Коласа і іх

адлюстраванне ў паэме. Месца паэмы "Сымон-музыка" ў творчасці Я.Коласа і яе значэнне ў развіцці беларускай літаратуры.

Трылогія "На ростанях" – адзін з першых маштабных твораў беларускай прозы XX ст. Творчая гісторыя. Праблематыка і ідэйны змест трылогіі. Станаўленне жанру твора. Аўтабіяграфічнасць трылогіі. Прататыпы галоўных герояў. Пошукі сэнсу жыцця, свайго месца ў грамадстве. Роля інтэлігенцыі ў выхаванні нацыянальнай і палітычнай свядомасці народа. Актывізацыя грамадзянскіх пазіцый і інтарэсаў. Вобраз Андрэя Лабановіча як цэнтральнага ў трылогіі. Псіхалагічная глыбіня, напружанасць духоўнага жыцця і вышыня інтэлекту. Народны падмурак у станаўленні яго светапогляду. Роздум Лабановіча над нацыянальнымі праблемамі. Мастацкія сродкі індывідуалізацыі вобраза Лабановіча. Вобразы інтэлігентаў, сялянства, духавенства і чыноўніцтва ў трылогіі. Жыццёвая змястоўнасць і паэтычнасць пры вымалёўцы жаночых персанажаў і майстэрства пісьменніка ў выяўленні разнастайных нюансаў жаночай псіхалогіі (вобразы Ядвісі, Людмілы, Вольгі Андросавай, Ліды Мураўскай). Сатырычнае і гумарыстычнае ў трылогіі. Праявы ідэалагізаванай зададзенасці ў творы. Стыль трылогіі. Паэтычная стыхія і пластычная фактура стылю. Моўна-стылёвыя плыні. Роля партрэта ў характарыстыцы вобраза. Сюжэт і кампазіцыя трылогіі. Майстэрства мастацкай дэталі, яе роля ў стварэнні раманных характараў. Лірычныя, філасофскія і публіцыстычныя адступленні ў трылогіі. Месца трылогіі "На ростанях" у станаўленні і развіцці беларускай прозы.

Проза і драматургія Я. Коласа 30-х гадоў. Уступкі вульгарнай сацыялагізацыі і ідэйна-партыйным канонам (аповесць "Адшчапенец", п'еса "Вайна вайне", "Рыбакова хата" і "На шляхах волі"). Трагедыя творцы ў эпоху таталітарызму.

Аповесць "Дрыгва". Белетрызацыя грамадзянскай вайны. Каларытнасць характараў аповесці. Элементы спрашчэння і павярхоўнасці ў абмалёўцы адмоўных персанажаў. Характар і роля пейзажу. Сюжэт і кампазіцыя. Паэтычная стыхія моўна-выяўленчых сродкаў.

Творы Я.Коласа для дзяцей.

Творчасць Я. Коласа перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Публіцыстыка, вершы-заклікі, іх ідэйны змест і антыфашысцкі пафас. Асаблівасці коласаўскай сатыры ваеннага часу. Мастацкая спецыфіка грамадзянскай, палітычнай і інтымнай лірыкі Я. Коласа перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Навуковая і грамадская дзейнасць пісьменніка.

Коласаўскія творы ў перакладах на многія мовы свету. Я. Колас – перакладчык А. Міцкевіча, А. Пушкіна, М. Лермантава, Т. Шаўчэнкі.

Роля традыцый творчасці Я. Коласа ў гісторыі беларускай літаратуры. Крытычныя і літаратуразнаўчыя працы аб жыцці і творчасці пісьменніка.

Вобраз Я. Коласа ў мастацтве.

## ТВОРЧАСЦЬ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА (1883–1938)

В. Ластоўскі – пачынальнік беларускага нацыянальнага Адраджэння XX ст. Асоба і лёс В. Ластоўскага. Светапоглядныя асновы творчасці. Асноўныя перыяды творчасці.

"Малая" проза В. Ластоўскага, яе жанрава-стылёвая разнастайнасць.

Праблематыка і стылёвыя адметнасць аповесці "Прыгоды Панаса і Тараса". Іранічнае і гумарыстычнае ў нясконачанай аповесці "Мікалай Галубовіч".

Аповесць В. Ластоўскага "Лабірынты" як нацыянальная ўтопія. Мастацка-філасофская канцэпцыя нацыянальнага быцця ў "Лабірынтах". Крывія як мастацкая трансфармацыя нацыянальнай ідэі. Вобраз Крывіі ў кантэксце беларускага мастацтва XX ст.

Апавяданні В. Ластоўскага перыяду эміграцыі: адметнасць праблематыкі, стылёвыя асаблівасці.

Паэтычная спадчына В. Ластоўскага. Філасофска-інтэлектуальная своеасаблівасць верлібраў і вершаў у прозе. Спалучэнне ў творчасці В. Ластоўскага ідэй еўрапейскага мадэрнізму і традыцый нацыянальнай літаратуры.

Выдавецкая і грамадска-палітычная дзейнасць В. Ластоўскага.

Роля В. Ластоўскага ў станаўленні нацыянальнай крытыкі і мастацкай публіцыстыкі. Навуковая дзейнасць В. Ластоўскага. "Кароткая гісторыя Беларусі", "Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" і "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" ў кантэксце навукова-філасофскага спасціжэння і абгрунтавання беларускай нацыянальнай ідэі.

Творчасць В. Ластоўскага і еўрапейская эстэтычна-філасофская традыцыя.

## ТВОРЧАСЦЬ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА (1891–1917)

М. Багдановіч як творца, мысліцель, гісторык. Унікальнасць і фенаменальнасць паэзіі. М. Багдановіч – выдатны дзеяч нацыянальнага Адраджэння.

Этапы творчай біяграфіі М. Багдановіча. Ніжагародскі перыяд у фарміраванні М. Багдановіча як паэта і грамадскага дзеяча. Дасведчанасць у гісторыі сусветнай літаратуры, уплыў ідэй і матываў твораў Я. Купалы і Я. Коласа.

Яраслаўскі перыяд жыцця М. Багдановіча. Час актыўнай творчасці, мастацкага ўзвышэння як мастака слова і як крытыка.

Творчая гісторыя паэтычнага зборніка "Вянок". Цэльнасць кнігі, яе мастацкі космас. Жанрава-структурныя асаблівасці і ўнутраны прынцып аб'яднання вершаў у кнізе. Імкненне пазнаць свет у яго дыялектычнай сутнасці, гармоніі, эвалюцыі. Мастацкі аналіз частак "Вянка": "Малюнкі і спевы", "Мадонны", "Каханне і смерць". Сувязь беларускіх адраджэн-скіх ідэй у творчасці М. Багдановіча з агульначалавечым кантэкстам сусветнай культуры. Спалучэнне фальклорных і міфалагічных матываў ("Змяіны цар", "Падвей", "Страцім-лебедзь") з літаратурнымі традыцыямі ("Санет", "С.Палуяну", "Тэрцыны"). Эстэтычны ідэал паэта ("Песняру"). Навізна урбаністычнай тэматыкі. Мастацкае асэнсаванне нацыянальнай гістарычнай сімволікі і патрыятычны пафас творчасці. Гістарызм паэтычнага мыслення. Наватарства "Вянка". Шлях ад паэтычнай сумарнасці да мастацкай індывідуальнасці. "Вянок" як духоўная біяграфія паэта і сведчанне дасканаласці беларускай паэзіі, яе эстэтычнай вышыні. Ідэйная скіраванась, змястоўная напоўненасць кнігі. Філасофскія, патрыятычныя, маральныя і эстэтычныя праблемы "Вянка". "Вянок" як сінтэз нацыянальных і класічных агульнаеўрапейскіх паэтычных традыцый. Пушкінскія традыцыі ўспрыняцця і раскрыцця жыцця. Фетаўскі псіхалагізм лірыкі. Імпрэсіяністычнае захапленне мастацкім светаценем, эмацыянальнай "шматслойнасцю". Традыцыі французскіх "новапарнасцаў" у творчасці М. Багдановіча (Поля Верлена, Леконт дэ Ліля, Шарля Бадлера). Кампазіцыя "Вянка".

Канцэптуальнасць крытычных артыкулаў М.Багдановіча. Артыкулы "Глыбы і слаі", "За тры гады", іх асноўныя ідэі і высновы.

М. Багдановіч – папулярызатар дасягненняў беларускай літаратуры і знаўца славянскіх літаратур.

Перыяд 1914–1916 гадоў. Верш "Пагоня" як патрыятычны запавет паэта. Паэтыка вершаў М. Багдановіча "беларускага складу". Паэмы

"Максім і Магдалена", "Мушка-зелянушка і камарык – насаты тварык" як яркі ўзор тварэння беларускага нацыянальнага эпасу.

Лірыка апошніх дзён (канец 1916–пачатак 1917 г.). Спробы новага арганічнага сінтэзу класічна-кніжных і фальклорных паэтычных палітраў. Вершы паэта пра каханне ("Маладыя гады", "Пралятайце вы, дні" і інш.) як узнёслыя гімны жыццю і жаночай красе.

Проза М. Багдановіча. Ідэйная, жанрава-стылёвая і вобразна-выяўленчая адметнасць "Апокрыфа" (1913). Праблема прызначэння мастацтва, красы як мастацкай сутнасці. Эстэтычная пазіцыя М Багдановіча. Праблемная аснова "Апавядання аб іконніку і залатару..." (1914). Публіцыстыка М. Багдановіча.

Значэнне М. Багдановіча ў гісторыі беларускай літаратуры. Вобраз М.Багдановіча ў беларускім мастацтве.

## ТВОРЧЫ ШЛЯХ АЛЕСЯ ГАРУНА (1887–1920)

А Гарун і беларускае адраджэнне. Трагічны лёс паэта. Літаратурная і грамадская дзейнасць.

Кніга паэзіі А.Гаруна "Матчын дар": структура, матывы і вобразы. Страснасць пачуццяў, багацце рытмаў і інтанацый. Наватарства паэзіі А. Гаруна. Навізна тэматыкі і настрояў, нацыянальныя ідэі і патрыятычная праблематыка, філасофскі пачатак лірыкі. Публіцыстычная сатыра і вершаваныя фельетоны А. Гаруна.

А. Гарун-празаік. Ідэйна-тэматычная і жанрава-стылёвая разнастайнасць апавяданняў. Філасофскае, лірычна-ўнёслае, алегарычнае, фантастычнае і сатырычнае ў прозе А. Гаруна.

П'есы для дзяцей. Зборнік "Жывыя казкі" (1920).

Публіцыстыка А. Гаруна. Нацыянальна-адраджэнская скіраванасць праблематыкі артыкулаў "Увагі да нацыянальнага руху", "Одгукі", "Ураженні" і інш. А. Гарун – рэдактар газеты "Беларускі Шлях".

Роля А. Гаруна ў развіцці беларускай літаратуры ХХ стагоддзя.

## ТВОРЧАСЦЬ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ (1886–1941)

Звесткі аб жыцці і творчасці. Газетна-выдавецкая дзейнасць З. Бядулі.

Паэтычны свет кнігі лірычнай прозы "Абразкі" (1913). Узмацненне суб'ектыўнай плыні ў беларускай літаратуры. Багацце настрояў і перажыванняў, мастацкае пазнанне сфераў ідэальнага і прыгожага,

стылёвая адметнасць абразкоў-імпрэсій З. Бядулі, іх алегарызм. Рэлігійна-пантэістычнае спасціжэнне цэласнасці свету, ідэя хараства як квінтэсенцыі жыцця.

Імпрэсіяністычнасць, спроба ўвекавечвання імгненнага, летуценнага ў паэзіі З. Бядулі; рэалістычна аб'ектывізаваныя вершы, пейзажная лірыка З. Бядулі.

Гуманістычны пафас, псіхалагічнае майстэрства апавяданняў З. Бядулі сацыяльна-бытавога характару ("Пяць лыжак зацірку", "Гора ўдавы Сымоніхі", "Велікодныя яйкі"). Трагедыйная канцэпцыя чалавека.

Адметнасць творчасці З. Бядулі перыяду 20-х гадоў, матывы зборнікаў паэзіі ("Пад родным небам", "Буралом") і праблематыка кніг прозы ("На зачараваных гонях", "Апавяданні", "Танзілія").

Аповесць З. Бядулі "Салавей" (1927). Гісторыя задумы і прататыпаў, тры выданні аповесці. Шматступенчатая кампазіцыя твора. Праблема жанравага вызначэння. Рамантычнае, прыгодніцкае, натуралістычнае ў аповесці. Праблематыка аповесці. Псіхалагічнае майстэрства ў вымалёўцы персанажаў "Салаўя". Майстэрства іроніі і сатыры.

Раман З. Бядулі "Язэп Крушынскі". Навізна тэматыкі, неардынарнасць галоўнага героя. Адлюстраванне сацыяльна-бытавога і фальклорна-родавага ў творы. Тэма загубленага дзяцінства ў рамане. Тэндэнцыйнасць "Язэпа Крушынскага" і ўступкі сацыялагізатарскай ідэалогіі.

Творчасць З. Бядулі 30-х гадоў. Аўтабіяграфічная аповесць "У дрымучых лясах".

З. Бядуля – аўтар твораў для дзяцей. Паэма-казка "Мурашка-Палашка" (1940).

Аповесць-казка "Сярэбраная табакерка" (1940), яе філасофскі змест, алегарычнасць. Праблемы дабра і зла, жыцця і смерці ў аповесці-казцы З. Бядулі. Сутнасць канфлікту, канкрэтызацыя карцін і псіхалагічная матывацыя паводзін герояў. Народнасць этычных ацэнак. Гнуткасць інтанацыйнай стылістыкі твора.

Публіцыстычная і крытычная творчасць З. Бядулі розных перыядаў.

Роля З. Бядулі ў станаўленні і ўзбагачэнні беларускай літаратуры першай паловы XX стагоддзя.

## АСОБА І ТВОРЧАСЦЬ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА (1893–1938)

Творчасць М. Гарэцкага – адметная старонка беларускай культуры. Лёс пісьменніка. Асноўныя перыяды творчасці. М. Гарэцкі – прадстаўнік інтэлектуальна-філасофскай прозы. Ранні перыяд творчасці (1913 – пачатак І сусветнай вайны). Інтэнсіўнае фармаванне творчай індывідуальнасці. Зборнік апавяданняў "Рунь" (1914). Пашырэнне тэматычных і жанрава-стылёвых межаў маладой беларускай прозы. Мастацкая канцэпцыя духоўнага жыцця народа. Зварот да "патаёмнага" як адзнака заглыбленасці ў сутнасць нацыянальнага менталітэту, спроба асобаснай самаідэнтыфікацыі. Адраджэнская праблематыка ў зборніку. Тэма інтэлігенцыі і народа. Новы герой нацыянальнай прозы: вясковы інтэлігент. Увасабленне тыпу сюжэтна-разгорнутага сацыяльна-псіхалагічнага апавядання. Адметнасць канфлікту ў першых апавяданнях М. Гарэцкага ("У лазні", "Роднае карэнне", "Што яно?" і інш.). "Асветніцкі" рэалізм і ранняя проза М. Гарэцкага. Наватарства прозы М. Гарэцкага. Распрацоўка гістарычнай тэматыкі: апавяданні "Лірныя спевы", "Рунь". Апавяданні лірыка-філасофскага зместу ("Красаваў язмін", "Патаёмнае", "Стогны душы") і іх адметнасць.

Драматызаваная аповесць М. Гарэцкага "Антон" (1914). Маральна-філасофскі змест твора. Жанравая адметнасць. Спалучэнне структурных і вобразна-стылёвых пачаткаў эпасу і драмы. Талент М. Гарэцкага – мастака-аналітыка. Прадстаўнікі сям'і Жабонаў. Жыццёвая і духоўная трагедыя Антона. Феномен "дваістасці" як сутнасны пачатак у нацыянальным светаадчуванні беларуса. Палемічнасць вобразаў. Адлюстраванне духоўнага крызісу грамадства. Ідэйная сутнасць сцэны ў "Славянскай кафейні". Іншыя драматургічныя творы.

Перыяд вайны і рэвалюцый (канец 1914 – канец 1918 гадоў.). Новыя сацыяльна-грамадскія ўмовы і змена мастакоўскай канцэпцыі чалавека. Адметнасць апавяданняў "Літоўскі хутарок", "Рускі", "Генерал" і інш. Гуманістычны пафас апавяданняў М. Гарэцкага пра вайну. Праблемы нацыі і свету праз прызму вайны. Класічныя традыцыі і наватарства М. Гарэцкага ў паказе вайны. Паслабленне суб'ектыўна-ацэначнага пачатку і аб'ектызаванне апавядальнай манеры пісьма. Жанр навелы ў творчасці М. Гарэцкага.

Дакументальна-мастацкія запіскі "На імперыялістычнай вайне". Гісторыя напісання твора, яго аўтабіяграфізм і дакументалізм. Паглыбленне псіхалагічнага аналізу. Праўда пра вайну і чалавека. Гуманістычны пафас твора. "Ваенныя" творы М. Гарэцкага і

творчасць прадстаўнікоў "страчанага" пакалення (Э. Хемінгуэй, Э.-М. Рэмарк, Р. Олдынгтан). М. Гарэцкі і А. Барбюс. Агульначалавечае і нацыянальнае ў прозе М. Гарэцкага.

Трэці (віленскі) перыяд творчасці М. Гарэцкага (пачатак 1918 – восень 1923 гадоў.). Працяг фарміравання светапогляднай і грамадска-палітычнай пазіцыі пісьменніка. Аповесь М. Гарэцкага "Дзве душы" (1919). "Дваенне душы" як адлюстраванне маральна-этычных, грамадска-палітычных і духоўных пошукаў герояў і самога пісьменніка. Вобразы змагароў за беларушчыну ў аповесці (Іры Сакавічанкі, Міколы Канцавога, Сухавея). Сатырычны вобраз рэвалюцыянера-бальшавік (Іван Карпавіч Гаршчок). Вобраз Васіля. Жанравая "нестандартнасць" аповесці "Дзве душы": спалучэнне рысаў дакументальнасці, жорсткага рэалізму, дэтэктыўнай авантурнасці, публіцыстычнасці.

Адметнасць апавяданняў М. Гарэцкага 1921–1922 гадоў: "Фантазія", "Апостал", "Усебеларускі з'езд 1917 года" і інш.

Проза М. Гарэцкага савецкага перыяду. Філасофскае асэнсаванне рэчаіснасці ў аповесцях М. Гарэцкага "Меланхолія" і "Ціхая плынь".

Кніга нарысаў "Сібірскія абразкі", адлюстраванне аўтарскага светапогляду і аўтарскага разумення жыцця. Лаканічнасць стылю і сімвалічны падтэкст у "Сібірскіх абразках".

Раман "Віленскія камунары" (1932). Уменне аўтара спалучаць дакументальны пачатак з мастацкім вымыслам. Няспынны рух гісторыі да перамен як агульная ідэя "Віленскіх камунараў". Вольная навелістычная кампазіцыя рамана, алюзіі на класічныя белетрыстычныя ўзоры. Лёс сям'і Мацея Мышкі. Гумар, смехавая культура ("смех скрозь слёзы") у рамане.

Нясконччаны раман М. Гарэцкага "Камароўская хроніка". Аўтабіяграфічнасць твора. М. Гарэцкі як удумлівы і аб'ектыўны мастак-летапісец. Лёс нацыі ў творы.

Філасофска-спавядальны твор М. Гарэцкага "Скарбы жыцця", алегарычная аповесць "Лявоніус Задумекус", падарожныя нататкі-дзённікі "Кіпарысы". Мастацкае супрацьстаянне таталітарызму. Вяртанне да лірыка-спавядальнай, філасофска-заглыбленай манеры пісьма. Самапаглыбленне, самасузіранне, сімвалізацыя і алегарычнасць апошніх твораў М. Гарэцкага. Багацце вобразаў-сімвалаў у "Скарбах жыцця". Жанрава-стылёвая сінтэтычнасць "Лявоніуса Задумекуса": прытчавасць, аўтабіяграфізм, гратэскавасць, парадыйнасць. Філасофская сімволіка і "плынь свядомасці" ў творы.

Навуковая і публіцыстычная дзейнасць М. Гарэцкага. Погляды М. Гарэцкага на шляхі развіцця нацыянальнай літаратуры. Культурна-

адраджэнская канцэпцыя даследчыка. Роля тэатра ў духоўным усведамленні нацыі (паводле прац М. Гарэцкага).

Адметнасць і супярэчлівасць публіцыстыкі М. Гарэцкага ў розныя перыяды творчасці.

Роля М. Гарэцкага ў развіцці нацыянальнай прозы XX стагоддзя. Вывучэнне творчай спадчыны пісьменніка.

## ТВОРЧАСЦЬ ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА (1883–1944)

Драматычны лёс пісьменніка. Тэатральная і грамадска-палітычная дзейнасць Ф. Аляхновіча.

Драматургічная творчасць Ф. Аляхновіча. Сюжэтна-тэматычныя пласты і асаблівасці грамадскага зместу п'ес Ф. Аляхновіча. Рэалістычнае і ўплыў мадэрнісцкай паэтыкі на драматургічныя творы Ф. Аляхновіча (меладрама "Страхі жыцця", п'еса "Цені"). "Маленькі" чалавек з дэфармаванай рэфлексійнай душой у драматургічных творах Ф. Аляхновіча, адметнасць эмацыянальна-псіхалагічнага ўспрыняцця жыцця героямі п'есаў. Трагічнае і песімістычнае ў творчай спадчыне драматурга.

Сямейна-бытавая камедыя Ф. Аляхновіча "Шчаслівы муж". Забаўляльнасць і арабескавая структура твора.

"Адраджэнскія" п'есы Ф. Аляхновіча. Мастакоўская эвалюцыя Ф. Аляхновіча. Перавага рэалістычных традыцый беларускай драматургіі, перавага змястоўнага над фармальным у п'есах пазнейшага перыяду. Ідэйны і праблемны змест п'есы Ф. Аляхновіча "Няскончаная драма". Бытаапісальніцкае майстэрства Ф. Аляхновіча. Аўтабіяграфічнае ў творы.

Сатырычная камедыя "Пан міністр". Майстэрства сатырычнай абмалёўкі характараў у камедыі (на прыкладзе вобраза Філімона Пупкіна).

Асэнсаванне фальклорных і некаторых літаратурных сюжэтаў у драматургічнай творчасці Ф. Аляхновіча (драматычная казка "Базылішк", п'еса-казка "Птушка шчасця", дзіцячая п'еса "У лясным гушчары"). Фальклорнае і прыпавесцевае ў камедыі Ф. Аляхновіча "Круці не круці – трэба памярці".

Ф. Аляхновіч – практык, тэарэтык і гісторык беларускага тэатральнага мастацтва. Адметнасць працы Ф. Аляхновіча "Беларускі тэатр".

"Мемуарная хроніка" Ф. Аляхновіча (нататкі-ўспаміны "У гімназіі", "Без заграні́чнага пашпарту", "У Кракаве", "Першы раз у вастрозе", "У

Коўні"; "Уражанні з падарожжа (Пехатой па краі)"; аповесць "У капцюрох ГПУ"; аповесць "Страшны год"). Аповесць "У капцюрох ГПУ" – мужнае абвінавачванне таталітарызму ва ўсялякіх ягоных праявах: і польскага шавінізму, і сталінскага тэрору. Майстэрства эстэтычнага адбору ў празаічных творах Ф. Аляхновіча, эмацыянальнае завастрэнне, глыбіня псіхалагічнай нюансіроўкі, адметнасць кампазіцыі. Аповесць Ф. Аляхновіча "У капцюрох ГПУ" ў кантэксце антытаталітарнай "гулагаўскай" прозы.

Публіцыстычная дзейнасць Ф. Аляхновіча. Ф. Аляхновіч – рэдактар газет "Беларускае Жыцьцё" і "Беларускі Звон". Адраджэнская і грамадзянская скіраванасць публіцыстычных артыкулаў Ф. Аляхновіча.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА КАНЦА 10-х – 20-х ГАДОЎ

Станаўленне беларускай дзяржаўнасці і нацыянальная культура. Беларускае нацыянальнае адраджэнне і задачы беларускага мастацтва. Складанасць умоў для культурнага і літаратурнага развіцця ў ваенны перыяд і часы акупацый Беларусі. Лёс беларускіх пісьменнікаў, іх грамадска-культурная праца. Творчая і грамадская дзейнасць Я. Купалы, А. Гаруна, В. Ластоўскага, А. Луцкевіча, Я. Лёсіка, З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага, К. Езавітава, А. Гурло, Ф. Аляхновіча, У. Галубка. Тэма радзімы і будучыні Беларусі ў творах беларускіх пісьменнікаў. Беларускія літаратары ў барацьбе за стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пачатак беларускай нацыянальнай літаратурнай эміграцыі XX стагоддзя (1918 год). Беларускія нацыянальныя і літаратурныя асяродкі ў Вільні (Вільнюсе), Коўне (Каўнасе), Дзвінску (Даўгаўпілсе). Беларускі друк 20-х гадоў за межамі БССР.

Будаўніцтва беларускай савецкай культуры ў 20-я гады. Супярэчнасць нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі.

Перыяд беларусізацыі і стварэнне нацыянальнай базы для культурнага развіцця ў Беларусі. Арганізацыя беларускага дзяржаўнага тэатра, дзяржаўнай бібліятэкі, адкрыццё універсітэта. Роля БДУ ў падрыхтоўцы нацыянальных кадраў. Літаратурныя традыцыі ў БДУ. Інбелкульт і яго здабыткі ў беларускай навуковай і літаратурна-крытычнай думцы.

Арганізацыя выдавецтва і літаратурных часопісаў. Праблема цэнзурнага дыктату ў савецкай перыёдыцы. Роля часопісаў "Полымя", "Маладняк", "Узвышша" ў развіцці беларускай літаратуры і літаратурнай мовы. Развіццё нацыянальнай прэсы.

Прыход у літаратуру маладых таленавітых творцаў. Літаратурны рух у 20-я гады. Літаратурныя аб'яднанні "Маладняк", "Узвышша", "Полымя", "Пробліск", "Камуна", "Звенья", "БелАПП" і інш. "ТАВІЗ" у гісторыі беларускай літаратуры. Станоўчае і адмоўнае ў дзейнасці літаратурных аб'яднанняў, характарыстыка іх мастацка-эстэтычных платформ і грамадзянскай пазіцыі.

Савецкі ідэалагічны і сацыялагізатарскі тэрор у галіне мастацтва. Адміністрацыйны разгром адметных літаратурных аб'яднанняў на Беларусі.

Паэзія 20-х гадоў. Узнёсласць і пераважна рамантычны характар тагачаснай паэзіі. Дасягненні ў галіне лірыкі Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, В. Ластоўскага, А. Гурло, Я. Журбы і інш.

Здабыткі "маладнякоўскай" паэзіі. Яе крайнасці. Паэзія "Узвышша", яе эстэтычна-мастацкія дамінанты. Творчая індывідуальнасць найбольш вядомых маладых паэтаў 20-х гадоў (М. Чарот, У. Дубоўка, Я. Пушча, У. Жылка, У. Хадыка, Т. Кляшторны, П. Трус, В. Маракоў, А. Дудар, А. Вольны, М. Лужанін, С. Дарожны, М. Хведаровіч, А. Александровіч. Пачатак паэтычнай творчасці Ю. Лявоннага, З. Астапенкі, А. Моркаўкі, Р. Папараці, С. Астрэйкі, В. Казлоўскага, А. Звонака, Я. Бобрыка, Я. Туміловіча, С. Фаміна, З. Бандарынай, Н. Вішнеўскай і інш.

Сатырычная плынь у паэзіі 20-х гадоў і пачатак творчасці К.Крапівы.

Узаемадзеянне беларускай паэзіі 20-х гадоў з паэзіямі суседніх народаў. Уплыў на беларускую паэзію авангардысцкіх паэтык. Паэтычныя пераклады з беларускай і на беларускую мову.

Развіццё беларускай паэмы ў 20-я гады. Паэмы Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, М. Грамыкі, М. Чарота, У. Дубоўкі, Я.Пушчы, У. Жылкі, К. Крапівы, М. Лужаніна, А. Александровіча, А.Дудара, П. Труса, П. Глебкі, А. Звонака, Ю. Таўбіна і інш.

Стылёва-жанравыя пошукі паэмы, яе праблемная і тэматычная разнастайнасць. Адлюстраванне гістарычнага мінулага ў беларускай паэме. Сатырычныя і алегарычныя элементы ў паэме 20-х гадоў.

Паэмы Я. Коласа "Новая зямля" і "Сымон-музыка" – выдатная дасягненне беларускага паэтычнага эпасу. Іх роля ў развіцці беларускай літаратуры.

Проза 20-х гадоў. Развіццё беларускага апавядання. Тэматыка, ідэйны змест, жанрава-стылёвая адметнасць апавяданняў Я. Коласа, М. Гарэцкага, З. Бядулі, К. Чорнага, М. Зарэцкага, Ц. Гартнага, П. Галавача, М. Чарота, М. Лынькова, В. Каваля, Я. Скрыгана, Л. Калюгі,

Б. Мікуліча, Х. Шынклера і інш. Моцныя і слабыя бакі беларускага апавядання 20-х гадоў.

Развіццё аповесці. Адлюстраванне мінулага, праблематыка і стыль аповесці З. Бядулі "Салавей". Выкрыццё імперыялістычнай вайны і гуманістычны пафас кніг М.Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне" і "Ціхая плынь". Псіхалагізм і аўтабіяграфічнасць аповесці пісьменніка "Меланхолія". Асаблівасці ранняй маладнякоўскай аповесці аб грамадзянскай вайне.

Праблематыка і стылёвая спецыфіка аповесцяў К. Чорнага, М. Лынь-кова, Л. Калюгі, С. Баранавых і інш. Сатырычная аповесць М. Зарэцкага "Голы звер", Р. Мурашкі "У іхнім доме". Адметнасць аповесці Л. Калюгі "Ні госць, ні гаспадар".

Станаўленне рамана. Першыя кнігі трылогіі Я. Коласа "На ростанях", "Сцежкі-дарожкі" М.Зарэцкага, "Сястра" і "Зямля" К. Чорнага, "Сокі цаліны" Ц. Гартнага, "Сын" Р.Мурашкі, першы том рамана З. Бядулі "Язэп Крушынскі".

Шырыня храналагічнага ахопу, багацце жыццёвага зместу, шматграннасць праблематыкі гэтых твораў, наватарства ў стылёвых пошуках, вартасці і недахопы. Сатырычны раман А.Мрыя "Запіскі Самсона Самасуя". Традыцыі беларускага рамана 20-х гадоў у беларускай прозе XX стагоддзя.

Поспехі беларускай прозы для дзяцей. Апавяданні і аповесці Я. Маўра, яго раман "Амок". Апавяданні А. Якімовіча.

Драматургія 20-х гадоў. П'еса Я. Купалы "Тутэйшыя" як мастацкая мадэль нацыянальнага быцця беларусаў. Ідэі, праблематыка, героі, стылёвая адметнасць. Пытанне жанравай класіфікацыі п'есы. Лёс сцэнічнага ўвасаблення.

Постаць Ф. Аляхновіча ў гісторыі беларускай драматургіі. Роля У. Галубка ў станаўленні беларускага тэатра, у развіцці беларускай драматургіі. Праблематыка п'ес У. Галубка, іх жанрава-стылёвая адметнасці. Аналіз камедый У. Галубка "Пісаравы імяніны", "Суд", меладрамы "Ганка". Трагічны лёс драматурга.

Роля Е. Міровіча ў гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Шырыня тэматычнага і жанравага дыяпазону яго драматычных твораў. Аналіз гістарычный драмы "Кастусь Каліноўскі", сатырычнай камедыі "Кар'ера Брызгаліна".

Падзеі мінулага, рост свядомасці народных мас у п'есах "Панскі гайдук" Н. Бываеўскага (Я. Дылы), "Скарынін сын з Полацка" М. Грамыкі, "Хвалі жыцця" Ц.Гартнага, "Чырвоныя ружы" М. Гарэцкага.

Праблемы і іх мастацкае вырашэнне ў п'есах В. Шашалевіча "Змрок" і "Воўчыя ночы".

Беларускі вадэвіль ("Мікітаў лапаць" М. Чарота, "Збянтэжаны Саўка" Л. Родзевіча, "Жартаўлівы Пісарэвіч" М. Гарэцкага).

Фальклорна-рамантычныя п'есы ("На Купалле" М. Чарота, "Вяселле" В. Гарбацэвіча, "Машэка" і "Каваль-ваявода" Е. Міровіча).

П'есы "Бацька і сын", "Спявай, вясна" В. Сташэўскага, "Гута" Р. Кобеца, "Мост" Я. Рамановіча.

Тэма Заходняй Беларусі ў драматургіі (п'есы М.Грамыкі "Над Нёманам", В.Сташэўскага "Арханге́лы з крэсаў").

Драматычныя творы для дзяцей.

Крытыка і літаратуразнаўства ў літаратурным працэсе 20-х гадоў. Працы І. Замоціна, А. Барычэўскага, У. Дзяржынскага і інш. Творчая асоба А. Бабарэкі. Крытыка маладых (Ант. Адамовіча, Ю. Бярозкі і інш.). Апалагеты вульгарызатаршчыны ў беларускай крытыцы канца 20-х гадоў.

Значэнне беларускай літаратуры 20-х гадоў. Яе сувязь з літаратурай наступных перыядаў.

Літаратурная творчасць беларусаў замежжа (10—30-я гады XX стагоддзя). Паэзія, проза, драматургія.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 30-х ГАДОЎ

Адмоўныя тэндэнцыі ў грамадскім жыцці 30-х гадоў, звязаныя з перыядам таталітарызму і культам асобы. Рэпрэсаванне дзеячоў беларускай літаратуры. Беларускі літаратурны мартыралог. Страчаныя і знішчаныя пакаленні ў беларускай літаратуры. Ідэалагічны дыктат у мастацтве 30-х гадоў. Усталяванне сацыялістычнага рэалізму ў эстэтыцы. Шаблоннасць і зададзенасць у літаратуры таго часу. Супрацьстаянне таталітарызму ў творах 30-х гадоў М. Гарэцкага, Л. Калюгі, А. Мрыя, М. Зарэцкага і інш.

Глыбіня рэалістычнага даследавання дакалгаснай вёскі ў рамане К. Крапівы "Мядзведзічы". Недахопы твора.

Раманы М. Зарэцкага "Вязьмо", П.Галавача "Праз гады", М. Гарэцкага "Віленскія камунары" і "Камароўская хроніка" (праблематыка твораў, героі, жанравыя, сюжэтна-кампазіцыйныя і моўна-стылёвыя асаб-лівасці).

Роля К. Чорнага ў развіцці эпічнага і філасофскага пачатку, псіхалагічнай заглыбленасці, аналітычнасці і гістарызму, моўна-стылёвых сродкаў прозы 30-х гадоў (раманы "Бацькаўшчына", "Трэцяе пакаленне"). Уплыў ідэалагічнага дыктату на творчасць

пісьменніка. Значэнне чорнаўскіх традыцый у гісторыі беларускай літаратуры.

Паказ псіхалагічных зрухаў пад уплывам новай рэчаіснасці ў апавяданнях М. Лынькова, у творах Э. Самуйлёнка, В. Каваля і іншых пісьменннікаў.

Тэма Заходняй Беларусі ў прозе 30-х гадоў (апавяданні К. Чорнага, зборнік "Сустрэчы" М.Лынькова і інш.).

Эстэтычнае асваенне гарадской рэчаіснасці і жыцця працоўных у зборніках "малой" прозы Ц. Гартнага, К. Чорнага, Р. Мурашкі, Я. Скры-гана, М. Лынькова, Ю. Віцьбіча, у аповесцях П. Броўкі "Каландры", Х. Шынклера "Сонца пад шпалы" і інш.

Поспехі і недахопы беларускага нарыса ў 30-я гады (нарысы Я. Скрыгана, М. Зарэцкага, Ю. Лявоннага, В. Сташэўскага, П. Галавача, М. Лынькова і інш.).

Здабыткі беларускай прозы для дзяцей (аповесці Я. Маўра "Палескія рабінзоны", "ТВТ", А. Якімовіча "Перамога", "Незвычайны мядзведзь", В. Сташэўскага "Шуміць бярэзінка", С.Баранавых "Пастка", Х. Шын-клера "Петрык-завадатар", В. Каваля "Санька-сігналіст", М. Лынькова "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў" і "Міколка-паравоз", З. Бядулі "У дрымучых лясах", К. Чорнага "Насцечка", М. Паслядовіча "Магістральны канал", а таксама апавяданні Я. Коласа, К. Чорнага, Я. Маўра, М. Лынькова, А. Якімовіча, Л. Чарняў-скай,У. Краўчанкі, А. Стаховіча і інш.).

Паэзія. Творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, Т. Кляшторнага, У. Хадыкі, А. Звонака, М. Лужаніна, В. Маракова і інш. Уплыў сацыялагізатарскага і ідэалагізатарскага шальмавання на іх творчасць. Уклад у развіццё паэзіі 30-х гадоў паэтычнай моладзі (П.Панчанка, А. Куляшоў, А. Ушакоў, А. Жаўрук, М. Сурначоў, А. Коршак, Р. Няхай, А. Бялевіч, А. Бачыла, К. Кірэенка, М. Аўрамчык, А. Русак, А. Русецкі і інш.). Схільнасць паэзіі 30-х гадоў да рэалістычных сродкаў пісьма, прастаты і выразнасці ў выяўленні духоўнага свету чалавека, арыентацыя на фальклорныя, народна-песенныя традыцыі. Спрошчанасць і схематызм паэзіі 30-х гадоў і неспрыяльнае ўздзеянне на яе ідэалагізатарскіх дагматаў, выдаткі лірыкі, абумоўленыя агульнай атмасферай часу (элементы прыхарошвання і лакіроўкі рэчаіснасці, ілюстрацыйнасць, павярхоўнае апісаль-ніцтва і пад.).

Уплыў на беларускую паэзію класікі XIX стагоддзя (А. Пушкін, А. Міцкевіч, М. Лермантаў, Т. Шаўчэнка, М. Някрасаў), творчага вопыту У. Маякоўскага, С. Ясеніна (канец 20-х – пачатак 30-х гадоў), А. Твардоўскага, П. Тычыны і іншых прадстаўнікоў суседніх літаратур.

Узмацненне патрыятычнага пафасу ў вершах перадваеннага часу. Патрыятычнае гучанне твораў на заходнебеларускія матывы. Тэма гістарычнага лёсу беларускага народа ў гэтых творах.

Праблемна-тэматычная і жанрава-стылёвая адметнасць беларускай паэмы. Уклад у развіццё гэтага жанру Я. Коласа, Я. Купалы, А. Куляшова, А. Александровіча, А. Дудара, М. Лужаніна, Ю. Таўбіна, В. Маракова, А. Звонака і інш.

Сатырычнае ў беларускай паэме 30-х гадоў ("Беластоцкія вітрыны" П. Панчанкі, "Хвядос – Чырвоны нос" К. Крапівы).

Драматургія. Тэматычны змест і праблематыка беларускай драматургіі 30-х гадоў. Недабратворны ўплыў грамадска-палітычнай атмасферы на творчасць беларускіх драматургаў.

Дасягненні і слабасці драматургіі той пары.

Выкарыстанне фальклорных матываў і традыцый старажытных беларускіх інтэрмедый у драматургіі В. Вольскага ("Дзед і жораў", "Цудоўная дудка", "Несцерка"), Аналіз п'есы "Несцерка", яе народнасць, значэнне ў гісторыі беларускай драматургіі.

Крытычная і літаратуразнаўчая думка 30-х гадоў, яе набыткі і выдаткі.

Адмоўны ўплыў сталінскага таталітарызму і савецка-імперскай палітыкі на развіццё беларускай літаратуры 30-х гадоў, іх уздзеянне на маральную і творчую атмасферу ў пісьменніцкім асяроддзі.

## ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (1921–1939)

Гвалтоўны падзел Беларусі Рыжскай дамовай 1921 года. Ідэйная сувязь заходнебеларускай літаратуры з агульнанацыянальнай літаратурай.

Заходнебеларускі друк і яго роля ў развіцці літаратурнага працэсу. Беларускія віленскія перыядычныя выданні і іх роля ў развіцці беларускай літаратуры, літаратуразнаўства і публіцымстыкі (газеты "Беларускія Ведамасці", "Беларускае Жыццё", "Беларускі Звон", часопісы "Наша Будучына", "Маладое Жыццё", "Беларуская Культура", "Калоссе", "Нёман" і інш.

Значэнне асветніцкай, выдавецкай і рэдактарскай дзейнасці Ф.Аляхновіча, М.Краўцова, М.Гарэцкага для згуртавання і выхавання заходнебеларускіх літаратараў пачатку 20-х гадоў.

Дзейнасць "Грамады", ТБШ і іншых беларускіх нацыянальных арганізацый. Ідэя ўз'яднання беларускага народа ў адзінай дзяржаве ў творчасці заходнебеларускіх пісьменнікаў.

Літаратурна-філасофскае эсэ І.Канчэўскага (І.Абдзіраловіча) "Адвечным шляхам".

Вобразныя рэаліі вайны ў паэзіі А.Смаленца. Вершы і апавяданні М.Краўцова.

Паэма Л.Родзевіча "Беларусь".

"Самадзейная" паэзія. Яе роля ў станаўленні творчасці М.Васілька, А.Салагуба, М.Машары, С.Новіка-Пеюна і іншых літаратараў.

Зборнікі вершаў У.Дубоўкі, У.Жылкі, Н.Арсенневай, М.Машары, М.Васілька, М.Танка, выдадзеныя ў 20 і 30-я гады ў Заходняй Беларусі і Вільні, іх мастацкая і ідэйная адметнасць. Папулярнасць беларускай паэзіі сярод студэнцтва і інтэлігенцыі краю.

Роля паэзіі М.Танка і яго літаратурна-крытычнай дзейнасці ў развіцці беларускай літаратуры 30-х гадоў.

Наступленне рэакцыі на беларускую літаратуру ў пачатку 30-х гадоў.

Прадстаўнікі рамантычнай, натуралістычнай і клерыкальнай плыняў у заходнебеларускай літаратуры (К.Сваяк, А.Бартуль, Я.Быліна і інш.).

Творчасць Хв.Ільяшэвіча, С.Хмары-Сіняка, М.Засіма, Н.Тарас, А.Іверса, А.Мілюця, А.Бярозкі, С,Крыўца, А.Салагуба, А.Дубровіча (А.Рэдзькі) і інш. Грамадзянскі пафас, галоўныя матывы і вобразна-выяўленчыя сродкі паэзіі.

Паэзія П.Пестрака. Актыўнасць грамадзянскай пазіцыі, асацыятыўнасць у яго паэтычным мысленні.

Творчасць В.Таўлая. Эстэтычная дасканаласць яго лепшых вершаў. Паэмы "Кобрыншчына", "Песня пра сухар", іх праблематыка, жанрава-структурныя асаблівасці, адметнасць стылю.

Публіцыстыка А.Луцкевіча, Ф.Аляхновіча, М.Гарэцкага, М.Краўцова, У.Самойлы, Л.Родзевіча, А.Смоліча, С.Рак-Міхайлоўскага, А.Цвікевіча. "Лукішскі дзённік" А.Салагуба, прамовы Б.Тарашкевіча і іншых лідэраў нацыянальнага руху Заходняй Беларусі.

Роля заходнебеларускай літаратуры і нацыянальна-асветніцкай публіцыстыкі ў літаратурным і грамадскім жыцці Беларусі 20-30 гадоў.

## ТВОРЧАСЦЬ МІХАСЯ ЧАРОТА (1896–1937)

Біяграфія паэта. Актыўная грамадска-культурная і рэдактарская праца ў 20-я гады. Роля М.Чарота ў арганізацыйным аб'яднанні маладых пісьменнікаў 20-х гадоў, у стварэнні і дзейнасці літаратурнай арганізацыі "Маладняк".

"Маладнякоўскі" характар творчасці М.Чарота, яе рамантычная ўзнёсласць, адкрытая пафаснасць, заклікавасць. Традыцыі "нашаніўства" ў ранняй лірыцы паэта. Праявы "левага авангардызму" ў творчасці М.Чарота маладнякоўскага перыяду. Матывы чаротаўскай лірыкі 20-х гадоў. Эмацыянальны і вобразны свет паэзіі М.Чарота. Абстрактная сімволіка, рытарычнасць, дэкларацыйнасць у некаторых вершах паэта. Пейзажная лірыка М.Чарота, сімвалізм яе вобразаў.

Паэма М.Чарота "Босыя на вогнішчы". Папулярнасць паэмы ў 20-я гады, яе жанравая адметнасць. Паказ супярэчлівасці рэвалюцыйнай рэчаіснасці ў паэме. Сюжэтная лінія змагання Працы і Багацця (Капітала). Карыкатурныя вобразы "былых" у паэме. Эвалюцыя вобраза крыжа ў творы як сімвала пакут народа і яго вызвалення-ўваскрашэння. Мастацка-стылявыя асаблівасці паэмы (аратарскі пафас, аптымістычная танальнасць, вобразы сімволіка-рамантычнага гучання, багацце рытміка-меладыйнага малюнка. Кампазіцыя паэмы. Інтанацыйна-рытмічны малюнак верша. Экспрэсія мастацкага вобраза. Кантрастнасць выяўленчых сродкаў. Узаемадзеянне рамантычна-сімвалічнага і рэальна-бытавога планаў у творы. Моўная фактура паэмы. "Босыя на вогнішчы" М.Чарота і "Дванаццаць" А.Блока.

Проза М.Чарота (зборнік апавяданняў "Веснаход", аповесць "Свінапас"). Вартасці і недахопы прозы пісьменніка.

Драматургія М.Чарота (п'есы "На Купалле", "Мікітаў лапаць", драматычныя творы для дзяцей). Роля чаротаўскай драматургіі ў гісторыі беларускага тэатральнага мастацтва.

Цяжкасці творчага развіцця пісьменніка ў 30-я гады.

Месца і роля М.Чарота ў беларускай літаратуры. Уплыў яго паэзіі на творчасць маладых пісьменнікаў 20-х гадоў.

## ТВОРЧАСЦЬ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА (1900–1944)

Лёс пісьменніка. Вытокі творчасці. Жыццёвы вопыт і мастакоўскае станаўленне. Роля традыцый беларускай і сусветнай класікі ў развіцці творчай індывідуальнасці празаіка.

Раннія апавяданні К.Чорнага са зборнікаў "Апавяданні", "Срэбра жыцця", "Па дарозе", "Хвоі гавораць", "Пачуцці", "Вераснёвыя ночы" і інш. Праблематыка і асноўныя матывы ранніх апавяданняў К.Чорнага. Імпрэсіянізм у стылі К.Чорнага

Увага да жыцця "маленькага чалавека". Праблемы рэвалюцыі і гуманістычных каштоўнасцей. Апяванне хараства роднай прыроды. Тэма грамадзянскай вайны ў апавяданнях К.Чорнага. Адлюстраванне карэнных зменаў у сялянскім жыцці і адмоўных бакоў вясковага побыту.

Філасофска-эстэтычныя пошукі К.Чорнага ў зборніку "Пачуцці". Філасофскі падтэкст у іншых апавяданнях пісьменніка, яго цікавасць да глыбінных праяў народнай псіхалогіі, роздум над сэнсам жыцця чалавека. Гуманістычны пафас чорнаўскіх апавяданняў, іх лірызм, адкрытая паэтычнасць, эмацыянальная насычанасць, сімволіка. Глыбіня канкрэтна-рэалістычных малюнкаў у апавяданнях К.Чорнага.

Адметнасць сатырычных апавяданняў К.Чорнага. Моўны каларыт апавяданняў, майстэрства дыялогаў.

Асноўныя этапы станаўлення стылю К.Чорнага-апавядальніка. Мастацкая дасканаласць яго лепшых апавяданняў ("На беразе", "Дзень", "Хвоі гавораць", "Сцены", "Вераснёвыя ночы", "Мураваны скляпок" і інш.). Роля апавяданняў у станаўленні чорнаўскага майстэрства псіхалагічнага аналізу і ў выспяванні маштабных празаічных твораў.

Першыя раманы празаіка ("Сястра", "Зямля") і сусветная традыцыя. Наватарства маладога раманіста. Праблема інтэлігенцыі і народа ў рамане "Сястра". Скіраванасць гуманістычнага пафасу твора. Пошукі сучаснага героя. Вобраз Ваці Браніслаўца, пытанне прататыпу. Скрупулёзнасць псіхалагізму, ускладненасць кампазіцыі, замаруджанасць дзеяння.

Адлюстраванне жыцця беларускай вёскі напярэдадні калектывізацыі ў рамане "Зямля". Вобраз зямлі як нацыянальнай архетыповай катэгорыі. Паказ глыбінных змен у свядомасці сялянства. Вобразы Тамаша і Алеся. Падтэкставая глыбіня твора. Роля групавых сцэн і дыялогаў у паказе сялянскай масы.

Праблема калектывізацыі ў аповесцях К.Чорнага "Лявон Бушмар", "Вясна", рамане "Ідзі, ідзі".

Раман "Бацькаўшчына". Сацыяльна-гістарычная аснова твора. Яго жанр. Шматграннасць і філасофская заглыбленасць праблематыкі. Чалавек і гісторыя ў рамане.

Вобраз Леапольда Гушкі. Драматызм яго лёсу. Адметнасць і сіла характару. Адлюстраванне асноўных этапаў станаўлення

самасвядомасці Гушкі. Гістарычная канкрэтнасць абставін і гістарызм характараў у рамане. Мастацкія пралікі твора, звязаныя з уплывам сацыялістычнага рэалізму.

Сюжэт і кампазіцыя твора. Пейзаж у рамане. Аўтарская мова і мова як сродак індывідуалізацыі характараў.

Раман "Трэцяе пакаленне". Праблематыка рамана. Праблема новага прачытання твора. Адлюстраванне станаўлення "новай маралі" ў творы.

Вобраз Міхала Тварыцкага. Складанасць і жыццёвая супярэчлівасць маральнага і духоўнага вобліку героя. Праблемы ўласніцтва і "новай маралі". Схематызм у паказе галоўных герояў.

Вобразы Зосі Тварыцкай і Ірыны Назарэўскай. Пераканальнае і павярхоўнае ў іх паказе.

Стыль рамана. Асаблівасці сюжэтна-кампазіцыйнай будовы. Элементы прыгодніцтва ў сюжэце. Пейзаж і мастацкая дэталь у рамане.

Праблематыка аповесці "Люба Лук'янская". Сюжэт, кампазіцыя і мова твора.

Творы К.Чорнага для дзяцей (аповесць "Насцечка").

Драматургія (п'есы "Бацькаўшчына", "Ірынка"). Жанравая адметнасць п'ес К.Чорнага як сацыяльна-псіхалагічных драм. Традыцыі Я.Купалы ў драматургіі К.Чорнага, яе роля ў гісторыі беларускага тэатра.

Творчасць К.Чорнага перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Публіцыстычныя артыкулы, нарысы і фельетоны ваеннага часу.

Апавяданні перыяду Вялікай Айчыннай вайны ("Бацька", "Маленькая жанчына", "Аксініны сляды", "Вялікае сэрца", і інш.). Адлюстраванне велічы простага чалавека, яго патрыятызму, свабодалюбства і самаахвярнасці ў барацьбе з фашызмам. Гуманістычны пафас ваенных апавяданняў К.Чорнага, іх псіхалагізм і філасафічнасць. Элементы ўмоў-насці ў паказе канкрэтных абставін вайны.

Эпічныя творы пісьменніка ваеннага часу. Спроба філасофскага асэнсавання эпохі ў раманах "Пошукі будучыні", "Вялікі дзень" і "Млечны шлях". Фундаментальная праблема чалавечага існавання ў раманах ваеннага перыяду К.Чорнага і агульнаеўрапейскі кантэкст.

Сцверджанне высокай чалавечнасці людзей працы ў рамане "Пошукі будучыні". Філасофскае асэнсаванне падзей і шырокі гістарычны фон рамана. Героі рамана і іх духоўныя каштоўнасці. Апяванне хараства беларускай душы. Сутыкненне супрацьлеглых сіл

дабра і зла ў рамане. Нацыянальныя і рэлігійныя моманты ў змаганні за жыццё. Жанрава-стылёвая адметнасць рамана "Пошукі будучыні".

Панарама сутыкнення сіл дабра і зла ў рамане "Вялікі дзень". Праблема Радзімы як духоўнага паняцця. Вобраз Максіма Астаповіча ў рамане. Паказ масавага знішчэння беларусаў. Сімволіка рамана.

Філасофскі змест рамана К.Чорнага "Млечны шлях". Бачанне нацыянальнай гісторыі на агульнасусветным фоне. Маштабнасць аўтар-скай думкі. Гуманістычнае гучанне рамана. Вобраз Уладзіміра Ярмаліц-кага. Умоўнасць сітуацый і жанравая прырода твора.

Аптымістычны пафас эпічнай прозы К.Чорнага ваеннага часу, яе аналітычная глыбіня ў асэнсаванні чалавека, страснасць у сцверджанні гуманістычных каштоўнасцяў чалавецтва.

Дзённікавыя запісы К.Чорнага.

Традыцыі прозы К.Чорнага ў беларускай літаратуры. Імкненне К.Чорнага наблізіць нацыянальную прозу на сусветных маштабных адкрыццяў. Традыцыя Ф.Дастаеўскага, Л.Талстога, А.Бальзака, Э.Заля і У.Фолкнера ў творчасці К.Чорнага.

Перакладчыцкая дзейнасць К.Чорнага.

Літаратурна-крытычныя артыкулы пісьменніка. Іх значэнне для станаўлення эстэтычнай думкі на Беларусі.

К.Чорны – класік беларускай нацыянальнай прозы.

Бібліяграфія арыгінальных выданняў пісьменніка.

Крытычныя і літаратуразнаўчыя працы, прысвечаныя творчасці К.Чорнага.

## ТВОРЧАСЦЬ УЛАДЗІМІРА ДУБОЎКІ (1900–1976)

Жыццёвы і творчы шлях паэта. Адметнасць творчай індывідуаль-насці У.Дубоўкі. Арыентацыя на мастацкі вопыт Я.Купалы, М.Багдано-віча, на еўрапейскую паэтычную і нацыянальную фальклорную трады-цыі, на вопыт імажынізму і канструктывізму. У.Дубоўка – лідэр літара-турнага згуртавання "Узвышша". Праблема свабоды творчасці ў таталі-тарным грамадстве. Сібірская "адысея" паэта.

"Маладнякоўскія" паэмы У.Дубоўкі. Лірыка 20-х гадоў: кнігі "Строма", "Там, дзе кіпарысы", "Трысцё", "Credo", "Наля"; гісторыя іх стварэння і выхаду ў свет. Узвышана-рамантычны характар творчасці паэта. Патрыятычны пафас лірыкі У.Дубоўкі. Вобраз Беларусі ў вершах. Аптымістычныя інтанацыі ў творах У.Дубоўкі першай паловы 20-х гадоў. Мажор і мінор у інтымных вершах,

катэгорыі праўды і красы ў інтэрпрэтацыі паэта, гатоўнасць лірычнага героя да самаахвярнага змагання за лепшую будучыню Радзімы. Рост трагічных настрояў у лірыцы другой паловы 20-х гадоў. Прарочыя матывы ў некаторых творах У.Дубоўкі. Мастацкая дасканаласць і музычнасць лепшых вершаў паэта. "Узвышаўскія" эстэтычна-мастацкія знакі ў паэзіі У.Дубоўкі: аквітызм, краса, арфізм, гістарычны культурызм, дынамізм, сугестыўнасць, дэміургавасць. Высокая культура вершаў, іх рытмічная разнастайнасць, багатая гукавая інструментоўка паэтычнага радка, метафарычнасць і асацыятыўнасць вобразнага мыслення. Паспяховыя спробы У.Дубоўкі ўзбагаціць выяўленчыя магчымасці літаратурнай мовы, узмацніць абстрагаванасць і гнуткасць беларускага мастацкага слова, пашырыць сферу эстэтычнага ў літаратуры. Клопат пра культуру творчасці.

Цыкл ліра-эпічных паэм У.Дубоўкі "Кругі", "І пурпуровых ветразяў узвівы", "Штурмуйце будучыні аванпосты!". Творчая гісторыя паэтычнай трылогіі. Унутраная сувязь гэтых твораў, іх філасофская праблематыка, адлюстраванне рэчаіснасці 20-х гадоў. Мастацкі роздум аб жыцці і яго супярэчнасцях, аб сутнасці чалавечага шчасця. Развагі пра лёс мастацтва, яго змест і форму. Маральна-этычныя, сацыяльныя і псіха-лагічныя праблемы. Умоўнасць і абагульненасць персанажаў. Палемічнасць і эксперыментальнасць паэм, неаднароднасць іх структурных элементаў, кампазіцыйная ўскладненасць (лірычныя і філасофскія адступленні, аўтарскія рэмаркі і каментарыі). Праблема жанравага вызначэння паэм У.Дубоўкі.

Творчая гісторыя "Браніславы". Праблемны змест твора. Унутраны драматызм, эпічныя апавядальнасць паэмы.

Папулярнасць Дубоўкавай паэзіі ў 20-я гады, яе ўплыў на творчасць іншых пісьменнікаў таго часу. Ацэнка таленту У.Дубоўкі Я.Купалам.

Актыўны ўдзел У.Дубоўкі ў літаратурна-культурным і грамадска-палітычным жыцці рэспублікі ў 20-я гады. У.Дубоўка як літаратурны крытык і тэарэтык у розных галінах мастацтва.

Мужная грамадзянская пазіцыя У.Дубоўкі і яго няскоранасць бальшавіцка-сталінскаму генацыду. Гісторыя напісання і лёс верша У.Дубоўкі "На ўшанаванне новага падзелу Беларусі" ("За ўсе краі, за ўсе народы свету..."). Вершы У.Дубоўкі перыяду зняволення. Лёс творчай спадчыны паэта.

Рэабілітацыя паэта і вяртанне да літаратурнай творчасці ў канцы 50-х гадоў. Вершаваныя цыклы У.Дубоўкі "Чакае ля берагу човен

мяне", "Пасля вандравання", "Палеская рапсодыя", "Светлыя ўспаміны", "Дактылічныя рытмы". Знітаванасць з часам, патрыятычны змест і ўплыў ідэалагічных догмаў на творчасць паэта.

Балады паэта, іх тэматыка і мастацкія асаблівасці.

Гістарычная праблематыка ў хроніцы У.Дубоўкі "Крычаўская спакуса".

Зварот да падзей Вялікай Айчыннай вайны ў паэмах "Перад іменем Любові", "Беларуская Арыядна". Паказ маральнай чысціні, душэўнай прыгажосці і самаахвярнасці жанчыны ў гэтых паэмах.

Вершаваныя апрацоўкі народных сюжэтаў рознай жанравай прыроды ў творчасці паэта. Умоўнасць жанравых вызначэнняў у Дубоўкавых вершаваных апрацоўках, гнуткасць апавядальнай манеры.

Навукова-прыгодніцкія аповесці для дзяцей "Жоўтая акацыя" і "Ганна Алелька", іх практычна-прыкладны ўхіл, арыентаванасць на выхаванне патрыятычных і нацыянальных пачуццяў.

Гісторыя напісання, глыбіня маральна-этычнага зместу і багацце псіхалагічнай нюансіроўкі ў кнізе "Пялёсткі". Аўтабіяграфічнасць твора. Адметнасць стылістыкі і каларытнасць мовы.

Перакладчыцкая праца паэта, іншасказальнасць і алегарычнасць некаторых вершаваных перакладаў, магчымасць перамагчы савецкую цэнзуру. Паэтычныя пераклады з Байрана, Шэкспіра, кітайскай паэзіі і інш.

Значэнне творчасці У.Дубоўкі ў гісторыі беларускай літаратуры. Ацэнка яго постаці ў крытыцы і літаратуразнаўстве.

## ПАЭЗІЯ ЯЗЭПА ПУШЧЫ (1902–1964)

Біяграфія паэта.

Творчая манера ранніх вершаў Я.Пушчы. Зборнік "Раніца рыкае":асноўныя матывы, сувязь з жывой, адухоўленай прыродай, багацце паэтычнай каларыстыкі і гукавой насычанасці. Вобразная арнаментальнасць стылю, метафарычная квяцістасць.

Ускладненне мастацка-эстэтычных поглядаў, іх якасная эвалюцыя і вырашэнне сучасных задач літаратуры ў зборніку "Vita". Спалучэнне рамантычнага і рэчаіснага, асацыятыўнага і натуралістычнага, ідэальнага і рэальнага. Матывы роспачы, тугі і прадчуванне катастрофы ў другім зборніку Я.Пушчы.

Працяг ранейшых тэм, паэтычны суб'ектывізм і ўзмацненне мінорных матываў у зборніку "Дні вясны".

Эвалюцыя мастацкага светапогляду Я.Пушчы: шлях ад ранняга імажынізму да глыбокай сімвалічнасці, алегарычнасці, філасофскага асэнсавання, прарочых абагульненняў і экзістэнцыянальных высноў.

Паэтычная трылогія Я.Пушчы: паэмы "Песня вайны", "Цень Консула" і "Крывавы плакат". Адчуванне парушэння гаомоніі ў свеце, страты боскага пачатку, веры ў вечнасць прыгажосці. Праблема ўлады і біблейская сімволіка ў паэме "Цень Консула".

Ідэйная і фамальная адметнасць "Лістоў да сабакі". Лёс кніг Я.Пушчы "Мой маніфест" і "Грэшная кніга".

Лірыка Я.Пушчы перыяду высылкі (вершы "На этапе", "Сыну", "На свеце боль і смутак ёсць...", "Іду і падаю пад крыжам" і інш.).

Творчасць Я.Пушчы 50-х гадоў. Ідэйная і мастацкая адметнасць кнігі "Бор шуміць". Паэмы "Бор шуміць", "Людвіся", прысвечаныя гераічнай барацьбе беларускага народа супраць фашысцкіх акупантаў. Мастацкая праўда і ідэалагічная кан'юнктура ў вершах "сонечнай" тэматыкі, вершах услаўлення працоўнага энтузіязму.

Творы Я.Пушчы для дзяцей.

## ТВОРЧАСЦЬ УЛАДЗІМІРА ЖЫЛКІ (1900–1933)

Жыццёвы і творчы шлях У.Жылкі. Перыяды творчасці. Спалучанасць у паэзіі лепшых нацыянальных і еўрапейскіх мастацкіх традыцый (творчасці М.Багдановіча, А.Міцкевіча, А.Блока, Ш.Бадлера, П.Б.Шэлі і інш.). У.Жылка і беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух.

Мастацкая і ідэйная адметнасць кніг У.Жылкі "Уяўленне", "На ростані", "З палёў Заходняй Беларусі". Галоўныя матывы лірыкі. Паяднанасць эстэтычнага і грамадзянскага, інтымнага і патрыятычнага. Урбаністычны цыкл "Вершы аб Вільні". Ідэя харства ў лірыцы У.Жылкі. Адметнасць Жылкавай уяўленчай мастацкай канцэпцыі. Наватарства і фармальнае багацце вершаў У.Жылкі.

Гісторыя напісання і выхаду ў свет, ідэйная аснова і мастацкая адметнасць "Тастамента" У.Жылкі.

Проза, крытыка, публіцыстыка і эпісталярная спадчына У.Жылкі.

Значэнне творчасці У.Жылкі ў гісторыі беларускай літаратуры. Ацэнка яго постаці ў крытыцы і літаратуразнаўстве.

## ТВОРЧАЯ АСОБА АНДРЭЯ МРЫЯ (1893–1943)

Лёс і творчы шлях пісьменніка.

Раннія творы А.Мрыя: замалёўкі, абразкі, кароткія апавяданні і нарысы ("Тварам да вёскі", "Разбудзілі", "Пятрок", "На кірмашы"). Адлюстраванне ў іх жыццёвых здарэнняў, уражанняў, незвычайных характараў.

Якасная эвалюцыя А.Мрыя-ўзвышаўца. Адметнасць апавяданняў празаіка "Калектыў Яўмена", "Рабін", "Гармонія ў ружовым" і інш.

Раман А.Мрыя "Запіскі Самсона Самасуя". Рысы антыўтопіі ў рамане, функцыі прароцтва і папярэджання. Праблематыка твора. Узвышэнне ад факта адзінкавага да абагуленага, да разгорнутай сацыяльнай сатыры, крытычнага погляду на рэчаіснасць. Галоўны герой рамана як сатырычны тып невука і дэмагога, народжанага новым часам. Праблема самасуеўшчыны. Мрыеўская Шапялёўка і яе "героі". Адметнасць паэтыкі твора. Універсальнасць мастацкага смеху, сацыяльны крытыцызм і алегарычнасць рамана. Багацце смехавых адценняў: іронія, самаіронія, парадзіраванне, гратэск, карыкатура, парадокс, травестацыя, камічны алагізм. Яркасць мрыеўскага сатырычнага стылю. Моўны каларыт "Запісак Самасона Самасуя": пласты жывой, гутарковай мовы і палітычнага жаргону, газетных шаблонаў, шаржавасці і парадыйнасці. Гісторыя публікцыі рамана. Яго месца ў нацыянальнай і замежнай сатырычнай, смехавой традыцыі.

Пісьменніцкая праца падчас зняволення і яе лёс.

## ПРОЗА ЛУКАША КАЛЮГІ (1909–1937)

Лёс і творчы шлях пісьменніка.

Філасофскае асэнсаванне чалавечага лёсу ў ранніх апавяданнях Л.Калюгі ("Краўцы і чаляднікі", "Трахім з Пагулянкі"). Адметнасць мовы (наватворы, экспрэсіўныя дыялектызмы, багацце фразеалагізмаў і ідыём).

Аповесць "Ні госць ні гаспадар" – твор пра маральна-духоўнае аблічча моладзі 20-х гадоў. Аўтабіяграфічнасць аповесці. Праблематыка твора, пераканальнасць, псіхалагічная праўдзівасць і каларытнасць яго персанажаў. Адметнасць Калюгавага стылю. Празмерная апісальнасць і зацягнутасць некаторых сцэн. Карціны прыроды ў аповесці, лірычныя адступленні. Лёс другой часткі аповесці "Ні госць ні гаспадар". Ацэнка аповесці М.Гарэцкім.

Цыкл гумарыстычных апавяданняў 1929 года ("Трахім – штучны чалавек", "Іллюк – даследчык", "Як Міхалюку Баркаўцы даліся ў знакі" і інш.). Выкарыстанне народных прыкмет, звычаяў, легендаў і забабон.

Аповесць "Нядоля Заблоцкіх". Праблема адчужэння ад народа. Лёс сям'і Заблоцкіх. Філасафічнасць аповесці і элементы міфалогіі. Адметнасць формы, апавядальная плынь, фантастычнасць часу. Гумарыстычны талент Л.Калюгі. Моўныя сродкі камізму: каламбуры, параўнанні, метафары, перыфраз.

Глыбокі псіхалагізм і пісьменніцкае майстэрства ў навеле "Цеснаватая куртачка".

Творчасць Л.Калюгі перыяду няволі. Метафарычна-эмацыянальны вобраз эпохі ў няскончанай аповесці "Дзе косці мелюць". Дзіцячая аповесць "Зэнка малы ніколі не быў". Праблемы творчай свабоды, праўдзівасці мастацтва, пратэсту супраць дыктату ў мастацтве, элементы фантастыкі ў аповесці "Зоры вам вядомага горада". Беларуская вёска падчас калектывізацыі ў рамане Л.Калюгі "Пустадомкі". Праблемы характару і абставін, прыстасавальніцтва і бескампраміснасці ў творы. Цэласнасць сюжэтнай пабудовы. Сімволіка ў рамане. Адметнасць Калюгаўскай стылістыкі.

Перакладчыцкая праца Л.Калюгі (пераклад рамана Я.Гашака "Прыгоды ўдалага ваякі Швейка" і інш.).

Месца прозы Л.Калюгі ў беларускай літаратуры ХХ стагоддзя.

## ТВОРЧАСЦЬ КАНДРАТА КРАПІВЫ (1896–1991)

Біяграфія пісьменніка. Шырыня жанравага дыяпазону яго творчасці. Выдатныя здабыткі К.Крапівы ў галіне сатыры.

Сатырычныя вершы і байкі К.Крапівы, іх тэматычная і праблемная разнастайнасць. Надзённасць і агітацыйная скіраванасць крапівінскай сатыры. Багацце прыёмаў і сродкаў сатырычнага пісьма ў вершах і байках К.Крапівы. Найбольш папулярныя сатырычныя тыпы, створаныя пісьменнікам у жанрах сатыры.

Заслугі пісьменніка ў развіцці беларускай байкі. Драматызм, маляўнічасць апавядання, сатырычная вастрыня і значнасць абагульняльнай думкі, публіцыстычныя элементы ў байках К.Крапівы. Іх афарыстычнасць. Сувязь крапівінскай байкі з беларускімі літаратурнымі і фальклорнымі традыцыямі, з байкай І.А.Крылова. Народнасць крапівінскай байкі, яе апора на беларускую прымаўку, прыказку. Папулярнасць сатырычных вершаў і баек К.Крапівы.

Буйныя вершаваныя творы пісьменніка. Уступкі ідэалагічнай дагматыцы ў сатырычнай паэме "Біблія". Сатырычныя матывы ў паэме "Шкірута". Паэма "Хвядос – Чырвоны нос": фантастычна-казачная сюжэтная аснова твора, майстэрства ў абмалёўцы персанажаў, недахопы паэмы, абумоўленыя часам стварэння.

К.Крапіва – апавядальнік (зборнікі "Апавяданні", "Людзі-суседзі", "Жывыя праявы"). Сатырычная трапнасць і дасціпнасць пісьменніка ў апавяданнях "Певень", "Мой сусед", "Хвост" і інш. Псіхалагічная насычанасць рэалістычных апавяданняў К.Крапівы.

Раман К.Крапівы "Мядзведзічы". Праблемы беларускай вёскі 20-х гадоў у творы. Даследчы пафас рамана і яго рэалістычнасць. Праблема станоўчых і адмоўных герояў у "Мядзведзічах". Грунтоўнасць у паказе чалавечых характараў. Багацце апавядальнай плыні рамана. "Навелістычная" кампазіцыя твора. Вартасці і недахопы рамана.

Драматургія К.Крапівы. Драма "Партызаны". Вострая сацыяльная канфліктнасць п'есы, яе сцэнічнае жыццё. Змястоўнасць і псіхалагічная адметнасць станоўчых герояў п'есы. Дух народнасці ў творы. Народны характар гумару ў масавых сцэнах. Багацце фальклорных элементаў. Моўная вобразнасць і стылістыка драмы "Партызаны".

Сатырычная камедыя "Хто смяецца апошнім". Асаблівасці канфлікту камедыі. Значнасць аб'ектаў выкрыцця, маштабнасць яе сатырычных характараў. Тыповасць і пераканальнасць вобразаў Гарлахвацкага і Зёлкіна. Грамадская небяспека чалавечых заган, тыпізаваных у гэтых вобразах. Мастацкая шматграннасць вобраза Тулягі. Майстэрства К.Крапівы ў стварэнні камедыйных характараў. Разнастайнасць прыёмаў і сродкаў сатырычнай тыпізацыі ў камедыі. Індывідуалізацыя мовы персанажаў. Сцэнічны лёс п'есы. Традыцыі беларускай і агульнаеўрапейскай камедыяграфіі ў творы.

Камедыя "Мілы чалавек". Вобраз блатмайстра і махінатара Жлукты, жыццёвасць сацыяльнага тыпа. Мастацкія вартасці твора.

Адлюстраванне Вялікай Айчыннай вайны ў драматургіі К.Крапівы (п'есы "Проба агнём", "Людзі і д'яблы").

Ідэйная адметнасць п'есы "Канец дружбы".

Праблемная і жанрава-стылёвая характарыстыка п'ес "Пяюць жаваранкі" і "Зацікаўленая асоба". Уплыў палітычна-грамадскай атмасферы канца 40-х – пачатку 50-х гадоў на гэтыя творы.

Фантастычная камедыя "Брама неўміручасці". Філасафічнасць твора, яго праблематыка. Асэнсаванне трагічнай неадпаведнасці навукова-тэхнічнага прагрэсу і маралі грамадства. Сатырычны

тыпаж камедыі. Камедыйныя рысы ў персанажаў станоўчага плану (рабочы Сідаровіч, калгасніца Алена Максімаўна і інш.). Вобразы прафесара Дабрыяна і Наташы, іх сюжэтна-кампазіцыйныя функцыі. Новыя мастацкія якасці Крапівы-драматурга, выяўленыя ў "Браме неўміручасці". Асаблівасці сюжэта і кампазіцыі. Умоўнасць зыходнай сітуацыі, роля спрэчак-дыспутаў. Дасціпнасць гумару, галоўныя моўна-стылёвыя асаблівасці камедыі.

Роля К.Крапівы ў развіцці беларускай драматургіі.

Перакладчыцкая і навуковая дзейнасць пісьменніка.

## ТВОРЧАСЦЬ МІХАСЯ ЗАРЭЦКАГА (1901–1937)

Біяграфія пісьменніка. Яго месца ў беларускай прозе 20–30-х гадоў.

Інтэнсіўнасць ранняй творчасці: зборнікі апавяданняў "У віры жыцця", "Пела вясна", "Пад сонцам", "42 дакументы і Двое Жвіроўскіх". Гуманістычны пафас твораў. Маральна-этычная праблематыка "малой" прозы М.Зарэцкага. Тэорыя "эмацыянальнага рамантызму" і ўплыў эстэтыкі "Маладняка" ў ранніх апавяданнях пісьменніка. Тэндэнцыя да паглыблення сацыяльнай аналітыкі (апавяданні "Максімаліст", "Ракавыя жаронцы"). Майстэрства драматычнага канфлікту. Роля трагічнага фіналу ў апавяданнях празаіка. Адметнасць мовы і мастацкага стылю.

Значнасць апавяданняў "Дзіўная", "Кветка пажоўклая".

Аповесць М.Зарэцкага "Голы звер". Ідэйна-мастацкая эвалюцыя пісьменніка. Вобразная сістэма твора. Пераканальнасць характараў галоўных герояў. Выразнасць стылявой манеры.

Раман "Сцежкі-дарожкі". Ідэйна-праблемная змястоўнасць твора. Глыбіня і маштабнасць задумы, згарманізаванасць зместу і формы. Адлюстравнне складаных і драматычных шляхоў інтэлігенцыі. Паэтыка рамана. Наватарства празаіка. Увага да формы дыялогу. Героі рамана. Глыбіня канфлікту Андрэя Матруніна і Васіля Лясніцкага. Любоўныя калізіі ў творы.

Драматургія М.Зарэцкага як значны крок на шляху ідэйна-мастацкай эвалюцыі пісьменніка. П'есы "Віхор на балоце" і "Белыя ружы". Наватарскі падыход М.Зарэцкага да пастаноўкі актуальных праблем часу. Жанрава-стылявая адметнасць п'ес. Зварот драматурга да вобразна-выяўленчых сродкаў рамантычнага мастацтва. Выкарыстанне элементаў дэтэктыўнага жанру, літаратурныя рэмінісцэнцыі.

Зварот да тэмы мінулага беларускага народа ў гістарычнай драме "Рагнеда". Нясконччаны раман "Крывічы". Лёс гэтых твораў.

Раман "Вязьмо". Глыбіня ўзнятых сацыяльных супярэчнасцяў, паказ трагедыі рассяляньвання беларускай вёскі. Вобраз Пацяроба як увасабленне антыдэмакратычнага правапарадку. Вобраз Сымона Карызны, яго псіхалагічная глыбіня, мастацкая важкасць. Жанчыны ў рамане. Выкрыццё антыгуманнай сутнасці таталітарнага рэжыму. Паэтыка рамана. Іронія, лірызм у "Вязьме". Майстэрства пісьменніка ў выкарыстанні мастацкай дэталі. Канцэпцыя "пазітыўнага" рамантызму.

Нарысістыка пісьменніка.

Творчасць М.Зарэцкага паміж 1933 і 1937 гадамі: уплыў таталітарнай ідэалогіі і супярэчнасць жыццёвай праўдзе.

Роля М.Зарэцкага ў развіцці рамантычнай плыні ў беларускай прозе. Працяг традыцый пісьменніка ў беларускай літаратуры 60-80-х гадоў.

## ПРОЗА МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА (1899–1975)

Біяграфія празаіка.

Рамантызацыя сацыяльных зменаў і падзей грамадзянскай вайны ў апавяданнях 20-х гадоў ("Гой", "Над Бугам", "Чыгунныя песні"). Спецыфіка сацрэалістычных уплываў на творчасць М.Лынькова. Тэма працы ў апавяданні "Андрэй Лятун". Паэзія чыгункі ў апавяданні. Асаблівасці кампазіцыі, стылю і мовы твора, роля гумару ў раскрыцці ідэі, майстэрства дыялогу. Лірызм, паэтычнасць, рамантычная прыўзнятасць апавяданняў 20–пачатку 30-х гадоў. Аповесць "Апошні зверыядавец". Праблематыка, вартасці і недахопы твора.

Праблематыка твораў М.Лынькова 30-х гадоў.

Раман "На чырвоных лядах". Ідэйна-праблемны аспект твора, яго змястоўнасць. Багацце мовы. Недахопы рамана: перанаселенасць вобразамі, перагружанасць сюжэтных ліній. Значэнне рамана для развіцця эпічных тэндэнцый у творчасці пісьменніка.

Аповесць "Міколка-паравоз" – класічны твор дзіцячай літаратуры. Гістарычныя падзеі ў творы. Аўтабіяграфічныя элементы аповесці. Праблема фарміравання асобы. Майстэрства пісьменніка ў стварэнні вобраза Міколкі. Мастацкія асаблівасці аповесці: рамантызацыя подзвігу, займальнасць сюжэта, элементы прыгодніцтва, дасціпнасць аўтарскага апавядання. Гумар як сродак раскрыцця светапогляду герояў, іх адносін да рэчаіснасці. Сродкі псіхалагічных

характарыстык у творы. Яго моўная дасканаласць. Аповесць "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў". Роля М.Лынькова ў развіцці дзіцячай літаратуры.

Зборнік "Сустрэчы": праблематыка апавяданняў, адметнасць пейзажных замалёвак, мастацкіх дэталяў, сюжэтна-кампазіцыйнай структуры.

Творчасць М.Лынькова перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Зборнік апавяданняў "Астап". Адлюстраванне ўсенароднай барацьбы з нямецкім фашызмам. Трагедыя растаптанага вайною дзяцінства ("Васількі", "Пацалунак" і інш.). Гуманізм лынькоўскіх апавяданняў ваеннага часу, іх мастацкая дасканаласць.

Раман "Векапомныя дні". Творчая гісторыя і праблематыка твора. Яго жанравыя асаблівасці. Мастацкая трансфармацыя гістарычных фактаў у рамане. Роля прататыпаў у стварэнні тыпізаваных характараў. Шырокі паказ усенароднай барацьбы супраць фашызму. Героі рамана. Элементы рамантызацыі ў паказе станоўчых герояў, іх моўная індывідуалізацыя. Гумар, мастацкая дэталь у творы. Сатырычныя сродкі тыпізацыі герояў. Асаблівасці партрэтнай паэтыкі і пейзажнага жывапісу ў рамане. Сюжэт і кампазіцыя "Векапомных дзён". Лірызм і адкрытая паэтызацыя ў мастацкім стылі рамана. Недахопы твора.

Зборнік "За акіянам". Нарысы аб замежных краінах. Крытычныя і літаратуразнаўчыя працы пісьменніка.

Асоба М.Лынькова ў гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя.

## ПРОЗА ЯНКІ МАЎРА (1883–1971)

Біяграфія пісьменніка. Пачатак творчай працы. Навукова-прыгодніцкая аповесць "Чалавек ідзе". Праблематыка твора, яго навуковая аснова. Займальнасць і прастата ў падачы матэрыялу.

Прыгодніцкія творы Я.Маўра аб замежных краінах, іх жанравы дыяпазон. Апавяданні "Слёзы Тубі", "Лацароні" і інш.

Аповесць "У краіне райскай птушкі". Прыблізнасць адлюстравання нацыянальна-вызваленчага руху на Новай Гвінеі, роля мастацкага вымыслу. Экзатычнасць твора.

Аповесць "Сын вады". Праблематыка і асаблівасць сюжэту, кампазіцыі.

Раман "Амок". Праблемы нацыянальна-вызваленчай барацьбы яванцаў у творы. Выкарыстанне дакументальных матэрыялаў і

пісьмен-ніцкае "дадумванне". Прыгодніцкі характар рамана. Элементы таямнічасці і загадкавасці ў творы. Майстэрства інтрыгі.

Традыцыі прыгодніцкай класікі ў творчасці Я.Маўра (Майн Рыд, Фенімор Купер, Жуль Верн, Луі Жаколіо і інш.). Наватарства пісьменніка ў развіцці прыгодніцкага жанру. Уплыў часавай ідэалогіі на творы Я.Маўра.

Аповесць "Палескія рабінзоны". Патрыятычны пафас твора, яго краязнаўчы ўхіл. Паэтызацыя беларускай прыроды, флоры і фаўны Палесся. Павучальнасць аповесці. Элементы спрашчэння. Дынамічны прыгодніцкі сюжэт, выкарыстанне сусветных сюжэтных хадоў "рабінзанады".

Аповесць "ТВТ". Праблематыка твора і яго шырокі чытацкі рэзананс. Працяг традыцый, распачатых аповесцю "ТВТ", у прозе У.Дубоўкі (аповесці "Жоўтая акацыя" і "Ганна Алелька").

Адлюстраванне Вялікай Айчыннай вайны ў апавяданнях "Завошта?", "Дом пры дарозе", "Драўляная лыжка", "Запіска".

Багацце навукова-пазнавальнага матэрыялу ў фантастычнай аповесці "Фантамабіль прафесара Цылякоўскага".

Аўтабіяграфічная аповесць "Шлях з цемры". Рэалістычнасць твора, роля іроніі і гумару ў яго апавядальнай структуры. Адметнасць кампазіцыі (кантрастнасць эпіграфаў у дачыненні да зместу адпаведных раздзелаў, падкрэсленая загалоўкамі сюжэтная завершанасць асобных эпізодаў, паслабленасць знешніх сувязяў паміж асобнымі раздзеламі, роля галоўнага героя ў аб'яднанні празаічнага матэрыялу і інш.).

Папулярнасць твораў Я.Маўра. Месца пісьменніка ў гісторыі беларускай дзіцячай літаратуры і ў развіцці прыгодніцка-займальнай прозы.

## ТВОРЧАЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАЦЬ СЫМОНА БАРАНАВЫХ (1900–1942), РЫГОРА МУРАШКІ (1902–1944), БАРЫСА МІКУЛІЧА (1912–1954)

Пачатак мастацкай творчасці С.Баранавых. Жыццё беларускага сялянства ў аповесці "Чужая зямля".

Праблемы калектывізацыі ў аповесцях "Межы", "Новая дарога". Павышэнне мастакоўскай культуры, майстэрства кампазіцыйнай пабудовы, уплыў грамадскай атмасферы на творы. Раман "Калі

ўзыходзіла сонца": праблематыка, адметнасць мастацкага стылю і мовы пісьменніка, лёс рамана.

Біяграфія Р.Мурашкі. Супярэчнасці ранняга перыяду творчасці. Уплыў ідэалогіі на творчую практыку празаіка. Маральныя каштоўнасці ў аповесці "У іхным доме". Раман "Сын": аднабаковасць сацыяльнай характарыстыкі, кампазіцыйная нязладжанасць. Пераадоленне артадаксальных поглядаў на жыццё і мастацтва.

Рост пісьменніцкага майстэрства ў рамане "Салаўі святога Палікара". Праблематыка і адметнасць кампазіцыі твора. Сувязь пісьменніка з падпольшчыкамі і партызанскім рухам у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Праца над раманамі "Насуперак лёсу" і "Таварышы" падчас фашысцкай акупацыі Мінску, адмаўленне ў творах ад нястрымнага ўслаўлення савецкай палітычнай сістэмы і бяздумнай падтрымкі яе ідэалагічных пастулатаў. Праблемы асобы і грамадства, інтэлігенцыі і ўлады, мастака і мастацтва, думка пра неабходнасць барацьбы супраць неабмежаванай улады дыктатара, выкрывальная скіраванасць супраць царскай Расіі і яе палітыкі падаўлення нацыянальна-вызвольнага руху, элементы прыгодніцкіх жанравых форм у раманах Р.Мурашкі ваеннай пары. Лёс гэтых твораў.

Лёс Б.Мікуліча. Пачатак творчасці. Праблемы калектывізацыі ў аповесці "Чорная Вірня". Пераход ад рамантычна-сімвалічнага паказу рэчаіснасці да яе канкрэтна-рэалістычнага ўзнаўлення. Аповесці "Наша сонца", "Ускраіна", "Дужасць", "Дружба": праблематыка і стылёвая адметнасць. Б.Мікуліч-апавядальнік. Творчасць

Б.Мікуліча перыяду няволі. Мастацкі дзённік 1946–1948 гадоў "Аповесць для сябе", "Палеская аповесць", аповесць пра М.Багдановіча "Развітанне", твор пра вайну 1812 года "Адвечнае": праблемная і жанрава-стылёвая адметнасць.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРЫЯДУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Другая сусветная вайна і лёс беларускага народа, узмацненне яго нацыянальнай самасвядомасці, рост патрыятычнага пачуцця. Развіццё гераічных літаратурных традыцый у гэты перыяд. Антыфашысцкі пафас беларускай літаратуры ваеннага часу. Беларускія пісьменнікі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Асаблівасці бытавання беларускай літаратуры ў ваенны перыяд.

Паэзія. Развіццё масавай самадзейнай паэзіі, яе агульны характар. Гераічныя матывы беларускай паэзіі, яе патрыятычны змест (вершы Я.Купалы, Я.Коласа, П.Броўкі, П.Глебкі, М.Танка, А.Куляшова, П.Панчанкі і іншых паэтаў).

Уклад А.Астрэйкі, А.Бялевіча, М.Лужаніна, В.Віткі, К.Буйло ў распрацоўку патрыятычнай тэмы. Станаўленне таленту К.Кірэенкі, А.Вялюгіна, М.Аўрамчыка, М.Сурначова і інш.

Знішчанае вайной пакаленне маладых беларускіх паэтаў.

Структурна-жанравая і стылёва-выяўленчая адметнасць беларускай лірыкі ваенных гадоў. Яе драматызацыя, сувязь з фальклорам, з гістарычнымі нацыянальнымі традыцыямі.

Развіццё разнастайных форм сатырычнай паэзіі. Вершаваная сатыра К.Крапівы, Я.Купалы, Я.Коласа, П.Глебкі, П.Панчанкі і іншых пісь-меннікаў.

Жанравыя разнавіднасці лірыкі ваеннага часу (сюжэтна-апавядальны верш гераічнай танальнасці, верш-заклік, зварот, лірыка-публіцы-стычны маналог, песня, балада і інш.). Папулярнасць гераічнай балады. Яе своеасаблівасць у беларускай літаратуры, тыпалагічныя сувязі з украінскай і рускай баладай. Характарыстыка баладных твораў Я.Коласа, А.Куляшова, П.Броўкі, М.Танка, П.Панчанкі, М.Аўрамчыка, А.Вялю-гіна, М.Машары, В.Таўлая і інш.

"Іранскі дзённік" П.Панчанкі. Роля гэтага цыкла ў пашырэнні ідэйна-тэматычных межаў і ўзбагачэнні стылёва-выяўленчых магчымасцяў беларускай лірыкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Паэма. Галоўныя дасягненні паэтычнага эпасу ваеннага часу. Праблематыка, ідэйны змест, жанравая своеасаблівасць паэм "Адплата" Я.Коласа, "Сцяг брыгады", "Прыгоды цымбал" А.Куляшова, "Беларусь" П.Броўкі, "Янук Сяліба" М.Танка, "Эдэм" З.Астапенкі, "Маладосць у паходзе" П.Панчанкі і інш. Традыцыйнае і наватарскае ў беларускай паэме таго перыяду, выдаткі палітычнай заангажаванасці.

Публіцыстыка і мастацкая проза. Адметнасць публіцыстычных выступленняў. Дзённікавая проза Я.Коласа, К.Чорнага, І.Мележа. Гераічнае і трагедыйнае ў беларускім апавяданні ваеннай пары, драматычная напружанасць яго сітуацый. Аналітычна-філасофская заглыбленасць апавяданняў К.Чорнага. Лірызм, рамантычная прыўзнятасць, гумар апавяданняў М.Лынькова. Псіхалагізм, дакладнасць у паказе чалавека на вайне ў мележаўскіх апавяданнях. Вартасці і недахопы празаічных твораў перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Раманы "Пошукі будучыні", "Млечны шлях", "Вялікі дзень", аповесць "Скіп'ёўскі лес" К.Чорнага – сведчанне актыўнага развіцця беларускай сацыяльна-філасофскай прозы. Глыбокае даследаванне вытокаў фашызму, яго псіхалогіі. Яркія нацыянальныя характары ў гэтых творах.

Драматургія. Праблемна-ідэйная накіраванасць твораў, вобразы галоўных герояў, жанравая характарыстыка і недахопы. Прычыны стрыманага развіцця драматургіі.

Месца беларускай літаратуры ваеннага часу ў агульнасаюзным і сусветным літаратурным працэсе, яе сувязь з літаратурай наступных перыядаў.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРШАГА ПАСЛЯВАЕННАГА ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ (1945–1955)

Патрыятычны ўздым народаў СССР, выкліканы перамогай у Айчыннай вайне, роля гэтага фактару ў аднаўленні народнай гаспадаркі. Выхад Беларусі на міжнародную арэну, рост цікавасці да беларускага народа і беларускай літаратуры за межамі рэспублікі. Узбагачэнне літаратуры новым жыццёвым матэрыялам, пашырэнне яе тэматычных гарызонтаў, узмацненне агульнасусветнага пафасу.

Уплыў грамадскай атмасферы першага пасляваеннага дзесяцігоддзя на мастацкую творчасць. Узмацненне савецкай ідэалагічнай цэнзуры, новыя праявы культу асобы, рэпрэсіўнай палітыкі ўлады. Ізаляцыя нацыянальнай дыяспары.

Паняцце "сацыялістычны рэалізм". Замацаванне сацрэалізму як аднаго з асноўных мастацкіх метадаў у савецкай літаратуры. Асноўныя прынцыпы сацрэалізму: класавасць, партыйнасць, афіцыйна вытлумачаная народнасць, пралетарскі інтэрнацыяналізм, неабходнасць адлюстравання жыцця з пазіцый барацьбы за сацыялізм ("паказ жыцця ў рэвалюцыйным развіцці і гістарычны аптымізм"), тэорыя бесканфліктнасці і інш. Аўтарытарная палітызацыя мастацтва ў СССР пад сцягам сацыялістычнага рэалізму.

Эстэтычнае і ідэалагічнае ў творчай практыцы пісьменнікаў, якія абвяшчаліся і рабіліся сацрэалістамі (камуністычная ідэалогія ў спалучэнні з элементамі паэтыкі авангарду і класіцызму). Панаванне сацрэалізму ў савецкай літаратуры 30–50-х гадоў (апавяданні К.Чорнага "У родных мясцінах", "Сцяпанавы дзеці", другі том рамана З.Бядулі "Язэп Крушынскі", пераважная большасць твораў другой

паловы 40-х і пачатку 50-х гадоў). Тэорыя бесканфліктнасці, яе плён (п'еса "Пяюць жаваранкі" К.Крапівы і інш.).

Уплыў сацрэалізму на мастацтва тых краін Усходняй Еўропы, якія ў 40-я гады былі вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў савецкімі войскамі.

Відазмяненне сацыялістычнай дактрыны пасля смерці Сталіна ў 1953 годзе, XX і XXII з'ездаў КПСС у 1956 і 1962 гг.

Прыход у літаратуру пакалення "шасцідзесятнікаў", якія адмовіліся ў сваіх творах ад многіх жорсткіх нарматываў сацрэалізму.

Рэабілітацыя часткі рэпрэсаваных у савецкі час пісьменнікаў і іхняй літаратурнай спадчыны.

Паступовае вяртанне ў савецкую літаратуру ўласна эстэтычных крытэрыяў ацэнкі мастацкага твора.

Проза. Актыўная праца ў галіне прозы Я.Коласа, М.Лынькова, І.Мележа, І.Шамякіна, Я.Брыля, П.Пестрака, А.Кулакоўскага, М.Лупсякова, А.Стаховіча, Т.Хадкевіча, У.Карпава і іншых пісьменнікаў.

Вартасці і найбольш характэрныя недахопы беларускага "ваеннага" апавядання.

Аповесці "Помста" І.Шамякіна, "Рыгор Шыбай" У.Краўчанкі, "Цяжкая гадзіна" Б.Мікуліча, "Без нейтральнай паласы" У.Карпава, "Насустрач" У.Шахаўца і інш.

Адлюстраванне Вялікай Айчыннай вайны ў беларускім рамане ("Глыбокая плынь" І.Шамякіна, "Згуртаванасць" М.Ткачова, "Мінскі напрамак" І.Мележа, "Расстаёмся ненадоўга" А.Кулакоўскага, "Векапомныя дні" М.Лынькова і інш.

Дакументальныя і дакументальна-мемуарныя творы пра Вялікую Айчынную вайну ("Людзі асобага складу" В.Казлова, "Нёманскія казакі" Я.Брыля, "Дарогі на ўсход і на захад" І.Мележа і інш. Уплыў лепшых твораў дакументальна-мемуарнай літаратуры на мастацкую прозу першага пасляваеннага дзесяцігоддзя.

Апавяданні аб пасляваеннай вёсцы І.Мележа, Я.Брыля, А.Кулакоўскага, П.Пестрака, М.Лупсякова, У.Краўчанкі і іншых пісьменнікаў. Здабыткі і пралікі беларускай "вясковай" аповесці ("Вяснянка" Т.Хадке-віча, "Гарачы жнівень" І. Мележа, "У Забалоцці днее" Я. Брыля і інш.). Адлюстраванне калгаснай рэчаіснасці пасляваеннага часу. Уплыў палітычна-грамадскай атмасферы на аднабаковае адлюстраванне жыцця народа. Паказ складаных праблем у калгасным будаўніцтве 40-х–пачатку 50-х гадоў у аповесці "На Быстранцы" Я. Брыля, раманы "Святло над Мінскам" М. Паслядовіча, "Пад мірным

небам" і "Шырокія гарызонты" А. Стаховіча. Роля гэтых твораў у гісторыі беларускай літаратуры.

Жыццё горада, паказ індустрыялізацыі рэспублікі ў аповесцях А.Кулакоўскага "Гартаванне", М. Паслядовіча "Цёплае дыханне", І.Мележа "Блізкае і няблізкае", апавяданнях Я.Васілёнка.

Маральна-этычная праблематыка ў празаічных творах пра сучаснасць (апавяданні А.Кулакоўскага, "Галя" Я.Брыля, "Спатканне за горадам" І.Мележа).

Сатырычная плынь у прозе канца першага ваеннага дзесяцігоддзя, яе праблемная абмежаванасць.

Проза для дзяцей. Творы Я.Маўра, А.Якімовіча, Я.Брыля, У.Краўчанкі, І.Грамовіча, Т.Хадкевіча, А.Чарнышэвіча, П.Кавалёва і інш. Кніга "Ніколі не забудзем".

Паэзія. Праца ў паэзіі Я.Коласа, П.Броўкі, М.Танка, А.Куляшова, А.Вялюгіна, П.Панчанкі, К.Кірэенкі, М.Аўрамчыка, А.Бачылы, В.Віткі, А.Русака, П.Прыходзькі і інш. Першыя паэтычныя кніжкі А.Русецкага, С.Дзяргая, А.Пысіна, Э.Валасевіча. Галоўныя матывы і жанры лірыкі. Асноўныя стылёвыя плыні. Асаблівасці творчай індывідуальнасці лепшых майстроў паэтычнага слова.

Паэма. Яе тэматычны абсяг, праблематыка, жанравыя асаблівасці. Адметныя рысы паэм Я.Коласа, П.Броўкі. М.Танка, А.Куляшова, М.Лужаніна, А.Вялюгіна, А.Бялевіча, А.Зарыцкага і інш.

Уплыў адмоўных з'яў у палітычна-грамадскай атмасферы таго часу на паэзію першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Недастатковая ўвага да духоўнага вобліку чалавека, збядненне жывых, эмацыянальных праяўленняў яго інтымнага свету, індывідуальных пачуццяў, спрошчана-аднабаковае адлюстраванне рэчаіснасці, яе прыхарошванне і схематызацыя.

Драматургія. Творчасць К.Крапівы, А.Маўзона, К.Губарэвіча, А.Макаёнка і іншых пісьменнікаў. Тэматыка і праблематыка беларускай драматургіі, характар найбольш пашыраных канфліктаў, жанравыя і стылёвыя асаблівасці, асноўныя мастацкія недахопы. Поспех востраканфліктнай камедыі А.Макаёнка "Выбачайце, калі ласка!". Грамадзянская актыўнасць аўтара, яго камедыяграфічнае майстэрства.

Крытычная і літаратуразнаўчая думка ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. Супярэчлівасць яе ўплыву на літаратурны працэс.

Значэнне лепшых дасягненняў беларускай літаратуры першага пасляваеннага дзесяцігоддзя і павучальнасць яе выдаткаў для далейшага літаратурнага развіцця.

Літаратурная творчасць беларусаў замежжа (другая палова 40-х—90-я гады XX стагоддзя). Паэзія, проза, драматургія.

## ПАЭЗІЯ МАКСІМА ТАНКА (1912–1995)

Біяграфія паэта. Яго ранняя грамадзянская сталасць. Турэмныя "універсітэты".

Шырыня творчых інтарэсаў паэта. Сувязь яго паэзіі з жыццём і рэвалюцыйным рухам у Заходняй Беларусі. Роля нацыянальнага фальклору, твораў Я.Купалы, М.Багдановіча ў вызначэнні пісьменніцкага шляху М.Танка. Арыентацыя на традыцыі еўрапейскай і сусветнай паэзіі. Польская і руская класіка ў танкаўскім духоўным развіцці. Сувязі з польскімі, украінскімі і літоўскімі літаратарамі.

Тэматыка танкаўскай паэзіі даверасnёўскага перыяду. Трагедыйныя інтанацыі ў лірыцы паэта і яе гістарычны аптымізм. Вобразная яркасць ранняй лірыкі паэта (зборнік "На этапах").

Рост пісьменніцкага майстэрства ў кнігах "Журавінавы цвет" і "Пад мачтай". Пашырэнне тэматычнага і жанравага дыяпазону лірыкі. Вершы філасофскага складу, паэтызацыя кахання, пейзажная лірыка, сатырычныя творы. Асаблівасці паэтыкі.

Паэма "Нарач". Рэальная жыццёвая аснова твора. Патрыятычнае гучанне пейзажных малюнкаў паэмы. Тэма Беларусі і яе будучыні ў лірычных адступленнях. Сюжэтна-кампазіцыйныя і моўна-стылёвыя асаблівасці.

Тэма кахання, яго маральныя і сацыяльныя аспекты ў паэме "Журавінавы цвет". Псіхалагічная напоўненасць чалавечых характараў у творы (Баўтрук, Васіль, Раіна).

Фальклорныя матывы ў даверасnёўскай паэзіі М.Танка. Паэма "Сказ пра Вяля". Праблема народнага героя і яго ўзаемаадносін з масай. Былінна-казачныя элементы твора.

Вобраз змагара за народную справу ў паэме "Каліноўскі". Палемічныя мэты твора.

Адлюстраванне заходнебеларускага жыцця ў кнізе "Лісткі календара". Літаратурна-эстэтычныя праблемы ў дзённіку. Мастацкая адметнасць дзённікава-дакументальнай прозы М.Танка.

Моцнае і слабое ў танкаўскай лірыцы перадваеннага перыяду.

Паэзія М.Танка ваеннай пары. Патрыятычны змест лірыкі. Яе агітацыйна-публіцыстычная скіраванасць. Унутраны драматызм і трагедыйнасць лірыкі ("Пісьмо", "Мы ў свой горад прыйшлі", "Адыходзячы з хаты"). Паэтызацыя глыбінных праяваў жыцця, мары аб міры ("Ластаўкі", "Пралескі"). Дасканаласць танкаўскай лірыкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Праблематыка і галоўныя героі паэмы "Янук Сяліба". Узнёсла-гераічныя, фальклорна-рамантычныя інтанацыі ў творы і яго агульны размоўна-апавядальны стыль. Выдаткі апавядальнасці.

Лірыка першага пасляваеннага дзесяцігоддзя, яе асноўныя матывы. Даніна паэта камуністычнай ідэалогіі ў пасляваенныя гады і наступныя дзесяцігоддзі.

Актывізацыя аўтарскага самавыяўлення ў другой палове 50-х–60-я гады. Наватарскі характар паэзіі М.Танка. Ускладненне праблематыкі творчасці, узмацненне філасафізму мыслення. Багацце духоўнага зместу і нацыянальнай канкрэтыкі. Зямное і касмічнае ў паэтычным свеце М.Танка. Лірыка кахання.

Грунтоўны ахоп рэчаіснасці ў кнізе "Каб ведалі". Зборнікі "На камні, жалезе і золаце", "У дарозе", адметнасць праблематыкі і паэтыкі.

Мастацкія вартасці танкаўскіх гістарычных балад і легенд пасляваеннага часу.

Філасофскі змест паэмы "Люцыян Таполя". Мастацкая адметнасць, асаблівасці верша.

Асноўныя матывы і тэмы кніг "След бліскавіцы", "Мой хлеб надзённы", "Глыток вады", "Перапіска з зямлёй", "Хай будзе святло", "Дарога, закалыханая жытам", "Прайсці праз вернасць" і інш. Інтэнсіўнасць мастацкіх пошукаў М.Танка. Празаізацыя, лагізаванасць і метафарычнасць паэтычнай мовы.

Асаблівасці танкаўскай метафары. Умоўна-асацыятыўная і канкрэтна-рэалістычная вобразнасць у мастацкім стылі паэта. Інтанацыйнае багацце лірыкі.

Сацыяльная значнасць сатырычных твораў паэта.

Абнаўленне мастацкага стылю, майстэрства паэта. Разнастайнасць жанрава-стылявых формаў. Асаблівасці танкаўскага верлібра.

Паэтычныя кнігі М.Танка 80–90-х гадоў. Узмацненне драматызму светаадчування, асэнсаванне перажытага і зведанага ў жыцці. Экалагічныя матывы. Інтэлектуальная змястоўнасць творчасці.

Шматграннасць творчай індывідуальнасці паэта.

Майстэрства М.Танка-перакладчыка.

Значэнне творчасці М.Танка ў гісторыі беларускай літаратуры, уплыў яго творчасці на паэзію суседніх краін.

## ПАЭЗІЯ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА (1914–1978)

Біяграфія паэта. Лірыка канца 20-х гадоў. "Юнацкі непаўторны свет" пачуццяў. Лірыка паэта на вечныя тэмы. Касмічныя матывы ў лірыцы канца 20–40-х гадоў. Паэт і час. Фальклорныя вытокі ранняй лірыкі. Фармалістычныя пошукі 30-х гадоў. Захапленне канструктывістамі.

Выдаткі і крайнасці мастацкіх эксперыментаў паэта ў яго ранніх эпічных творах. Эскізнасць чалавечых вобразаў у ранніх паэмах, псіхалагічная неверагоднасць асобных эпізодаў. Праявы рытмічнага анархізму ў "Аманале" і жанравая невыразнасць твора.

Гераічнае і трагічнае ў ваеннай лірыцы А.Куляшова. Пафас гуманізму і суровая праўда часу ў баладах. Жанрава-стылявыя і рытміка-інтанацыйныя асаблівасці балад А.Куляшова. Фальклорныя карані паэтычнай вобразнасці перыяду вайны.

Праблемная і мастацкая адметнасць паэм А.Куляшова перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Пасляваенная лірыка. Філасофска-спавядальныя інтанацыі ў творах.

Мастацкія пошукі паэта ў рэчышчы асноўных традыцый і заканамернасцяў развіцця сусветнай паэзіі XX ст. Наватарства "Новай кнігі". Узбагачэнне мастацкай канцэпцыі рэчаіснасці і чалавека. Увага аўтара да вечных праблем: жыцця і смерці, мінулага і будучыні, маральнай адказнасці чалавека перад часам і перад сабой. Сінтэз лепшых фармальна-мастацкіх дасягненняў паэта. Узмацненне ёмістасці думкі, гістарызму і маштабнасці мастацкага мыслення. Класічная строгасць і дысцыпліна верша, складаная метафарычнасць, лаканізм паэтычнага радка. Значэнне "Новай кнігі" для развіцця беларускай літаратуры, для ўзбагачэння яе філасофскіх традыцый. Грамадзянская мужнасць аўтарскай пазіцыі ў "Маналогу". Трагедыйны характар твора. Роздум пра сэнс жыцця і лёс сяброў-паэтаў. Антываенны пафас паэмы "Цунамі".

Паэма "Варшаўскі шлях". Жанр паэмы-споведзі ў А.Куляшова. Вобраз эпохі ў творы. Лірыка-маналагічны характар і філасофская глыбіня твора. Трагедыйныя матывы паэмы і сіла лірычнай экспрэсіі. Вобраз А.Твардоўскага. Роздум аўтара аб прызначэнні паэзіі і яе ролі ў сучасным грамадстве як вешчуна праўды, гуманізму і

справядлівасці. Ідэя самакаштоўнасці чалавечай асобы. Сімволіка вобраза Варшаўскага шляху і яго кампазіцыйная роля. Асаблівасці верша паэмы.

Драматычная паэма "Хамуціус", яе тэматычная і жанравая навізна. Выкарыстанне гістарычнага дакументальнага матэрыялу ў творы. Роля вымыслу і аўтарскай фантазіі. Кампазіцыя твора і асаблівасці тыпізацыі. Элементы рамантызацыі ў сюжэце і стылістыцы. Майстэрства і культура верша.

Актыўная праца А.Куляшова ў галіне мастацкага перакладу, яе важнасць для ўзбагачэння творчай індывідуальнасці аўтара і развіцця выяўленчых магчымасцяў беларускага верша.

## ПАЭЗІЯ ПІМЕНА ПАНЧАНКІ (1917–1995)

Біяграфія і асноўныя этапы творчасці. Лірычная прачуласць, змястоўнасць і вобразная маляўнічасць лепшых вершаў даваеннага перыяду. Моцныя і слабыя бакі паэтычнага выяўлення аўтара.

Патрыятычная лірыка даваеннага і ваеннага часу. Творчая актыўнасць паэта ў перыяд Айчыннай вайны. Сатырычныя творы паэта. Агітацыйная накіраванасць лірыкі першых гадоў вайны. Патрыятычны пафас і мастацкая дасканаласць франтавой лірыкі П.Панчанкі. Вобраз лірычнага героя, яго цесная знітаванасць з асобай аўтара.

Гісторыя з'яўлення цыкла "Іранскі дзённік". Аўтарская эстэтычная пазіцыя ў вершах цыкла. Жартоўна-зніжанае, гумарыстычна-іранічнае ўспрыманне ўсходняй экзотыкі. Абвостранасць патрыятычных пачуццяў паэта. Выяўленча-стылёвая адметнасць "Іранскага дзённіка".

Духоўны і творчы ўздым паэта ў другой палове 50-х–60-я гады. Публіцыстычная і сатырычная скіраванасць паэзіі П.Панчанкі. Крытычныя адносіны да рэчаіснасці, грамадзянская смеласць і маральная бескампраміснасць у адстойванні праўды, справядлівасці, нацыянальных і гуманістычных каштоўнасцяў.

Лепшыя ўзоры лірыкі кахання. Майстэрства пейзажнага жывапісу. Жанравая разнастайнасць лірыкі П.Панчанкі 60–80-х гадоў. Экспрэсіўнасць і эмацыянальная выразнасць яго паэзіі. Інтэнсіўнасць лірычнага перажывання, багацце пачуццёвых адценняў і нюансаў. Рытмічная рухомасць і інтанацыйная гнуткасць верша, моўнае майстэрства П.Панчанкі, яго ўменне рабіць здабыткам паэзіі разнастайныя лексічныя пласты сучаснай мовы.

Творчасць П.Панчанкі ў 90-я гады. Непрыманне негатыўных і разбуральных тэндэнцый у жыцці грамадства. Гуманістычны і нацыянальны пафас, спавядальныя матывы ў яго паэзіі. Адметнасць вершаў на экалагічную тэматыку. Адметнасць паэтычнага стылю П.Панчанкі.

Праца паэта ў галіне перакладу.

Значэнне творчасці і асабістай жыццёвай пазіцыі П.Панчанкі ў гісторыі беларускай літаратуры і ўплыў на творчасць маладзейшых паэтаў.

## ТВОРЧАСЦЬ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ (1905–1980)

Агляд жыцця і творчасці паэта. Паэтычныя маніфесты маладога Броўкі. Станаўленне мастацкай індывідуальнасці П.Броўкі. Адбітак часу ў паэзіі. Павярхоўнае, ідылічнае адлюстраванне рэчаіснасці.

Ранняя лірыка (20-я – пачатак 30-х гадоў). Ідэйны змест, вобразы, лірычны герой першых зборнікаў П.Броўкі. Праявы рыторыкі, павярхоўнай заклікальнасці, дэкларацыйнай патэтыкі.

Паэма "Праз горы і стэп". Гістарычная аснова твора. Яе ўзнёслы рамантычны пафас.

Паэма "Кацярына". Ідэйны змест твора, праблематыка. Спроба аўтара асэнсаваць галоўныя гістарычныя падзеі часу праз разгорнутую біяграфію галоўнай гераіні. Слабая мастацкая індывідуалізацыя і ілюстрацыйнасць у паэме. Павярхоўна-спрошчанае супастаўленне мінулага і сучаснага. Арыентацыя паэта на вусную народную творчасць.

Лірыка другой паловы 30-х гадоў. Паэтызацыя працы, услаўленне дружбы народаў, пейзажны жывапіс, інтымная лірыка. Традыцыі беларускага фальклору, народнай песні ў лірыцы перадваенных гадоў.

Творчасць перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Патрыятычны і грамадзянскі пафас лірыкі перыяду вайны. Вобразы беларускай гісторыі і роднага краю (вершы "Будзем сеяць, беларусы", "Байцам-беларусам", "Мінск", "Кастусь Каліноўскі" і інш.). Аптымістычная вера ў неўмі-ручасць народнага подзвігу. Трагедыйнасць ваеннай лірыкі П.Броўкі.

Паэмы перыяду Вялікай Айчыннай вайны. "Паэма пра Смалячкова" – твор героіка-рамантычнага характару, паэма-біяграфія. Верш, строфіка, рытміка твора. Асобныя недахопы паэмы (празаічная расслабленасць верша ў некаторых раздзелах, залішняя дэкларацыйнасць).

"Беларусь" – паэма-кантата. Патрыятычны пафас твора. Вобраз Беларусі і яе народа – стваральніка і змагара. Зварот да гераічных старонак нацыянальнай гісторыі. Паэтызацыя беларускай прыроды. Лірызм пейзажных малюнкаў. Эмацыянальнае багацце паэмы, яе ўзвышаная, урачыста-харальная танальнасць.

Творчасць першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Паэма "Паланянка". Трагічныя матывы ў творы. Рэалістычны паказ жахаў вайны. Народна-песенная вобразнасць у паэме. Купалаўская традыцыя ў паэме "Хлеб". Патрыятычныя матывы лірыкі першых пасляваенных гадоў. Даніна "тэорыі бесканфліктнасці" ў творчасці П.Броўкі.

Шчырасць і непасрэднасць як першыя ўмовы мастацкасці ў вершах паэта 50–70-х гадоў. Інтымная і пейзажная лірыка. Медытацыі паэта аб сэнсе жыцця і месцы паэта ў свеце. Разгляд вобразна-выяўленчых сродкаў у лепшых прыродаапісальных і лірычных творах (вершы "Пахне чабор", "Гэты, кветкамі-пухам абсыпаны сад...", "Між чырвоных рабін", "Александрына", паэма "Лясы наддзвінскія" і інш.).

Узмацненне гуманістычнага пафасу, актывізацыя аўтарскага самавыяўлення. Змены ў характары броўкаўскага лірызму. Дыялектычная рухомасць і філасофская засяроджанасць лепшых узораў лірыкі 60–70-х гадоў. Рэалістычная заземленасць і прастата вобразна-выяўленчага і рытміка-інтанацыйнага ладу верша, яго музычнасць.

Паэма П.Броўкі "Голас сэрца" – гімн і рэквіем тым, хто аддаў жыццё за свабоду Радзімы. Біяграфічная аснова твора. Вобраз паэтавай маці ў паэме і яго сувязь з вобразам Радзімы. Антываенны пафас паэмы. Спалучэнне лірычнага і публіцыстычнага пачаткаў. Эмацыянальная экспрэсія і прастата паэтыкі.

Проза П.Броўкі. Аповесць "Каландры". Раман "Калі зліваюцца рэкі". Праблематыка твораў. Жанравыя асаблівасці, паэтычная стыхія, перавага лірычнага над эпічным. Мова і асаблівасці твораў, іх недахопы. Кніга "Разам з камісарам". Рэалістычнасць апавяданняў з аўтабіяграфічнай асновай. Гумарыстычныя інтанацыі ў аповесці "Донька-Даніэль".

Перакладчыцкая праца П.Броўкі. Яго публіцыстычныя выступленні.

## ПРОЗА ІВАНА МЕЛЕЖА (1921–1976)

Біяграфія пісьменніка. Эстэтычныя погляды. Пачатак творчай працы. Ваенныя дзённікі, апавяданні перыяду Айчыннай вайны ("Ноччу", "У завіруху" і інш.). Адлюстраванне гераізму звычайнага чалавека ў гэтых апавяданнях, іх псіхалагічная змястоўнасць.

Паказ жыцця пасляваеннай вёскі ў аповесці "Гарачы жнівень". Вартасці і недахопы твора. Праўдзівасць дэталяў і абмежаванасць сацыяльнага аналізу вясковага жыцця.

Раман "Мінскі напрамак". Творчая гісторыя. Праблематыка твора, дакладнасць паказу гістарычных асоб у творы. Адлюстраванне цяжкасцяў партызанскай і падпольнай барацьбы з фашызмам. Рэалістычная выразнасць у абмалёўцы прадстаўнікоў варожага лагера. Сюжэтна-кампазіцыйныя і моўна-стылёвыя асаблівасці рамана. Эпічная аснова і ўзмацненне лірызму ў новых рэдакцыях, прыёмы адкрыта эмацыянальнага пісьма.

Мележаўскія аповесці, апавяданні і нарысы сярэдзіны 50-х гадоў (кнігі "Блізкае і далёкае", "У гарах дажджы"). Цікавасць да праблем гарадскога жыцця (аповесці "Дом пад сонцам", "Блізкае і няблізкае", апавяданне "На скрыжаванні" і інш.). Маральна-этычная праблематыка ў апавяданнях "У гарах дажджы", "Спатканне за горадам". Глыбіня псіхалагічнага даследавання ў гэтых творах, іх знешняя прастата і ўнутраная змястоўнасць, агульная мастацкая дасканаласць. Роля апавяданняў у станаўленні творчай індывідуальнасці І.Мележа, яго мастацкага стылю.

Драматургія І.Мележа. "Гісторыка-рэвалюцыйная" драма "Дні нараджэння": праблема гістарычнай праўды. Сям'я і каханне ў п'есе "У новым доме". Жанравая спецыфічнасць мележаўскай драматургіі, яе сувязь з прозай пісьменніка.

"Палеская хроніка". Выспяванне задумы, творчая гісторыя, прататыпы герояў, аўтабіяграфічныя моманты. Грамадскі рэзананс раманаў "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы".

Лёсавызначальныя праблемы дзяржаўнага і грамадскага станаўлення ў трылогіі. Класічныя эпічныя традыцыі і мастацкае наватарства Мележа-раманіста. Паняцце "раман–народ" (А.Адамовіч), яго асноўныя рысы: шматпланавасць, хранікальнасць, шматгеройнасць, вобразна-стылявая поліфанія, пафас народнасці. Палемічны падтэкст мележаўскай задумы. Маштабнасць характараў галоўных герояў "Палескай хронікі". Майстэрства І.Мележа ў раскрыцці ўнутранага свету герояў твора. Глыбіня псіхалагічнага

пранікнення аўтара ў раскрыцці вобразаў вяскоўцаў. Вобраз народа ў пераломны перыяд беларускай гісторыі.

"Людзі на балоце". Паэтычны свет эпасу. Вобраз Палесся ў рамане. Паказ чалавека ў Вялікім Часе. Народна-міфалагічная падаснова сюжэта. Вобразы Васіля Дзятла і Ганы Чарнушкі. "Любоўны трохкутнік" і яго мастацкая інтэрпрэтацыя ў рамане. Гістарычная заканамернасць і роля выпадку як наканавання. Мастацкае выяўленне характару Васіля. Вызваленне чалавечай асобы ў новым часе і драма Ганны як адно з мастацкіх увасабленняў лёсу беларускай жанчыны. Драматызм становішча беларускага сялянства ў пераломны перыяд гісторыі. Духоўны бунт мележаўскіх герояў супраць наканавання і ўслаўлення разняволення чалавека. Мастацкая дэталь у рамане.

"Подых навальніцы". Паглыбленне філасофскага пачатку і адлюстраванне гэтага працэсу ў сюжэце твора. Інтэлектуальны герой, выразнік гуманістычнага пачатку (Апейка). Вастрыня драматычнай калізіі ў рамане. Развіццё "дыялектыкі пачуццяў" Васіля і Ганны. Абнаўленне выяўленчага арсеналу мележаўскай прозы (драматычны маналог герояў, інтэлектуальная насычанасць дыялогаў, роля няўласна-асабовага мыслення). Сімвалічнасць назвы.

"Завеі, снежань". Узмацненне аналітычнасці, інтэлектуальна-філасофскага пачатку і далейшая драматызацыя падзей і чалавечых характараў. "Барацьба ідэй" і яе адлюстраванне ў сюжэце. Сутыкненне супрацьлеглых поглядаў на будучыню краіны ў дыялогах і маналогах Апейкі і Башлыкова. Працяг і развіццё гуманістычных традыцый класічнай літаратуры ў мележаўскай "Палескай хроніцы". Эвалюцыя поглядаў аўтара на вобраз Ганны, рух да большай жыццёвасці ў паказе яе характару і лёсу.

Стылявыя асаблівасці Мележавай прозы. Эпічнае і лірычнае ў трылогіі, яе глыбінная ўнутраная паэтычнасць і патрыятычны пафас. Галоўныя адметнасці паэтыкі раманаў "Палескай хронікі". Пейзаж як сродак выяўлення патрыятычнага пафасу. Кампазіцыйныя асаблівасці трылогіі. Яе жанравая адметнасць. Дакументалізм трылогіі. Традыцыйнае і наватарскае ў эстэтычнай канцэпцыі і мастацкім стылі "Палескай хронікі". Глыбіня і ёмістасць псіхалагічнага аналізу. Наватарства ў выкарыстанні скарбаў жывой народнай мовы.

Нацыянальная самабытнасць трылогіі і яе агульначалавечая значнасць. "Палеская хроніка" як мастацкае ўвасабленне нацыянальнага характару і менталітэту беларускага народа. Незавершанасць эпічнай задумы І.Мележа.

Літаратурна-крытычныя выступленні І.Мележа. Кніга "Жыццёвыя клопаты". Значэнне яго творчасці ў развіцці эпічных жанраў беларускай літаратуры.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 1956–1965 ГАДОЎ

Важнейшыя перамены ў грамадскай атмасферы ў сярэдзіне 50-х гадоў. Значэнне падзей 1956 года для развіцця беларускай культуры. Аднаўленне ў літаратуры аўтарытэту агульначалавечых каштоўнасцяў.

Жанрава-стылёвыя пошукі. Спрэчкі вакол сацыялістычнага рэалізму як метаду, адкрытага для розных форм пісьма. Паглыбленне даследчыцкіх магчымасцяў літаратуры. Узмацненне сацыяльна-аналітычнай праніклівасці і праўдзівасці гуманістычнага пафасу ў паказе жыцця.

Феномен шасцідзесятніцтва. Ідэйныя і эстэтычныя асновы тых аўтараў, што прыйшлі ў літаратуру ў другой палове 50-х–60-я гады. Роля пакалення шасцідзесятнікаў у развіцці беларускай культуры. Рэабілітацыя М.Гарэцкага, У.Дубоўкі, Я.Пушчы, М.Чарота, А.Дудара, М.Зарэцкага, П.Галавача, А.Звонака, У.Хадыкі, Я.Скрыгана, М.Хведаровіча і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Проза. Роля празаічных жанраў у літаратурным працэсе 1956–1965 гадоў. Поспехі прозы гэтага часу.

Актыўная праца ў галіне прозы І.Мележа, І.Шамякіна, Я.Брыля, А.Кулакоўскага, П.Пестрака, М.Лупсякова, А.Чарнышэвіча, М.Лобана, Я.Скрыгана і інш.

Аповесці А. Кулакоўскага "Дабасельцы", "Нявестка". Грамадскі рэзананс гэтых твораў. Ідэалагічна-крытычныя нападкі на А. Кулакоўскага ў сувязі з апублікаваннем аповесці "Дабасельцы".

Пенталогія І.Шамякіна "Трывожнае шчасце", яго раманы "Крыніцы" і "Сэрца на далоні". Пачатак празаічнага цыкла М.Лобана (раман "На парозе будучыні"). Творы Я.Скрыгана (зборнікі апавяданняў "Наталя", "Скажы адно слова", "Свая аповесць" і інш.). Апавяданні М.Лынькова (зборнік "Агні Танганьікі"). Зборнік апавяданняў Я.Брыля "Надпіс на зрубе" і яго кніга "Жменя сонечных промняў". Праблемны змест названых твораў, іх героі, сюжэтна-кампазіцыйная і жанравая адметнасць, асаблівасці аўтарскага стылю.

Прыход у літаратуру В.Быкава, І.Навуменкі, І.Пташнікава, А.Карпюка, Б.Сачанкі, І.Чыгрынава, В.Адамчыка, М.Стральцова,

У.Дамашэвіча, А.Кудраўца і іншых празаікаў са сваім адметным поглядам на жыццё, сваёй тэмай, героем, мастацкім стылем. Уклад гэтых пісьменнікаў у развіццё беларускай прозы. Проза У.Карпава, Арк.Марціновіча, Р.Сабаленкі, І.Гурскага, М.Машары.

З'яўленне аповесцяў У.Караткевіча "Цыганскі кароль", "Сівая легенда", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Ладдзя Роспачы", раманаў "Нельга забыць", "Каласы пад сярпом тваім". Развіццё гістарычнай тэматыкі ў беларускай прозе.

Цяжкасці росту маладой прозы.

Развіццё ваеннай тэмы ў прозе другога ваеннага дзесяцігоддзя. З'яўленне "лейтэнанцкай" савецкай прозы ("Батальоны просят огня" Ю.Бондарава, "Иван" В.Багамолава, "Мертвые сраму не имут" Г.Бакланава, "Убиты под Москвой" К.Вераб'ёва, інш.). Аб'ектыўныя прычыны фармавання з'явы.

В.Быкаў – агульнапрызнаны лідэр плыні. Прынцып мастацкай лакалізацыі матэрыялу ў "лейтэнанцкай" прозе, засяроджанасць на вузкім коле герояў, малым падзейным абсягу. Паглыблены аналіз унутранага стану і паводзін чалавека ў трагедыйнай сітуацыі, арыентацыя на пункт гледжання ўдзельніка падзей. Дыскусіі пра "акопную" праўду, пра рэалізм і натуралізм у савецкай ваеннай прозе, у прозе В.Быкава.

Апавяданні, аповесці і раманы пра вайну І.Шамякіна, Я.Брыля, А.Кулакоўскага, А.Адамовіча, І.Навуменкі, Б.Сачанкі, А.Асіпенкі, А.Марціновіча, А.Карпюка, У.Дамашэвіча, В.Адамчыка, Л.Арабей, В.Хомчанкі, П.Місько, В.Казько і інш.

Поспехі беларускай ваеннай прозы, яе арыгінальнае стылёвае аблічча ў рэчышчы савецкай літаратуры. Праблематыка, героі, сюжэтна-кампазіцыйныя і жанрава-стылёвыя асаблівасці раманаў "Сустрэчы на ростанях" А.Кулакоўскага, "Птушкі і гнёзды" Я.Брыля, "Партызаны" А.Адамовіча, "Сасна пры дарозе" І.Навуменкі, "Плач перапёлкі" І.Чыгрынава, аповесцяў "Пушчанская адысея" А.Карпюка. Паказ беларускай вёскі ў аповесці А. Асіпенкі "Абжыты кут".

Дасягненні і пралікі беларускіх празаікаў у адлюстраванні пасляваеннай вясковай і гарадской рэчаіснасці. Праблематыка твораў, іх героі, эстэтычная адметнасць, асобныя недахопы.

Узмацненне ў прозе цікавасці да маральна-этычнай праблематыкі.

Нарысавая творчасць І.Дуброўскага, В.Вольскага, С.Кухарава, Я.Сіпакова, У.Караткевіча, В.Якавенкі, В.Мысліўца і інш.

Дакументальна-мастацкія і дакументальныя творы ў беларускай прозе. Кнігі "Руіны страляюць ва ўпор", "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску" І.Новікава, "Ад роднае зямлі…" С.Александровіча.

Проза для дзяцей (творы А.Якімовіча, У.Дубоўкі, В.Віткі, А.Васілевіч, В.Хомчанкі, І.Сяркова, П.Ткачова і інш.).

Паэзія. Якаснае абнаўленне паэзіі ў 1956–1965 гадах, яе падкрэсленая грамадзянскасць, імкненне да асэнсавання самых складаных праблем. Сацыяльны крытыцызм, паглыбленне гуманістычных матываў. Баявітасць сатырычных твораў гэтай пары. Пэўная светапоглядная абмежаванасць масавай паэзіі ў рамках савецкай эпохі.

Інтэнсіфікацыя ідэйна-мастацкіх, жанрава-стылёвых пошукаў у галіне лірыкі. Узмацненне лірызму, псіхалагічнай праніклівасці ў адлюстраванні шматгранных праяў духоўнага свету чалавека, павышаная цікавасць да інтэлектуальна-філасофскай насычанасці твораў, умоўна-асацыятыўных сродкаў выразнасці, жанравай і рытмічнай свабоды, разнастайнасці вершаваных форм (верлібр, белы і вольны вершы).

Узбагачэнне светабачання ў паэзіі А.Вялюгіна ("Адрас любові"), С.Дзяргая ("Чатыры стыхіі"), А.Пысіна ("Мае мерыдыяны"), а таксама ў творчасці М.Танка, А.Куляшова, П.Панчанкі, П.Броўкі, А.Бачылы, С.Гаўрусёва, П.Глебкі, К.Кірэенкі, П.Прыходзькі, А.Русецкага. Праблемна-тэматычная і стылёва-эстэтычная адметнасць лірыкі Р.Бара-дуліна, Г.Бураўкіна, У.Караткевіча, П.Макаля, Я.Сіпакова, Н.Гілевіча, А.Лойкі, В.Зуёнка, Д.Бічэль-Загнетавай, А.Грачанікава Ю.Свіркі, К.Цвіркі, А.Наўроцкага, С.Законнікава і іншых аўтараў.

Творчы пошук у паэзіі беларускага замежжа.

Поспехі і выдаткі беларускай паэмы. Яе тэматыка, праблемны змест, жанрава-стылёвыя разнавіднасці. Плённасць тэндэнцый лірызацыі і драматызацыі жанру. Роля паэм А.Куляшова, П.Панчанкі, М.Лужаніна, А.Русецкага, Р.Барадуліна, А.Вярцінскага і іншых у станаўленні беларускага паэтычнага эпасу. Цяжкасці ў развіцці апавядальнай, сюжэтна разгалінаванай паэмы.

Здабыткі беларускай паэзіі для дзяцей (творы В.Віткі, У.Дубоўкі, С.Грахоўскага, С.Шушкевіча, М.Калачынскага, Р.Барадуліна, Д.Бічэль-Загнетавай і інш.).

Майстэрства беларускага паэтычнага перакладу (У.Дубоўка, А.Куляшоў, М.Танк, М.Хведаровіч, А.Звонак, А.Зарыцкі, Р.Барадулін, Н.Гілевіч, Я.Сіпакоў, Ю.Гаўрук, Я.Семяжон, В.Сёмуха і інш.) і яго роля ў развіцці нацыянальных паэтычных традыцый, у збліжэнні нашай літаратуры з еўрапейскімі.

Драматургія. Актуальнасць грамадска-сацыяльных і маральна-этычных праблем у драматургіі другога пасляваеннага дзесяцігоддзя.

Творчая актыўнасць К.Крапівы, А.Макаёнка, К.Губарэвіча, А.Маўзона, І.Козела, П.Васілеўскага, А.Дзялендзіка.

Узмацненне канфліктнай асновы драматычных твораў, пашырэнне тэматыкі, абнаўленне праблемнага зместу, паглыбленне даследчага пафасу, актывізацыя жанравых, сюжэтна-кампазіцыйных і моўна-стылёвых пошукаў драматургіі, яе наватарства. Поспех беларускай сатырычнай камедыі ("Брама неўміручасці" К.Крапівы, "Зацюканы апостал" А.Макаёнка).

Поспехі беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Узмацненне іх ролі ў літаратурным працэсе. Працяг традыцый так званай пісьменніцкай крытыкі аўтарамі-"шасцідзесятнікамі".

Значэнне літаратуры другога пасляваеннага дзесяцігоддзя ў развіцці нацыянальнага мастацтва.

## ТВОРЧАСЦЬ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА (1930–1984)

Біяграфія пісьменніка. У.Караткевіч – класік беларускай гістарычнай прозы. Асноўныя тэндэнцыі творчасці. Роля творчасці У.Караткевіча ў адраджэнні нацыянальнай самасвядомасці і гістарычнай памяці беларусаў.

Жанравае і тэматычнае багацце паэзіі У.Караткевіча. Мастацкая адметнасць зборнікаў паэзіі У.Караткевіча "Матчына душа" (1958), "Вячэрнія ветразі" (1960), "Мая Іліяда" (1969) і "Быў, ёсць, буду" (1986). Навізна і арыгінальнасць паэтычнага слова. Нацыянальная ідэя ў паэзіі У.Караткевіча. Гістарычныя постаці ў вершах паэта. Казачна-міфалагічная ўмоўнасць у паэзіі У.Караткевіча, роздум над лёсам чалавека і чалавецтва. Багатая вобразная структура вершаў, іх фармальная разнароднасць. Адметнасць паэтычных балад У.Караткевіча і трансфармацыя ў іх рамантычных матываў гісторыі і фальклору.

Першыя празаічныя творы. Адметнасць тэматыкі і стылістыкі апавяданняў У.Караткевіча.

Аповесць "У снягах драмае вясна": аўтабіяграфічнасць твора, яго праблематыка.

Патрыятычны змест аповесці "Сівая легенда" (1960). Рамантычная ідэалізацыя ў творы. "Сівая легенда" як пратэст супраць дэспатызму, рэнегацтва і здрады Радзіме.

Раман "Нельга забыць" ("Леаніды не вярнуцца да Зямлі"), праблематыка твора, галоўныя персанажы і багацце мастацка-выяўленчых сродкаў. Гісторыя публікацыі рамана.

Гістарычны дэтэктыў "Дзікае паляванне караля Стаха": пафас і праблематыка, адметнасць кампазіцыі.

Раман "Каласы пад сярпом тваім". Шматпланавасць і маштабнасць твора. Час і прастора ў рамане. Атмасфера і дух эпохі. Праблематыка твора. Асаблівасці сюжэтна-кампазіцыйнай пабудовы. Літаратурныя персанажы, народжаныя мастацкай фантазіяй пісьменніка, і рэальныя гістарычныя асобы. Вобразы Алеся Загорскага і Кастуся Каліноўскага. Роля лірычных і пейзажных адступленняў у творы. Эпічнасць, лірызм і публіцыстычнасць рамана. Роля сімволікі ў творы. Стылявыя асаблівасці рамана.

Аповесць "Зброя" як своеасаблівае адгалінаванне рамана "Каласы пад сярпом тваім", як выкрывальная сатыра на самадзяржаўна-прыгонніцкі лад Расіі 50-х гадоў XIX ст.

Паэма ў прозе У.Караткевіча "Чазенія" (1970). Эстэтычна-ідэйная шматмернасць твора. Асэнсаванне праблемы быцця чалавека і чалавецтва, імкненне спасцігнуць мудрасць прыроды. Вобразы Севярына Будрыса і Гражыны Арсайлы. Рацыяналістычна-прагматычныя і ўзнёсла-творчыя падыходы ў разуменні існавання на Зямлі. Стыль аповесці, яркасць і каларытнасць вобразна-выяўленчых сродкаў, лірычнасць і эмацыянальнасць аповеду.

Гісторыка-дэтэктыўны раман "Чорны замак Альшанскі" (1984). Праблематыка твора. Глыбіня псіхалагізму і аснова канфлікту ў рамане. Антон Космiч – чалавек вялікай духоўнай моцы і выразнай нацыянальнай пазіцыі. Гісторыя і сучаснасць у творы. Дынамічнасць сюжэту і адметнасць паэтыкі.

Раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", яго адметнае месца ў беларускай літаратуры. Традыцыі "карнавальнай літаратуры" і фальклорнай смехавой культуры ў творы. Гратэск у рамане. Сацыяльна-філасофскі і псіхалагічны змест рамана, спецыфіка пабудовы прыгодніцкага сюжэта. Сімволіка і алегорыка рамана. Жанрава-стылёвая характарыстыка твора, яго галоўныя стылістычныя адметнасці. Мова рамана.

Філасофская праблематыка ў аповесці "Ладдзя Роспачы". Жанрава-стылёвая адметнасць твора. Майстэрства абмалёўкі характараў, выяў-ленне нацыянальнай ментальнасці.

Антываенны пафас аповесці "Лісце каштанаў".

Драматургія У.Караткевіча. Праблемная і жанрава-стылёвая спецыфіка п'ес "Млын на Сініх Вірах", "Трошкі далей ад Месяца", "Кастусь Каліноўскі", "Калыска чатырох чараўніц" і інш.

Роля творчасці У.Караткевіча ў развіцці беларускай літаратуры XX стагоддзя.

## ТВОРЧАСЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА (1924 – 2003)

Біяграфія пісьменніка. Станаўленне творчай індывідуальнасці. Агляд творчасці. Тыпалагічныя рысы быкаўскай аповесці, яе тэматычная і праблемная разнастайнасць.

Першыя апавяданні аб вайне. Іх праблематыка. Імкненне аўтара ствараць гераічныя характары. Праблема гуманізму, аналітычнае даследаванне характараў у апавяданні "На сцяжыне жыцця".

Аповесць "Жураўліны крык". Праўдзівасць твора.Тыповыя абставіны пачатковага перыяду вайны ў аповесці, тыповасць чалавечых характараў, іх звычайнасць. Экскурсы ў даваенную біяграфію персанажаў. Трагедыйнасць лёсу герояў твора, абвостранасць гуманістычнай думкі аўтара ў іх паказе. Рэалістычная дакладнасць і псіхалагізм у раскрыцці характараў. Роля партрэта ў стварэнні псіхалагічных характарыстык персанажаў. Значэнне пейзажу ў творы. Эпічны паралелізм у пейзажных малюнках. Сюжэтны драматызм аповесці. Сугучнасць "Жураўлінага крыку" з творамі аб вайне Р.Бакланава, Ю.Бондарава, К.Сіманава і інш.

Выкрыццё прыстасавальніцтва ў ваенных умовах у аповесці "Здрада". Вобраз кар'ерыста і прыстасаванца Блішчынскага ў творы.

Аповесць "Трэцяя ракета", яе навізна для тагачаснай літаратуры. Грамадскі рэзананс твора. Мастацкае даследаванне гераізму звычайнага чалавека. Гуманістычны пафас твора і яго антываенныя матывы. Талстоўскія традыцыі ў аповесці В.Быкава. Рэалістычная глыбіня і пераканальнасць у абмалёўцы герояў твора. Маральны максімалізм В.Быкава і яго станоўчых герояў у асуджэнні здрады. Пошукі новых форм тыпізацыі ў "Трэцяй ракеце". Эпас, лірызм, публіцыстычнасць у творы. Унутраная цэласнасць аповесці.

Складанасць ваенных абставін у аповесці "Пастка". Тупіковы характар сітуацыі, у якой апынуўся лейтэнант Клімчанка. Трагедыйнасць гэтага вобраза. Сюжэтны дынамізм твора.

Аповесць "Альпійская балада". Творчая гісторыя, праблематыка твора. Мастацкая канцэпцыя аповесці. Палемічныя аспекты ў паказе трагічнага лёсу былых ваеннапалонных, іх мужнасці і гераізму ва ўмовах фашысцкіх канцлагераў. Вобраз Івана Цярэшчанкі. Патрыятычныя пачуцці персанажа, яго высакародства і самаахвярнасць ва ўзаемаадносінах з Джуліяй. Мастацкая адметнасць "Альпійскай балады". Суровы рэалізм у паказе чалавека,

яго псіхалогіі і рамантычны каларыт абставін у некаторых эпізодах. Элементы рамантычнай паэтыкі ў стылёвым ладзе твора. Трагедыйны лірызм аповесці. Унутраныя маналогі, мастацкая дэталь у "Альпійскай баладзе". Асаблівасці мовы.

Актыўнасць мастацкіх пошукаў, пашырэнне творчых гарызонтаў В.Быкава ў прозе другой паловы 60-х гадоў. Аповесць "Мёртвым не баліць". Гісторыя публікацыі і ідэалагічна-крытычны прэсінг на аўтара. Праблематыка твора, вернасць праўдзе ў паказе вайны. Жанрава-стылёвыя адметнасці твора. Значэнне аповесці ў сталенні таленту і грамадскай пазіцыі В.Быкава.

Сімвал вышыні як салдацкай галгофы ў аповесці "Праклятая вышыня". Адметнасць стылістыкі і кампазіцыі.

Праблематыка партызанскай барацьбы ў аповесці "Круглянскі мост". Вобразы Сцёпкі Таўкача і Брытвіна. Сутнасць канфлікту ў творы.

Аповесць "Сотнікаў". Творчая гісторыя. Паказ вытокаў мужнасці і гераізму простых людзей у дні Вялікай Айчыннай вайны. Шматграннасць і псіхалагічная складанасць чалавечых характараў у аповесці. Дыялектычнасць псіхалагічнага аналізу. Асяроддзе, што сфарміравала духоўны свет персанажа. Асаблівасці характару, светапогляд героя, яго маральныя прынцыпы. Эвалюцыя жыццёвых перакананняў. Гуманістычная сутнасць вобраза Сотнікава. Майстэрства пісьменніка ў абмалёўцы персанажа. Вобраз Рыбака. Практыцызм і суб'ектыўнасць маральных крытэрыяў, недастатковасць духоўнага патэнцыялу. Мастацкая пераканальнасць празаіка ў паказе Рыбаковага падзення, шляху да здрады, у асэнсаванні трагедыі бездухоўнасці. Дакладнасць аўтара ў перадачы рэалій Вялікай Айчыннай вайны, яе атмасферы. Актуальнасць маральна-этычных праблем аповесці. Сюжэтна-кампазіцыйныя асаблівасці твора, яго моўная натуральнасць. Дыялог і ўнутраны маналог у мастацкай структуры аповесці.

Аповесць "Абеліск". Праблема маральнага выбару ў творы. Гераічны пафас аповесці. Яе песімістычнасць. Абвостраная пастаноўка праблемы народнага гераізму. Вобраз настаўніка Алеся Мароза. Усведамленне ім грамадзянскага абавязку перад народам і Радзімай. Маральная вышыня чалавечага подзвігу Алеся. Дзейнасць настаўніка Міклашэвіча як арганічнае прадаўжэнне перакананняў і спраў Мароза. Сувязь прысвячэння твора памяці М.А.Пашкевіча з ідэйным зместам аповесці. Мастацкія асаблівасці "Абеліска". Публіцыстычныя элементы ў творы, яго сюжэт і кампазіцыя, роля дыялогаў-спрэчак у раскрыцці чалавечых характараў.

Аповесць "Дажыць да світання". Яе сувязь з ранейшымі творамі пісьменніка. Канцэпцыя гераічнага характару ў аповесці. Вобраз лейтэнанта Ігара Іваноўскага. Глыбіня псіхалагічнага аналізу і іншыя мастацкія вартасці твора.

Праблема гуманізму ў аповесці "Воўчая зграя". Сцверджанне сілы жыцця і яго неадольнасці ў паядынку са смерцю. Мастацкая адметнасць "Воўчай зграі". Сімвалічныя малюнкі ў творы. Мінулае і сучаснае ў аповесці, іх "непадзельнасць" у псіхалогіі герояў. Роля "абрамлення" ў выяўленні ідэйнай задумы, у кампазіцыйнай арганізацыі твора.

Натуралістычныя сцэны і багацце мастацкіх дэталяў у аповесці "Яго батальён". Вобраз капітана Валошына.

Вастрыня праблематыкі ў аповесці "Пайсці і не вярнуцца". Паэтызацыя чалавечай дабрыні, духоўнай велічы, высакародства (вобраз Зосі Нарэйкі), выкрыццё бездухоўнасці і ваяўнічай подласці (вобраз Антона Галубіна).

Аповесць "Знак бяды". Маштабнасць характару галоўных герояў Петрака і Сцепаніды. Рысы прататыпаў гэтых вобразаў. Выкрыццё жорсткасці фашызму ў творы. Даваенная рэчаіснасць у аповесці. Яе значнасць для разумення лёсу герояў. Навізна і праўда ў адлюстраванні сталінскай калектывізацыі. Глыбіня гуманістычнай думкі пісьменніка. Мастацкая і біблейская сімволіка ў творы. Адметнасць паэтыкі. Мова аповесці.

Праблемная аснова рамана "Кар'ер". Героі твора, вобразна-выяўленчая адметнасць. Месца "Кар'ера" ў празаічнай спадчыне В.Быкава.

Аповесць "У тумане". Творчая і ідэйная эвалюцыя пісьменніка, звязаныя з магчымасцю свабодна выказваць сваю мастакоўскую пазіцыю. Праблематыка аповесці, жанрава-стылістычная адметнасць.

Паглыбленне трагедыйнага пафасу ў творчасці В.Быкава. Аповесць "Аблава". Вобраз гістарычнага фатума і праблема асобы. Паняцце Радзімы ў разуменні Хведара Роўбы. Духоўны і маральны стан героя. Роля ўспамінаў і роздуму ў псіхалагічнай характарыстыцы. Трагедыя сям'і Роўбы. Атмасфера класавай нянавісці і агульначалавечыя каштоўнасці ў аповесці. Беларускія краявіды ў "Аблаве". Гуманістычны пафас твора. Майстэрства драматычнай калізіі. Рысы экспрэсіянізму і экзістэнцыялізму ў паэтыцы аповесці.

Творчасць В.Быкава 90-х гадоў. Характарыстыка аповесцяў "Пакахай мяне, салдацік", "Ваўчыная яма", "Балота", зборніка апавяданняў "Сцяна" ("На Чорных лядах", "Жоўты пясочак", "Сцяна"), а таксама апавяданняў "Труба", "Народныя мсціўцы" і інш.

Своеасаблівасць быкаўскай прытчы. Цыкл "Байкі жыцця" ("Хвастаты", "Кошка і мышка", "Вуціная гісторыя" і інш.).

Актыўнасць грамадзянскай пазіцыі ў прозе В.Быкава 90-х гадоў.

Своеасаблівасць Быкава-мастака. Канкрэтнасць і выразная прадметнасць успрымання рэчаіснасці ў творах пісьменніка, дакладнасць у передачы дэталяў ваеннага побыту, абумоўленая дасканалым асабістым веданнем вайны. Знешняя лакальнасць і ўнутраная маштабнасць, глыбіня бакаўскай аповесці, засяроджанасць аўтара ў кожным асобным творы на абмежаваным коле персанажаў і іх дэталёвая псіхалагічная распрацоўка. Суровы рэалізм пісьменніка і рэзкія, рамантычна-падкрэсленыя кантрасты ў паказе чалавека, страснасць у сцверджанні станоўчага і бязлітаснасць у выкрыцці адмоўнага. Вастрыня канфлікту ў прозе В.Быкава і яго этычны максімалізм, схільнасць да трагедыйных сітуацый і лёсаў, да выпрабавання герояў крайнімі, гранічна складанымі абставінамі, пастаянная ўвага да праблемы выбару і інш. Узаемасувязь твораў празаіка аб вайне, іх сістэмнасць. Творы В.Быкава як частка цэласнай карціны пра подзвіг чалавека.

Мастацкі вопыт Л.Талстога, Ф.Дастаеўскага і іншых пісьменнікаў у працы В.Быкава. Быкаўская проза і традыцыі беларускай літаратуры (М.Гарэцкі, Я.Колас, К.Чорны і інш.). Нацыянальная самабытнасць В.Быкава. Папулярнасць яго твораў, іх жыццё ў іншых відах мастацтва, уплыў на суседнія літаратуры, роля ў стварэнні праўдзівага мастацкага летапісу ў паказе другой сусветнай вайны, у замацаванні традыцый рэалістычнага паказу чалавека на вайне. Гераізм звычайных людзей, радавых народнай барацьбы з фашызмам.

В.Быкаў і экзістэнцыялізм. Творчасць В.Быкава як эвалюцыя ад стыхійнага экзістэнцыялізму да паўнакроўнай экзістэнцыяльнай канцэпцыі чалавека і свету.

Пераклады прозы В.Быкава на замежныя мовы. Бібліяграфія арыгінальных выданняў.

Крытычныя і літаратуразнаўчыя працы пісьменніка.

Публіцыстыка В.Быкава.

Значэнне творчасці В.Быкава ў развіцці беларускай літаратуры. Уплыў на іншыя галіны нацыянальнай культуры. Агульнаеўрапейскі і сусветны розгалас творчасці пісьменніка.

## ПРОЗА АЛЕСЯ АДАМОВІЧА (1927–1994)

А.Адамовіч – адзін са знакамітых прадстаўнікоў ваеннай прозы. Праблемная і мастацкая адметнасць яго раманаў "Вайна пад стрэхамі" і "Сыны ідуць у бой".

Праблемная і жанрава-стылёвая адметнасць аповесці "Карнікі".

"Хатынская аповесць". Дакументальная аснова твора. "Хатынская аповесць" – кніга-дыялог з чалавекам і чалавецтвам. Вобраз Фларыяна Пятровіча Гайшуна. Праблема ядзернага апакаліпсісу ў творы. Палемічнасць аповесці. Гуманістычны пафас "Хатынскай аповесці", яе вобразна-выяўленчыя сродкі.

Мастацка-аўтабіяграфічная аповесць "Vixi". Роздум пра жахлівую прыроду таталітарызму (вобразы Сталіна і Гітлера). Бачанне складаных праблем сучаснасці, разуменне іх. Аповесць як філасофская споведзь пра перажытае.

Літаратуразнаўчая і крытычная творчасць А.Адамовіча. Яго роля ў развіцці беларускай прозы 60-80-х гадоў.

## ПРОЗА ІВАНА ШАМЯКІНА (нар. у 1921)

Біяграфія пісьменніка.

Пачатак творчай працы. Апавяданні аб Вялікай айчыннай вайне ("У снежнай пустыні", "Бацька", "Браты" і інш), аповесць "Помста". Раман "Глыбокая плынь". Поспех твора ў чытачоў і яго грамадскае прызнанне. Найбольш пераканальныя вобразы ўдзельнікаў партызанскага руху (Карп і Таццяна Маеўскія, Жэнька Лубян). Недастатковае псіхалагічнае напаўненне вобразаў кіраўнікоў антыфашысцкай барацьбы, праявы зададзенасці і дэкларацыйнасці ў іх паказе. Уменне аўтара дасягнуць драматычнай напружанасці ў разгортванні падзей, выкарыстанне прыгодніцка-дэтэктыўных прыёмаў для ўзмацнення займальнасці твора, роля эмацыянальна-афарбаванага пейзажу ў сюжэтна-кампазіцыйнай структуры. Узмацненне рэалістычных тэндэнцый у апавяданнях і замалёўках з цыкла "Партрэты".

Раман "Крыніцы". Праблемная навізна твора для беларускай літаратуры сярэдзіны 50-х гадоў. Адлюстраванне ў "Крыніцах" заганнасці культаўскай псіхалогіі і практыкі, у прыватнасці – валявых метадаў у кіраўніцтве, уладалюбсва, дэмагогіі і паказухі.

Кніга аповесцяў "Трывожнае шчасце". Творчая гісторыя. Аўтабіяграфічныя моманты ў аповесцях. Вобразы Сашы Траянавай і Пятра Шапятовіча ў "Трывожным шчасці".

Паэзія юнацтва і кахання ў "Непаўторнай вясне". Эмацыянальна-псіхалагічная змястоўнасць аповесці, яе пранікнёны лірызм. Роля аўтарскіх адступленняў лірычнага і публіцыстычнага характару ва ўзмацненні адкрытай эмацыянальнасці пісьменніцкага стылю ў гэтай аповесці.

Суровая праўда вайны ў аповесці "Агонь і снег". Грамадзянская страснасць пісьменніка ў выкрыцці кар'ерызму ва ўмовах вайны (вобраз Сцяпана Кідалы). Унутраны драматызм аповесці "Агонь і снег". Дзённікавая форма твора.

Тэма партызанскай і падпольнай барацьбы супраць фашызму ў аповесцях "Начныя зарніцы" і "Пошукі сустрэчы". Моцнае і слабае ў гэтых аповесцях.

Складаныя праблемы рэчаіснасці ў аповесці "Мост". Палемічная скіраванасць твора супраць недастаткова глыбокіх, лакіровачных твораў у нашай ранейшай літаратуры. Узбагачэнне характараў Сашы Траянавай і Пятра Шапятовіча ў аповесці.

Рэалістычнае і рамантычнае ў творы.

Маральна-этычныя праблемы ў апавяданнях "Вячэрні сеанс", "Дзеці настаўніцы", "Непрыгожая", "Аксана" і іншыя. Мастацкая дасканаласць лепшых апавяданняў пісьменніка з маральна-этычнай праблематыкай.

Раман "Сэрца на далоні". Творчая гісторыя. Эстэтычнае асваенне гарадской рэчаіснасці ў творы. Сувязь рамана з грамадскімі пераменамі 50–60-х гадоў. Перакрыжаванне розных храналагічных "зрэзаў" у рамане. Сюжэтна-кампазіцыйныя і моўна-стылёвыя асаблівасці "Сэрца на далоні". Рэалістычная сімволіка ў рамане.

Асвятленне маральна-этычных праблем сучаснасці ў рамане "Снежныя зімы". Пераканальнасць ваенных эпізодаў твора. Псіхалагічная складанасць і жыццёвая супярэчлівасць вобраза Антанюка. Галоўныя прыёмы і сродкі абмалёўкі гэтага персанажа. Сюжэтна-кампазіцыйная структура твора. Дэтэктыўныя элементы ў "Снежных зімах".

Раман "Анланты і карыятыды". Праблема горадабудаўніцтва ў творы. Тэма сям'і ў рамане. Змястоўнасць псіхалагічнага аналізу ў творы. Асаблівасці сюжэта, кампазіцыі, мовы.

Раман "Вазьму твой боль". Яго гуманістычны пафас. Надзённасць праблематыкі. Вобраз Івана Батрака. Рэтраспектыўны зварот да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Мастацкая адметнасць твора.

Раман пра трагедыю Чарнобыля "Злая зорка". Востры сацыяльна-публіцыстычны і гуманістычны пафас твора. Лёсы сем'яў Пустаходаў і Пыльчанкаў. Паэтыка рамана. Адметнасць кампазіцыі твора.

Аповесці пісьменніка 90-х гадоў ("Paradis auf Erden", "Сатанінскі тур", "Палеская мадонна" і інш.). Праблематыка і асноўныя вобразна-выяўленчыя і стылёвыя адметнасці.

Аўтабіяграфічная аповесць "Слаўся, Марыя!"

Дзённікавыя запісы празаіка (кніга "Роздум на апошнім перагоне").

Значэнне творчасці І.Шамякіна ў гісторыі беларускай літаратуры. Папулярнасць шамякінскіх твораў, іх пераклады на замежныя мовы.

## ТВОРЧАСЦЬ ЯНКІ БРЫЛЯ (нар. у 1917)

Біяграфія пісьменніка.

Адлюстраванне заходнебеларускай рэчаіснасці ў ранніх творах Я.Брыля. Аўтабіяграфічныя элементы, маральна-этычныя пошукі герояў аповесці "У сям'і". Нацыянальна-вызваленчая барацьба ў рамане "Граніца". Багацце жыццёвага зместу рамана, яго мастацкая адметнасць (ліра-эпічны характар, навелістычнасць сюжэтна-кампазіцыйнай арганізацыі, асаблівасці апавядальнай структуры і інш.).

Паказ партызанскай барацьбы ў дакументальнай аповесці "Нёманскія казакі". Адлюстраванне жыцця ў гады акупацыі. Абвостранасць гуманістычнай думкі.

Драма жанчыны ў апавяданні "Галя".

Вастрыня выкрывальнага пафасу ў сатырычных апавяданнях Я.Брыля ("Прывал", "Субардынацыя" і інш.). Памфлетная з'едлівасць і лірычная інтанацыя ў гэтых творах.

Майстэрства Я.Брыля-апавядальніка. Ёмістасць мастацкай дэталі ў апавяданнях пісьменніка, значэнне эмацыянальна-ацэначнага слова, багацце яго адценняў. Спалучэнне лірызму і псіхалагізму, пластычнасць малюнкаў. Агульная яркасць і выразнасць выяўленчых сродкаў. Гумар і іронія ў стылёвай сістэме Я.Брыля. Нацыянальная самабытнасць фарбаў, народнасць погляду на свет.

Аповесць "У Забалоцці днее", яе ідэйная накіраванасць, праблематыка. Вастрыня канфлікту і элементы святочна-захопленага, ідылічнага ўспрыняцця рэчаіснасці ў творы.

Аповесць "На Быстранцы". Грамадзянская пазіцыя аўтара ў аналізе негатыўных з'яў жыцця. Рэалістычныя замалёўкі вяскоўцаў.

Спалучэнне публіцыстычнага і лірычнага. Паэтычнасць у паказе кахання. Дасканаласць малюнкаў прыроды.

Нарастанне аналітычнасці ў прозе Я.Брыля (аповесць "Апошняя сустрэча"). Пафас маральнай патрабавальнасці і чысціні.

Раман "Птушкі і гнёзды". Творчая гісторыя. Аўтабіяграфічныя элементы.Тэма Радзімы і яе мастацкае асвятленне ў рамане. Вобраз Алеся Руневіча. Рэалістычна дакладны паказ у "Птушках і гнёздах" фашызму, яго вытокаў і сацыяльнай глебы. Навізна і багацце жыццёвага матэрыялу ў кнізе, гістарызм твора і яго надзённасць. Мастацка-выяўленчыя сродкі рамана. Аналітычнасць эстэтычнага даследавання, глыбіня філасофскай думкі, эпічнасць і лірызм. Роля ўнутранага маналогу, успамінаў у раскрыцці ідэйнага зместу. Прыёмы і сродкі тыпізацыі нацыянальных характараў.

Аповесць "Ніжнія Байдуны". Выкарыстанне рэальнага фактычнага матэрыялу ў аповесці. Вобразы байдуноў у творы. Разнавіднасці смеху і сродкі іх паказу. Паняцце "камічнай сітуацыі". Суадносіны ўзвышанага і нікчэмнага, афіцыйнага і простанароднага. Прырода смеху ў Я.Брыля і М.Гогаля, у іншых гумарыстаў. Прыёмы стварэння камічнага эфекту ў аповесці: гульня слоў, парадаксальнае сутыкненне фактаў і падзей, дасціпнае спалучэнне паняццяў і з'яў, сродкі "карнавалізацыі", анекдатычнасць сітуацый і інш. Паняцце "смех скрозь слёзы" (М.Гогаль) у вобразнай трансфармацыі Я.Брыля.

Аповесць "Золак, убачаны здалёк". Праблематыка твора, яго антываенны пафас. Аўтабіяграфічнае ў аповесці. Вобраз апавядальніка. Характар апавядальнасці. Выяўленчае майстэрства ў творы. Адметнасць яго псіхалагізму.

Жанр мініпрозы ў творчасці Я.Брыля. Яго сувязь з дзённікамі і запіснымі кніжкамі. Паэзія імгненняў жыцця. Сродкі стварэння мастацкага вобраза ў "малой прозе", шматстайнасць жыцця і яго праяў у творчасці.

Тэматычная шматграннасць і эстэтычная арыгінальнасць мініяцюр з кніг "Жменя сонечных промняў", "Вітраж", "Сёння і памяць" і інш. Асоба аўтара ў мініяцюрах, яго прамая, неапасродкаваная літаратурным сюжэтам размова з чытачом. Багацце і непасрэднасць уражанняў, трапнасць назіранняў, іх шчырасць і эмацыянальнасць. Чалавечнасць і глыбіня пісьменніцкага роздуму. Лірычная пранікнёнасць і гумарыстычная з'едлівасць у брылёўскіх мініяцюрах, лаканізм, дасціпнасць і афарыстычнасць іх мовы і інш.

Эстэтычныя погляды, грамадзянскае аблічча, асаблівасці мастацкага мыслення Я.Брыля ў яго дзённікавых запісах, іх месца ў творчай біяграфіі аўтара і ў гісторыі беларускай літаратуры.

Нарысістыка Я.Брыля.

Стварэнне (разам з А.Адамовічам і У.Калеснікам) кнігі "Я з вогненнай вёскі". Гістарычнае і палітычнае значэнне кнігі, унікальнасць як дакументальнай трагедыі.

Творы Я.Брыля для дзяцей. Праблема патрыятычнага і эстэтычнага выхавання ў гэтых творах. Шматфарбнасць і паэтычнасць брылёўскай прозы для дзяцей.

Літаратурна-крытычныя артыкулы пісьменніка (кнігі "Роздум і слова", "Трохі пра вечнае", іншыя выступленні).

Праца Я.Брыля як перакладчыка рускай, украінскай і інш. літаратур. Яе роля ў пашырэнні выяўленчых магчымасцяў беларускай літаратурнай мовы.

Значэнне творчай дзейнасці Я.Брыля для гісторыі беларускай літаратуры. Уплыў творчасці пісьменніка і яго постаці на сучасны літаратурны працэс.

## ТВОРЧАСЦЬ АНДРЭЯ МАКАЁНКА (1920–1982)

Біяграфія пісьменніка.

Першыя крокі ў галіне драматургіі.

Камедыя "Выбачайце, калі ласка!". Сатырычная вастрыня твора і яго шырокі грамадскі рэзананс. Творчае выкарыстанне і далейшае развіццё традыцый крапівінскай камедыяграфіі. Маштабнасць галоўных сатырычных характараў камедыі (Калібераў, Моцкін). Некаторыя асаблівасці драматургічнага майстэрства.

Адлюстравнне складаных праблем калгаснай вёскі 50-х гадоў у камедыі "Каб людзі не журыліся".

Камедыя "Лявоніха на арбіце". Вобраз Лявона Чмыха. Элементы паспешлівасці і кан'юктурнасці ў асуджэнні героя. Яркасць сатырычных характараў.

Творчыя пошукі ў драматургіі А.Макаёнка канца 60–70-х гадоў.Зварот да традыцый старажытнай беларускай інтэрмедыі, батлейкі, выкарыстанне прыёмаў народнага лубка і фарсавых твораў, вопыту сучаснай інтэлектуальна-філасофскай драмы. Традыцыі М.Горкага, У.Маякоўскага, Б.Брэхта ў творчасці А.Макаёнка.

Прытчава-філасофскі, падкрэслена інтэлектуальны характар п'есы "Зацюканы апостал". Яе жанравая навізна. Умоўнасць часу і месца дзеяння ў творы. Узбуйненасць, гранічная абагуленасць і выразная сімвалічнасць персанажаў. Іх характарыстыка. Асаблівасці

выяўленчых прыёмаў і сродкаў у п'есе. Іх багацце і разнастайнасць. Роля аўтарскага каментарыя.

Прыёмы ўмоўнасці ў трагікамедыі "Трыбунал". Своеасаблівасць жанравай прыроды твора. Элементы лубка і фарсу ў яго мастацкай структуры. Камічнае і трагічнае ў творы. Наватарскае выяўленне нацыянальнага характару беларусаў у вобразах Цярэшкі, яго жонкі Паліны і іншых станоўчых герояў. Парадыйна-сатырычныя інтанацыі ў творы.

Актуальныя паблемы вясковай рэчаіснасці 70-х гадоў у камедыі-рэпартажы "Таблетку пад язык". Вобразы Каравая, Крандзялёва і дзеда Цыбулькі. Жанравая, сюжэтна-кампазіцыйная і моўная асаблівасці камедыі.

Маральна-этычная праблематыка камедыі "Кашмар" ("Святая прастата"). Публіцыстычныя элементы ў творы. Пратэст пісьменнікаў супраць гонкі ўзбраенняў. Элементы шаржу і гратэску ў абмалёўцы некаторых персанажаў. Выкарыстанне прыёмаў умоўнасці.

Гуманістычны характар камедыі "Верачка".

Сатырычная вастрыня камедыі "Пагарэльцы". Мастацкая адметнасць твора.

Камедыя "Дыхайце эканомна". Умоўна-фантастычны сюжэт і жыццёвасць, актуальнасць праблематыкі, гуманістычны сэнс, скіраванасць супраць тэрмаядзернай пагрозы.

Роля А.Макаёнка ў развіцці беларускай драматургіі. Папулярнасць лепшых п'ес пісьменніка, шырокая "геаграфія" іх сцэнічнага жыцця.

## ТВОРЧАСЦЬ НІЛА ГІЛЕВІЧА (нар. у 1931)

Звесткі аб жыцці і творчасці паэта. Станаўленне творчай індывідуальнасці. Бібліяграфія асноўных выданняў ("Песня ў дарогу", "Неспакой", "Бальшак", "Перазовы", "А дзе ж тая крынічанька", "Актавы", "У добрай згодзе", "Повязь", "Жыта, сосны і валуны", "Незалежнасць", "Талісман").

Грамадзянская лірыка Н.Гілевіча (верш "Праклён" і інш.). Публіцыстычная пафаснасць, кантрастная пабудова вобразаў. Трыбунныя інтанацыі і народны гумар.

Медытатыўная лірыка і форма актавы. Лірызм, народная песеннасць, класічныя традыцыі ў творах паэта. Эмацыянальна-пачуццёвая і вобразна-выяўленчая палітра лірыкі. Наватарства ў галіне паэтыкі.

Пейзажная лірыка Н.Гілевіча. Маляўнічасць фарбаў, магія гукапісу (вершы "Свята зямлі", "Снежаньская імпрэсія" і інш.).

Майстэрства паэтычнай сатыры і гумару Н.Гілевіча, іх грамадзянская страснасць, фальклорныя традыцыі, жанравае багацце ("Замова мнагажонца ад праследавання" і інш.).

Раман у вершах "Родныя дзеці". Ліра-эпічны жанр у беларускай паэзіі і паэма Н.Гілевіча. Ідэйная задума твора і яго кампазіцыя. Лірычна-публіцыстычныя адступленні ў творы. Вобраз Сцяпана Вячоркі, яго рэфлексіі над актуальнымі праблемамі сучаснасці. "Родныя карані" і іх успрыняцце сучасным гараджанінам, творчай асобай. Сям'я Вячоркі ў сістэме вобразаў паэмы. Любоўная калізія і яе паэтычнае разгортванне.

Вершы Н.Гілевіча для дзяцей.

Аўтабіяграфічная аповесць "Перажыўшы вайну".

Майстэрства і актыўнасць Н.Гілевіча-перакладчыка.

Публіцыстыка паэта, яе грамадзянская і нацыянальная адметнасць.

## ТВОРЧАСЦЬ АЛЕГА ЛОЙКІ (нар. у 1931)

Біяграфія пісьменніка. Станаўленне творчай індывідуальнасці.

Бібліяграфія арыгінальных выданняў паэзіі. Шырокая жанрава-стылявая палітра вершаў А.Лойкі. Асноўныя матывы лірыкі паэта. Захапленне прыгажосцю роднага краю, вера ў чалавека. Грамадзянская паэзія А.Лойкі. Рамантычна-ўзнёслае светабачанне лірычнага героя, грамадская актыўнасць, імкненне да вышынь духоўнасці. Багацце пейзажнай лірыкі А.Лойкі. Пантэістычнае атаясамліванне чалавека і прыроды. Тэма Радзімы ў лірыцы паэта: маштабна-гістарычны і лакальна-родавы планы. Сузіральна-ілюстрацыйныя вершы і вершы-прысвячэнні. Тэндэнцыя да інтэлектуалізму ў паасобных паэтычных нізках, іх палемічнасць. Актуальныя праблемы сучаснасці ў паэзіі А.Лойкі. Экзістэнцыяльныя матывы і філасофская заглыбленасць паэзіі 90-х гадоў. Меладычнасць і напеўнасць паэзіі, адметнасць вобразна-выяўленчых сродкаў і тропаў. Эстэтычная прастата вершаў. Паэзія А.Лойкі і традыцыі народнай песні.

Сінтэтычная структура паэм А.Лойкі ("Лясная песня", "Лясун" і інш.), іх аналітызм, медытатыўнасць і філасафічнасць.

Жанр балады (кніга "Балады вайны і міру", балада "Каб не плакалі кані", "Балада васількоў" і інш.).

Дзіцячая паэзія А.Лойкі.

Проза А.Лойкі. Раманы-эсэ пра Я.Купалу "Як агонь, як вада" і "Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае". Іх праблематыка, жанрава-стылёвая і кампазіцыйная адметнасць, роля ў беларускай літаратуры. Аўтабіяграфічнае эсэ "Кладзечка тоненька". Аповесць "Кельты не ўміраюць": ідэйна-праблемная аснова, адметнасць паэтыкі.

Перакладчыцкая творчасць А.Лойкі (пераклады П.Верлена, Ё.В.Гётэ, Ф.Шылера і інш.).

Літаратуразнаўчая і крытычная творчасць А.Лойкі. Бібліяграфія асноўных выданняў.

Роля А.Лойкі ў развіцці беларускай літаратуры і літаратуразнаўства, у фарміраванні маладых пакаленняў беларускіх творцаў.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 1966–1985 ГАДОЎ

Асаблівасці фарміравання сацыяльнай структуры беларускага грамадства. Стагнацыйныя тэндэнцыі ў савецкай літаратуры 1966–1985 гадоў. Абвастрэнне праблем пераемнасці ў нацыянальнай культуры, праблем захавання інтэлектуальнай, моўнай спадчыны, прыроднага асяродку.

Стылёвы кансерватызм і сутнасная дынаміка ў беларускай савецкай літаратуры 70-х гадоў. Праблемы культуры творчасці, інтэлектуальны пошук у паэзіі, прозе, драматургіі. Дыскусіі пра бытавізм і духоўнасць, пра перспектыўныя шляхі развіцця літаратуры, пра беларускае пісьменства "на літаратурнай планеце" (А.Адамовіч).

Проза. Плённае развіццё прозы ў канцы 60-х, 70-я і ў пачатку 80-х гадоў.

Феномен "Палескай хронікі" І.Мележа. Праблематыка і паэтыка раманаў "Подых навальніцы" і "Завеі, снежань".

Праблема гістарызму ў беларускай літаратуры 1966–1985 гадоў.

Творчасць У.Караткевіча як своеасаблівая гістарычная школа ў нацыянальнай літаратуры. Зборнікі прозы малых жанраў У.Караткевіча, яго раманы "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Чорны замак Альшанскі".

Беларуская "ваенна-вясковая" школа ў прозе. Яе вытокі, абумоўленасць гісторыяй беларускай культуры. Дынаміка аб'ектыўна-эпічнага і суб'ектыўна-лірычнага пачаткаў.

Кнігі В.Адамчыка ("Чужая Бацькаўшчына", "Год нулявы"), І.Чыгрынава ("Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужынцы"), І.Пташнікава "Тартак", "Найдорф", "Алімпіяда"), В.Казько ("Суд у Слабадзе", "Неруш"), І.Навуменкі ("Вецер у соснах", "Сорак трэці", "Смутак белых начэй", "Летуценнік", зборнік "Замець жаўталісця"), Б.Сачанкі ("Апошнія і першыя", "Ваўчыца з Чортавай Ямы", трылогія "Вялікі лес"), В.Карамазава ("Пушча"), А.Кудраўца ("Раданіца", "Сачыненне на вольную тэму"), А.Жука ("Паляванне на апошняга жураўля"). Беларуская вёска ў трылогіі К.Акулы "Гараватка".

Паступовы адыход прозы 1966–1985 гадоў ад папярэдніх стэрэатыпаў у паказе вайны з фашызмам. Жанрава-стылёвыя пошукі ў прозе А.Адамовіча ("Хатынская аповесць", "Карнікі"), унікальныя дакументальна-мастацкія кнігі ў суаўтарстве з Я.Брылём і У.Калеснікам – "Я з вогненнай вёскі...", з Д.Граніным – "Блакадная кніга". Кнігі С.Алексіевіч "У вайны не жаночы твар", "Апошнія сведкі".

Проза 1966–1985 гадоў В.Быкава. Цыкл "лейтэнанцкіх" аповесцяў. Рэзананс аповесці "Сотнікаў". Беларускі менталітэт у аповесці "Знак бяды". В.Быкаў і традыцыі парабалічнай прозы ("Мур", "Мёртвыя без пакарання" Ж.-П.Сартра, "Міф пра Сізіфа", "Чума" А.Камю, "Шпіль" У.Голдзінга, інш.).

Інтэлектуальнасць прозы Я.Брыля ("Гуртавое", "Золак, убачаны здалёк", "Ніжнія Байдуны", кнігі мініяцюр), М.Стральцова (кніга прозы "Сена на асфальце", эсэ "Загадка Багдановіча", апавяданне "Смаленне вепрука").

Адметнасць стылю І.Шамякіна: вастрыня канфліктаў, сюжэтных інтрыг. Праблематыка твораў І.Шамякіна 1966-1985 гадоў: "Снежныя зімы", "Атланты і карыятыды", "Гандлярка і паэт", "Шлюбная ноч", "Вазьму твой боль". Раман "Петраград–Брэст" як узор беларускай савецкай гісторыка-рэвалюцыйнай прозы, узор т.зв. ленініяны.

Жанрава-стылёвая разнастайнасць прозы 1966–1985 гадоў. Творы А.Асіпенкі ("Непрыкаяны маладзік"), М.Лобана ("Гарадок Устронь", "Шэметы"), Я.Сіпакова ("Жанчына сярод мужчын", "Усе мы з хат"), А.Лойкі ("Як агонь, як вада"), Я.Дылы (гістарычная аповесць "Настасся Мякота"), а таксама Л.Арабей, В.Гігевіча, Г.Далідовіча, Л.Дайнекі, С.Грахоўскага, В.Дайліды, У.Дамашэвіча, А.Жалязоўскага, В.Іпатавай, А.Карпюка, Л.Левановіча, Н.Маеўскай, Арк.Марціновіча, Г.Марчука, А.Масарэнкі, С.Кухарава, А.Капусціна, У.Рубанава, У.Саламахі, А.Шлега, У.Шыціка, В.Хомчанкі, Ф.Янкоўскага, Э.Ялугіна, С.Яновіча, інш.

Паэзія. Багацце творчых індывідуальнасцяў, праблемы росту талентаў у лірыцы 1966—1985 гадоў.

Творы А.Куляшова ("Сасна і бяроза", "Хуткасць", паэмы "Далёка да акіяна", "Варшаўскі шлях", "Хамуціус", цыкл вершаў "Маналог"), П.Броўкі кнігі "Калў ласка, Ты – мая пчолка), П.Панчанкі (кнігі "Пры святле маланак", "Крык сойкі", "Вячэрні цягнік", "Млечны шлях", "Маўклівая малітва", "Лясныя воблакі"), М.Танка (кнігі "Хай будзе святло", "Дарога, закалыханая жытам", "Прайсці праз вернасць", "За маім сталом"), А.Пысіна ("Твае далоні", "Пойма", "Ёсць на свеце мой алень"). Вядучыя мастацкія тэндэнцыі ў гэтых кнігах.

Творчая сталасць Р.Барадуліна ("Неруш", "Адам і Ева", "Лінія перамены дат", "Вяртанне ў першы снег", "Рум", "Абсяг", "Вечалле", "Амплітуда смеласці", інш.), Г.Бураўкіна ("Вершы пяці кніг", "Варта вернасці", "Пяшчота", інш.), А.Вярцінскага ("Тры цішыні", "Чалавечы знак", "Святло зямное", інш.), Н.Гілевіча ("А дзе ж тая крынічанька", "Актавы", раман у вершах "Родныя дзеці", інш.). Адметнасць паэтычных кніг У.Караткевіча ("Мая іліяда", "Быў, ёсць, буду"), М.Стральцова ("Ядлоўцавы куст", "Цень ад вясла"), В.Зуёнка ("Маўчанне травы"), Я.Сіпакова ("Веча славянскіх балад"). Кнігі лірыкі Л.Геніюш ("Невадам з Нёмана", "На чабары настоена").

Паэзія беларускага замежжа 1966—1985 гадоў. Кнігі Н.Арсенневай ("Між берагамі"), Н.Артымовіч ("Роздумы"), Я.Юхнаўца ("Калюмбы"), У.Клішэвіча ("Сняцца сны мне залатыя"), А.Салаўя ("Нятускная краса"), М.Сяднёва ("Патушаныя зоры", "Ачышчэнне агнём"), Я.Чыквіна ("Іду", "Святая студня", "Неспакой"), А.Барскага ("Жнівень слоў", "Блізкасць далёкага", "Мой бераг").

Паэзія 1966-1985 гадоў Л.Геніюш, Р.Баравіковай, С.Басуматравай, Д.Бічэль-Загнетавай, Т.Бондар, В.Вярбы, С.Гаўрусёва, С.Грахоўскага, А.Грачані-кава, С.Дзяргая, М.Дуксы, Н.Загорскай, А.Звонака, К.Камейшы, Г.Кар-жанеўскай, У.Корбан, В.Коўтун, М.Купрэева, І.Ласкова, А.Лойкі, М.Лужаніна, П.Макаля, М.Маляўкі, М.Мятліцкага, Н.Мацяш, А.Наў-роцкага, Г.Пашкова, А.Пысіна, А.Русака, А.Салтука, У.Скарынкіна, М.Федзюковіча, К.Цвіркі, Х.Чэрні, В.Яраца, інш..

Лірычны герой у творчасці С.Законнікава, У.Някляева, Я.Янішчыц, А.Разанава.

“Знічкі” пакалення “сямідзесятнікаў”: С.Блатун, У.Лісыцын, А.Сербантовіч, І.Хадановіч, Р.Семашкевіч, А.Цяжкі, Хв.Чэрня, Я.Янішчыц.

Размаітасць наступнага пакалення паэтаў і празаікаў, творчыя індывідуальнасці 70-х—80-х гадоў: В.Аколава, І.Багдановіч, Л.Галубовіч, Л.Дранько-Майсюк, З.Дудзюк, А.Емяльянаў, К.Жук, А.Жыгуноў,

Л.Забалоцкая, А.Канапелька, А.Каско, У.Мазго, У.Марук, А.Мінкін, А.Наварыч, А.Пісьмянкоў, М.Пракаповіч, Л.Паўлікава-Хейдарава, Л.Тарасюк, В.Шніп, У.Ягоўдзік і інш.

Гумар, сатыра ў літаратуры 1966—1985 гадоў. Аповесць Р.Семашкевіча “Бацька ў калдоўроце”. Паэма “Сказ пра Лысую Гару”.

Поспехі беларускай перакладчыцкай школы ў 1966—1985 гадоў: творчасць у гэтай галіне А.Куляшова, Ю.Гаўрука, Я.Семяжона, В.Сёмухі, Р.Барадуліна, Н.Гілевіча, К.Шэрмана.

Драматургія. Драматычныя творы адзначанага перыяду. Поспех “Брамы неўміручасці”. Апошняя п’еса драматурга “На вастрыі”.

Актуальныя грамадскія праблемы ў п’есах А.Дзялендзіка (“Грэшная любоў”, “Начное дзяжурства”, “Аперацыя мнагажэнец”), А.Петрашкевіча (“Трывога”, “Соль”). Гістарычная тэма ў п’есах А.Петрашкевіча “Напісанае застаецца” і “Русь Кіеўская” (“Гора і слава”). Росквіт таленту А.Макаёнка. Ідэйна-мастацкі змест, сцэнічны лёс яго п’ес. Роля А.Макаёнка ў гісторыі беларускай драматургіі.

Прыход у драматургію А.Дударава. Сцэнічны поспех і рэзананс у культурным жыцці п’есы “Радавыя”.

“Пісьменніцкая” драматургія (І.Шамякін, І.Чыгрынаў, І.Навуменка, В.Адамчык, У.Караткевіч і інш.).

Беларуская літаратура для дзяцей 1966—1985 гадоў: казкі і аповесці У.Дубоўкі, творы А.Васілевіч (тэтралогія “Пачакай, затрымайся”), З.Верас (кніга “Каласкі”), В.Віткі (кніга “Дзеці і мы”), У.Ліпскага, В.Дайліды, М.Парахневіча, Я.Пархуты, І.Сяркова, А.Якімовіча і іншых аўтараў.

Нарысы, публіцыстыка 1966—1985 гадоў. Здабыткі крытыкі і літаратуразнаўства.

Станоўчыя і адмоўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратуры названага перыяду. Крызісныя сітуацыі ў адносінах “пісьменнік—чытач” у сярэдзіне 80-х гадоў, аб’ектыўныя прычыны звужэння сфераў функцыянавання беларускай мовы.

## ПАЭЗІЯ АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА (1920—1981)

Біяграфія паэта і яе адбітак на творчасць. Пачатак літаратурнага шляху. Грамадзянскі пафас і патрыятычныя матывы ў першых паэтычных зборніках “Наш дзень” (1951) і “Сіні ранак” (1959).

Кнігі паэзіі “Сонечная паводка” (1962), “Мае мерыдыяны” (1965), “Твае далоні” (1967), “Да людзей ідучы” (1972), “Ёсць на свеце мой

алень” (1978): зварот да франтавых будняў, праблемы сучаснасці, спавядальная і драматычна-напружаная інтанацыя. Філасофскія роздумы ў паэзіі А.Пысіна, пранікненне ў духоўны свет чалавека.

Праблемная і стылёвая адметнасць ліра-эпічных паэм А.Пысіна “Белы камень”, “Кара”, “Жураўліны бераг”.

Творы А.Пысіна для дзяцей (кнігі “Матылёчкі-матылі”, “Дзяўчынка Марыям”).

Уплыў творчасці А.Пысіна на беларускую паэзію 70—80-х гадоў.

## ТВОРЧАСЦЬ ІВАНА НАВУМЕНКІ (нар. у 1925)

Звесткі аб жыцці і творчасці празаіка. Праблема "народ і вайна" ў трылогіі І.Навуменкі "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах" і "Сорак трэці". Вобраз маладога пакалення ў раманах. Духоўнае станаўленне Міці Птаха і яго сяброў. Паказ умоў, у якіх адбывалася народнае супраціўленне акупанту. Вобразы Драгуна і Шэлега. Праблема бацькоў і дзяцей у інтэрпрэтацыі празаіка. Вобраз Крамера як мастацкае адкрыццё ў творы. Пейзаж у сюжэце рамана і яго роля ў раскрыцці духоўнага свету герояў. Алегарычны вобраз сасны ў трылогіі. Гераічнае і трагічнае ў сюжэце раманаў. Мова аўтара і мова герояў. Аўтабіяграфічнае ў творах.

Маральна-этычная праблематыка і жанрава-стылёвая адметнасць аповесці "Інтэрнат на Нямізе" і аповесцяў 90-х гадоў "Дзяцінства", "Юнацтва", "Падлетак", "Вір" і інш.

Літаратуразнаўчая дзейнасць І.Навуменкі. Бібліяграфія асноўных выданняў.

## ПАЭЗІЯ РЫГОРА БАРАДУЛІНА (нар. у 1935)

Звесткі аб жыцці і творчасці паэта. Лёс пакалення "дзяцей вайны". Яркасць і самабытнасць мастацкага таленту. Узбагачэнне беларускай паэзіі новымі матывамі, вобразамі і моўна-выяўленчымі сродкамі. Нацыянальная вартасць і эстэтычная непаўторнасць лірыкі.

Станаўленне творчай індывідуальнасці паэта. Першы паэтычны зборнік "Маладзік над стэпам" (1959). Адкрыццё паэзіі ў жыцці. Натуральнасць эмацыянальнага выказвання. Асноўныя матывы першых вершаў. Кнігі 60–80-х гадоў: "Рунець, красавацць, налівацца!", "Нагбом", "Неруш", "Адам і Ева", "Рум", "Абсяг", "Вечалле", "Амплітуда смеласці" і інш. Паглыбленне аўтара ў сябе, мастацкае злучэнне

стылёва-паэтычнай гарызанталі з вертыкаллю. Паэтычная мазаіка ўражанняў і назіранняў. Шматтэмнасць і шматфарбнасць лірыкі. Чалавек і прырода ў паэзіі Р.Барадуліна. Народна-фальклорныя вытокі паэтычнага мыслення. Культура вобраза-тропа. Віртуознае валоданне паэтычным сінтаксісам. Адметнасць "барадулінскага метафарызму". Асноўныя стылёвыя дамінанты паэзіі Р.Барадуліна. Уменне заўважаць непаўторнае, шчодрая фантазія, адухаўленне прыроды, першаснасць інтуітыўнага, настраёвага, паэтычная "эфектнасць" і інш. Жанравая шматстайнасць лірыкі і сатыры паэта. Адметнасць барадулінскай рыфмы. Майстэрства гукапісу.

Паэмы Р.Барадуліна ("Трыпціх" ("Бацьку", "Куліна", "Матчына хата"), "Блакада", "Вяртанне ў першы снег", "Балада Брэсцкай крэпасці", "Смаргонская акадэмія" і інш. Вобраз Бацькаўшчыны ў паэмах Р.Барадуліна. Наватарства паэм Р.Барадуліна, іх праблемная, жанравая і моўна-выяўленчая адметнасць.

Паэзія Р.Барадуліна 90-х гадоў. Адраджэнска-нацыянальная праблематыка, экалагічная і палітычная тэматыка. Элігійна-медытатыўныя роздумы (цыкл "Палыновыя санеты").

Ідэйна-мастацкая эвалюцыя паэта і яе выяўленне ў творчасці.

Багацце паэзіі Р.Барадуліна для дзяцей.

Майстэрства Р.Быкава-перакладчыка.

Эсэістыка паэта.

Значэнне творчасці Р.Барадуліна для беларускай паэзіі.

## ПРОЗА ІВАНА ПТАШНІКАВА (нар. у 1932)

Звесткі аб жыцці і творчасці празаіка. Станаўленне творчай індывідуальнасці.

Традыцыйнае і наватарскае ў творчасці празаіка. Праявы "плыні свядомасці" ў апісаннях унутранага свету герояў. Вобраз беларускай прыроды ў апавяданнях празаіка. Чалавек у свеце прыроды. Прыроднае і гістарычнае ў лёсе персанажаў. Трагедыя народа на гістарычным скрыжаванні. Духоўнае хараство простага чалавека і паказ спажывецкіх адносін да навакольнага свету. Вобраз беларускай вёскі і беларускага лесу ў творах І.Пташнікава.

Аповесць "Тартак", яе эмацыянальная аснова (успамін пісьменніка пра перажытае, убачанае ў блакаду). Роздумы і ўспаміны герояў аб мінулым. Адметнасць стылістыкі.

Аповесць "Найдорф". Мастацкі аналіз супярэчлівых сфераў быцця: стварэнне і разбурэнне, мір і вайна. Падрабязнасць апісанняў у

творы. Каларытна-насычаныя пейзажныя малюнкі. Пачуццёвасць пейзажаў І.Пташнікава. Адметнасць кампазіцыі твора.

Раман "Алімпіяда". Малюнкава-аналітычны прынцып мастацкага адлюстравання жыцця, яго шырокі, аб'ёмны і дэталёвы паказ ва ўсёй складанасці сувязяў і ўзаемадзеянняў характараў, фактаў, сітуацый, мінулага і сучаснага. Вобраз жанчыны-працаўніцы Алімпіяды Падаляк. Паэтыка рамана. Асаблівасці мовы.

Апавяданні І.Пташнікава 90-х гадоў ("Францужанкі", "Пагоня" і інш.).

І.Пташнікаў і вопыт нацыянальнай і сусветнай прозы.

## ПАЭІЯ АНАТОЛЯ ВЯЛЮГІНА (1923–1995)

Біяграфія паэта. Асноўныя матывы і вобразна-выяўленчая палітра паэтычных зборнікаў "На зоры займае", "Насцеж", "Адрас любві", "Верасовы ўзятак", "Замова на скрутны вір". Паэзія А.Вялюгіна як шчыры і ўсхваляваны летапіс жыцця, мастацкая споведзь аб перажытым. Паэтычнае майстэрства і культура творчасці А.Вялюгіна.

Напеўнасць, меладычнасць і багаты гукапіс лірыкі (верш "Закасі мае вёсны", "Бярозка" і інш.).

Роля паэта ў станаўленні маладых паэтычных пакаленняў.

## ПРОЗА ІВАНА ЧЫГРЫНАВА (1934 –1996)

Звесткі аб жыцці і творчасці празаіка.

Апавяданні І.Чыгрынава (зборнік "Птушкі ляцяць на волю").

Пенталогія І.Чыгрынава. Раман "Плач перапёлкі". Вобраз народнай вайны ў творы. Мастацкія тыпы "народных мудрацоў" (Вяршкоў, Прыбыткоў). Прыроднае і грамадскае ў чалавеку. Цэласнасць характару Дзяніса Зазыбы, яго драматычны лёс. Прататыпы галоўных герояў пенталогіі. Ідэалагічныя спрэчкі ў рамане, іх роля ў сцвярджэнні гуманістычнай ідэі твора. Спрошчанасць "класавых прынцыпаў" Радзівона Чубара. Сатырычны паказ фашысцкіх прыслужнікаў.

Лёс герояў пенталогіі. Цяжкасці акупацыйнага жыцця ў рамане "Апраўданне крыві". Жудасная філасофія Брава-Жыватоўскага. Маральна-этычная праблематыка ў рамане.

Раман "Свае і чужынцы". Палярызацыя характараў асноўных персанажаў. Няспешнасць разгортвання сюжэтнага дзеяння.

Партызанская барацьба ў інтэрпрэтацыі аўтара. Псіхалагічная змястоўнасць і праўдзівасць вобраза Масея Зазыбы. Павярхоўнасць у аналізе некаторых персанажаў.

Раман "Вяртанне да віны". Ідэйна-мастацкая і грамадзянская эвалюцыя пісьменніка і яго светапогляду ў заключных раманах пенталогіі. Драматычнасць і трагічнасць ваенных падзей у творы. Адметнасць стылістыкі рамана.

Раман "Не ўсе мы згінем" як сімвалічнае падагульненне пенталогіі і ўсёй творчасці пісьменніка. Антыфашысцкая і антысталінская праблематыка ў творы. Вобраз Масея Зазыбы як беларуса-патрыёта і ахвяры таталітарнага часу. Нацыянальны аспект апошняга рамана пенталогіі.

І.Чыгрынаў – драматург (п'есы "Звон – не малітва", "Следчая справа Вашчылы", "Чалавек з мядзвежым тварам").

## ПРОЗА ВЯЧАСЛАВА АДАМЧЫКА (1933 -- 2001)

Звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка.

Празаічная тэтралогія В.Адамчыка ("Чужая Бацькаўшчына", "Год нулявы", "І скажа той, хто народзіцца", "Голас крыві брата твайго"). Нацыянальнае і сацыяльнае, традыцыйнае і наватарскае ў тэтралогіі. Праблема Бацькаўшчыны ва ўмовах Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Сям'я Корсакаў у сістэме вобразаў рамана. Лёс Уласа Корсака. Праблема маральнага выбару і яе вырашэнне ў вобразе Алесі Корсак. Праявы духоўнай дэградацыі грамадства ў рамане. Паказ народнай масы, майстэрства аўтара ва ўзнаўленні "масавых сцэн". Псіхалогія і звычкі вясковай беднаты (Імполь Верамей і Жэнік Рэпка). Духоўны пошук і працэс грамадзянскага станаўлення Міці Корсака. Майстэрства псіхалагічнай абмалёўкі. Дэталёвасць у абмалёўцы вясковага побыту. Трагічнае становішча творчай асобы ў "чужой бацькаўшчыне". Сімвалічны сэнс назвы першай кнігі тэтралогіі. Пейзаж у раманах. Іх жанрава-стылістычная і вобразна-выяўленчая адметнасць. Арганічнасць народнай гутарковай мовы ў творах.

Проза В.Адамчыка і творчасць К.Чорнага, І.Мележа, К.Акулы.

Апавяданні В.Адамчыка 90-х гадоў, ідэйна-праблемная раскаванасць з магчымасцю свабоднага мастацкага выказвання.

Дзённікавыя запісы празаіка.

## ТВОРЧАСЦЬ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА (1937–1987)

Біяграфія пісьменніка. Разнапланавасць творчых зацікаўленасцяў М.Стральцова. Станаўленне творчай індывідуальнасці.

Пачатак творчасці. Зборнікі апавяданняў "Блакітны вецер" і "Сена на асфальце". Багацце стылёвага індывідуалізму ў прозе М.Стральцова. Традыцыі ўзвышаўскай і еўрапейскай прозы ў творчасці пісьменніка. Дамінацыя рамантычнага ў прозе М.Стральцова. Імпрэсіяністычнасць творчай манеры. Роля ўспаміну ў мастакоўскай манеры. Праблематыка і вобразна-выяўленчая адметнасць апавяданняў М.Стральцова ("Сена на асфальце", "Смаленне вепрука").

Паэзія М.Стральцова (кнігі "Ядлоўцавы куст", "Цень ад вясла", "Мой свеце ясны"). Мінорныя і журботныя матывы ў лірыцы М.Стральцова. Пачуццёвасць, акварэльнасць і пластычнасць паэзіі.

Наватарства М.Стральцова ў прозе і паэзіі. Працяг яго традыцый у сучаснай беларускай літаратуры.

Эсэ "Загадка Багдановіча". Праблематыка, стылістычная адметнасць. Месца твора ў беларускім багдановічазнаўстве.

Інтэлектуальная глыбіня і талент М.Стральцова-крытыка. Найбольш значныя працы ў гэтай галіне.

## ПРОЗА ВІКТАРА КАЗЬКО (нар. у 1940)

Біяграфія празаіка.

Аповесць "Суд у Слабадзе". Праблематыка твора. Лёс Колі Лецечкі. Выкрыццё бесчалавечнасці фашызму.

Раман "Неруш". Праблематыка твора, яго жанрава-стылёвая адметнасць. Раскрыццё складанасцяў жыцця чалавека і прыроды. Экалагічная раблематыка ў творы. Вобраз меліяратара Мацвея Роўды, яго ўнутранае ацверазенне. Міфічны вобраз Жалезнага Чалавека як алегорыя бяздумнага і бяздушнага пачатку чалавека.

Раман "Хроніка дзетдомаўскага саду". Тэма гістарычнага лёсу народу і чалавецтва. Знітаванне розных часоў і эпох у творы. Вобраз Саду. Роля казкі-прытчы пра Сноўдалу ў агульнай ідэйна-тэматычнай аснове рамана (як вяртанне да першавытокаў чалавечай духоўнасці). Адметнасць паэтыкі твора.

Творчая актыўнасць празаіка ў 90-я гады. Аповесць "Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел". Міфалагічныя, прытчавыя і апакрыфічныя матывы ў творы. Чарнобыльская трагедыя ў аповесці, ірэальны, парадыйна-парадаксальны іншасвет, яго абсурднасць. Духоўны

Чарнобыль у творы. Сімвалічнасць і метафарычнасць у паказе лёсу беларусаў.

Проза В.Казько і традыцыі нацыянальнай і еўрапейскай літаратуры (К.Чорны, А.Мрый, Ч.Айтматаў і інш.).

## ПРОЗА АНАТОЛЯ КУДРАЎЦА (нар. у 1936)

Творчыя набыткі пісьменніка ў розных празаічных жанрах (апавяданне, эсэ, нарыс, літаратурны партрэт, аповесць, раман).

Аповесць "Раданіца". Праблема памяці, матывы маральных і духоўных вытокаў чалавека. Майстэрства ў перадачы ўнутранага стану героя (Івана Купцова), цякучасць яго думак-пачуццяў.

Раман "Сачыненне на вольную тэму". Змястоўнасць паказу жыцця беларускай вёскі. Каларытны вобраз селяніна-беларуса, шчырага працаўніка і абаронцы роднай зямлі. Псіхалагізм твора, уменне аўтара праз побыт, непаспешлівае разгортванне падзей паказаць унутраны драматызм чалавечых характараў. Жанрава-стылёвая адметнасць рамана, каларытнасць мовы.

Маральна-этычная праблематыка ў аповесцях "Двое за нізкім столікам" і "Пахахуцікі". Адметнасць стылістыкі і вобразна-выяўленчых сродкаў.

Апавяданні А.Кудраўца 90-х гадоў ("Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі", "Познія яблыкі", "Баёк", "Бацька" і інш. Навізна праблематыкі і моўна-стылістычнае майстэрства.

## ПРОЗА ВІКТАРА КАРАМАЗАВА (нар. у 1934)

Раман "Пушча". Праблема ўзаемаадносінаў чалавека і прыроды. Вобраз беларускага лесу ў творы. Псіхалагічная напоўненасць галоўнага героя рамана Міхаіла Валошкі. Жанрава-стылёвая адметнасць твора. Яго месца ў беларускай прозе экалагічнай тэматыкі.

Мастацка-біяграфічная аповесць "Крыж на зямлі і поўня ў небе". Вобраз вядомага жывапісца Вітольда Бялыніцкага-Бірулі ў творы. Таямніцы душы мастака, праблема творчасці ў аповесці.

Раман "Бежанцы". Аўтабіяграфічная аснова твора. Маштабнасць раскрыцця трагедыі бежанства беларускага народа ў XX стагоддзі. Лёс сям'і Падабедаў. Жанрава-стылістычныя асаблівасці рамана, адметнасць мовы празаіка.

## ПАЭЗІЯ ВАСІЛЯ ЗУЁНКА (нар. у 1935)

Біяграфія пісьменніка. Бібліяграфія асноўных паэтычных выданняў.

Гуманістычная сутнасць лірыкі, касмізм мыслення паэта. Апеляцыя да народнага вопыту і сялянскай мудрасці. Поліфанічнасць, багацце на эмацыянальныя перажыванні і філасофскую значнасць лірыкі. Асноўныя матывы вершаў. Адметнасць вобразна-выяўленчых сродкаў. Лірыка-публіцыстычны маналог у творчасці паэта. Духоўны пошук лірычнага героя вершаў В.Зуёнка. Аналіз вершаў з паэтычных зборнікаў "Лета трывожных дажджоў", "Чорная лесвіца" і інш. Матывы смутку, тугі і расчараванняў у лірыцы апошніх гадоў. Нацыянальная адметнасць паэзіі. Гумар і сатыра ў вершах В.Зуёнка.

Паэтычны эпас В.Зуёнка. Паэмы "Сяліба", "Маўчанне травы", "Падарожжа вакол двара". Мастацкае даследаванне быцця беларускай вёскі, гістарычнага лёсу сялянства. Асэнсаванне народнага духу і маралі. Вобразна-выяўленчая адметнасць паэм.

## ПАЭЗІЯ АНАТОЛЯ ВЯРЦІНСКАГА (нар. у 1931)

Гуманістычны пафас, грамадзянскасць лірыкі А.Вярцінскага. Шматграннасць таленту, актыўны жыццёва-пазнавальны і духоўны пошук паэта. Адметнасць і арыгінальнасць паэтычных зборнікаў "Песня пра хлеб", "Тры цішыні", "Чалавечы знак", "З'яўленне", "Ветрана". Асноўныя матывы лірыкі. Ідэалы чалавечнасці, маральнасці і духоўнасці ў лірыцы паэта. Своеасаблівасць паэтычнай манеры. Месца рэфлексіі ў вобразнай сістэме паэта. Палемічнасць аўтарскай пазіцыі да ўстойлівых паняццяў і крытычнае ўспрыняцце рэчаіснасці. Філасафічнасць і публіцыстычнасць у лірыцы А.Вярцінскага. Іронія і сарказм у паэтычнай мове. Адметнасць верлібра А.Вярцінскага.

Паэма "Колькі лет, колькі зім", праблематыка, жанравае наватарства.

## ПАЭЗІЯ ПЕТРУСЯ МАКАЛЯ (1932–1994)

Станаўленне творчай асобы. Асноўныя матывы, адметнасць зборнікаў вершаў П.Макаля "Першы след", "Вятрам насустрач", "Вечны агонь", "Акно", "Дотык да зямлі". Надзённасць паэзіі П.Макаля, яе грамадзянская непрымірымасць да жыццёвых анамалій. Філасофскія роздумы ў лірыцы паэта. Складанасць асацыятыўна-метафарычнага мыслення паэта. Багацце метафары П.Макаля. Іронія і сарказм у яго вершах.

Творы П.Макаля для дзяцей.

## ПАЭЗІЯ ЮРАСЯ СВІРКІ (нар. у 1933)

Паэтычны дэбют Ю.Свіркі. Першы зборнік вершаў "Шэпчуцца ліўні". Адметнасць зборнікаў паэзіі "Вечнасць", "Крэўнасць", "Люблю і веру", "Паўшар'е блакіту" і інш. Галоўныя матывы лірыкі Ю.Свіркі. Пейзажная лірыка паэта. Ваенная тэматыка ў паэтычных зборніках. Шчырасць лірычных падрахаванняў паэта. Кранальнасць інтымнай лірыкі Ю.Свіркі другой паловы 90-х гадоў. Адметнасць вобразна-выяўленчых сродкаў. Жанравае багацце паэзіі і трываласць яе народна-песенных вытокаў і нацыянальных традыцый.

## ПАЭЗІЯ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА (нар. у 1936)

Духоўны рост і творчае сталенне паэта. Месца зборнікаў Г.Бураўкіна "Майская просінь", "Жніво", "Выток", "Пяшчота", "Узмах крыла" ў беларускай паэзіі 60–90-х гадоў. Паэзія Г.Бураўкіна як своеасаблівы мастацкі летапіс жыцця пакалення.

Грамадзянскасць паэзіі, выразнасць сацыяльна-грамадскіх і маральных ідэалаў. Рацыянальнасць і лірыка-публіцыстычны змест паэзіі. Кранальнасць інтымнай лірыкі. Гістарычная тэматыка ў вершах Г.Бураўкіна ("Полацкая балада" і інш.). Роздумна-спавядальныя матывы паэзіі, патрыятычная, антываенная і пейзажная лірыка. Вершы чарнобыльскай тэматыкі (нізка вершаў "Брагінская вясна").

Паэмы Г.Бураўкіна, іх жанрава-стылёвая і вобразна-выяўленчая адметнасць. Дынамізм і напружанасць сюжэту, частыя параўнанні, лаканічнасць. Аналіз паэмы "Хатынскі снег".

Постаць Г.Бураўкіна як паэта-песенніка.

Вершы для дзяцей.
Перакладчыцкая дзейнасць паэта.

## ТВОРЧАСЦЬ ЯНКІ СІПАКОВА (нар. у 1936)

Інтэлектуальная насычанасць паэзіі Я.Сіпакова, арыгінальнасць у мастацкім бачанні свету, эмацыянальны размах пачуццяў у зборніках "Лірычны вырай", "Дзень", "Вочы ў вочы", "Усміхніся мне" і інш. Я.Сіпакоў як паэт яркага лірыка-рамантычнага светаўспрымання. Узвышанасць лірыкі кахання. Замілаванне красой роднай прыроды ў пейзажнай лірыцы. Вобразна-выяўленчая аснова лірыкі Я.Сіпакова.

Гістарычныя балады кнігі "Веча славянскіх балад". Пашырэнне тэматычных і жанравых межаў балады (балада-прамова, балада-легенда, балада-жарт і інш.).

Паэма ў прозе Я.Сіпакова (кніга "Ахвярны двор"). Чарнобыльская трагедыя ў паэме "Одзіум". Сімвалічная насычанасць твора.

Праблематыка і жанрава-стылёвая адметнасць прозы Я.Сіпакова. Кнігі прозы "Крыло цішыні", "Жанчына сярод мужчын", "Тыя, што ідуць" і інш.

## ПРОЗА АЛЕСЯ ЖУКА (нар. у 1947)

Праблема маральнай адказнасці перад старэйшым пакаленнем, перад беларускай вёскай у аповесці "Халодная птушка".

Аповесць "Паляванне на Апошняга Жураўля". Повязь чалавека з жыццём і прыродай у творы. Псіхалагізм пісьма ў творы. Вобраз Сцяпана Дзямідчыка як увасабленне сумлення роднай зямлі, яе будучыні. Матыў повязі чалавека з мінулым. Легендарна-казачныя апавядальныя элементы-сімвалы ў творы. Казка-прытча пра Апошняга Жураўля і яе ідэйна-мастацкая роля ў творы. Паэтыка аповесці.

Вайсковыя будні ў аповесці "Зоркі над палігонам". Ідэйна-праблемная аснова твора.

Даследаванне жыццёвай дыялектыкі характараў і таямніцаў чалавечых настрояў у аповесці "Праклятая любоў". Праўдзівасць у асвятленні вяскова-калгаснай рэчаіснасці. Драматычная сутнасць даваеннага часу. Вобраз Галіны Русакевіч. Лёс Яна Куляша. Пісьменніцкае даследаванне псіхалогіі селяніна, беларускага народнага характару. Жанрава-стылёвая палітра аповесці.

## ТВОРЧАСЦЬ ЛЕАНІДА ДАЙНЕКІ (нар. у 1940)

Дэбют пісьменніка ў паэзіі. Кніга выбранага "Сняжынкі над агнём" як своеасаблівае лірычнае падрахаванне. Багацце матываў, прачуласць і вобразная адметнасць вершаў.

Проза пісьменніка. Л.Дайнека – вядомы аўтар гістарычных раманаў. Раман "Меч князя Вячкі". Нацыянальная праблематыка твора. Займальнасць сюжэту, багацце гістарычнай фактуры рамана. Гістарычнае ў творы. Традыцыя прозы У.Караткевіча ў творчасці Л.Дайнекі.

Мастацкі жыццяпіс Усяслава Чарадзея ў рамане "След ваўкалака". Прыгодніцкія калізіі ў творы. Жанрава-стылёвая адметнасць. Багацце моўных пластоў у творы (архаізмы, аўтарскія наватворы і інш.).

Раман "Жалезныя жалуды" як мастацкая панарама гістарычных па-дзей. Прыгодніцкая фабула твора. Вобраз дуба як старадаўняга сімвала беларушчыны. Паэтыка рамана.

## ПАЭЗІЯ АНАТОЛЯ ГРАЧАНІКАВА (1938–1991)

Адметнасць лірычнага голасу А.Грачанікава. Вершы і паэмы зборнікаў "Магістраль", "Круглая плошча", "Грыбная пара", "Дрэва на выспе", "Я вас люблю" і інш. Духоўная паўната адчування свету ў лірыцы паэта. Багацце настрояў, гучнасць паэтычных інтанацый, ускладненасць думкі-вобраза. Багацце пейзажнай і інтымнай лірыкі ("Актавы кахання", "Сентыментальны раманс") паэта. Палессе як адзін з галоўных вобразаў паэзіі А.Грачанікава. Кранальнасць вершаў чарнобыльскай тэматыкі. Запамінальнасць лірычнага героя А.Грачанікава.

## ТВОРЧАСЦЬ ВОЛЬГІ ІПАТАВАЙ (нар. у 1945)

Адметнасць лірыкі В.Іпатавай. Матывы і вобразы зборнікаў паэзіі "Раніца", "Ліпеньскія навальніцы", "Парасткі".

Жанрава-стылёвая спецыфіка прозы В.Іпатавай. Праблематыка і стылёвая своеасаблівасць аповесцяў "Дваццаць хвілін з Немезідай", "За морам Хвалынскім", "Чорная княгіня". Жанрава-стылёвая і праблемная характарыстыка рамана "Залатая жрыца Ашвінаў".

Роля твораў В.Іпатавай у развіцці беларускай гістарычнай прозы.

## ПАЭЗІЯ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ (1948–1988)

Станаўленне творчай асобы паэтэсы. Адметнасць яе паэтычных зборнікаў "Снежныя грамніцы", "Дзень вечаровы", "Ясельда", "На беразе пляча", "Пара любові і жалю", "Каліна зімы" для беларускай паэзіі 70–пачатку 80-х гадоў. Шчодрасць і непаўторнасць лірычнага таленту Я.Янішчыц. Перавага асабіста-інтымнага ў лірыцы паэтэсы. Асноўныя матывы творчасці. Кранальнасць, шчырасць і пранікнёнасць інтымнай лірыкі. Вобразы Палесся і беларускай вёскі ў паэзіі Я.Янішчыц. Багаты духоўны свет лірычнай гераіні ў вершах паэтэсы. Афарыстычнасць некаторых радкоў. Выяўленне складанасцяў душэўнага свету жанчыны, натуральнасць і багацце эмацыянальных фарбаў у яе паэзіі. Меладычнасць і напеўнасць лірыкі, яе вобразна-выяўленчая адметнасць.

## ПРОЗА ГЕНРЫХА ДАЛІДОВІЧА (нар. у 1946)

Пачатак творчага шляху пісьменніка. Зборнікі прозы "Дажджы над вёскай", "Цяпло на першацвет", "Маладыя гады".

Цыкл аповесцяў пра вясковых настаўнікаў "Усё яшчэ наперадзе", "Міланькі", "Завуч", "Дырэктар". Аўтабіяграфічная аснова твораў. Сувязь з традыцыяй Я.Коласа (трылогія "На ростанях"). Станаўленне і самасцвярджэнне героя ў жыцці, асэнсаванне сацыяльных і духоўных праблем у названых творах. Псіхалагічная пераканальнасць вобраза Паўла Васільца.

Мастацка-гістарычная трылогія "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя", "Свой дом". Праблемы станаўлення беларускай дзяржаўнасці ў 10-х гадах у творах. Дакументальная аснова раманаў, іх жанрава-стылёвыя адметнасці. Увасабленне народнага характару ў вобразе Яся Нямкевіча. Роля інтэлігенцыі ў пошуках праўды і справядлівасці паводле трактоўкі празаіка. Рэальныя гістарычныя асобы ў раманах (З.Жылуновіч, А.Чарвякоў, Я.Дыла, а таксама А.Мяснікоў, В.Кнорын, К.Ландэр і інш.).

Адлюстраванне заходнебеларускай рэчаіснасці першых пасляваенных гадоў у рамане "Заходнікі". Мужная грамадзянская пазіцыя аўтара ў выкрыцці злачынстваў партыйных актывістаў і камуністаў-прайдзісветаў (вобраз Кураглядава). Занепакоены роздум

аўтара над праблемамі гісторыі і сучаснасці. Кампазіцыя "Заходнікаў". Месца рамана ў беларускай прозе першай паловы 90-х гадоў.

Кніга "Жар кахання", яе адметнасць у беларускай прозе 90-х гадоў.

Гістарычны раман "Кліч роднага звона". Гістарычны пафас рамана. Мастацкая інтэрпрэтацыя навуковай канцэпцыі М.Ермаловіча пра месцазнаходжанне летапіснай Літвы. Раман "Кліч роднага звона" як твор эклектычны, дзе мастацкае і дакументальнае зманціраваны ў адно. Твор Г.Далідовіча і проза школы рускага гісторыка-ілюстрацыйнага, рэалістычнага па канцэпцыі рамана В.Іванова, А.Югава і інш. Параўнальная характарыстыка рамана Г.Далідовіча і рамана У.Случан-скага "Драбы". Вобразна-выяўленчыя сродкі "Кліча роднага звона", яго кампазіцыя і моўная адметнасць.

## ТВОРЧАСЦЬ АЛЕСЯ РАЗАНАВА (нар. у 1947)

Станаўленне творчай індывідуальнасці паэта. Шырокая вядомасць зборнікаў паэзіі А.Разанава "Адраджэнне", "Каардынаты быцця", "Шлях–360", "Вастрыё стралы", "У горадзе валадарыць Рагвалод", "Паляванне ў райскай даліне", "Рэчаіснасць". Інтэлектуальная насычанасць паэзіі. Паэзія як самапазнанне, пошук ісціны, сутнасці рэчаў і з'яў. Зашыфраванасць вобразнай сістэмы А.Разанава, метафарычнасць мыслення. Адметнасць філасофскай лірыкі паэта.

Узбагачэнне беларускай паэзіі новымі жанравымі формамі (версэты, квантэмы, вершаказы, пункціры і інш.). Разанаўскі верлібр у кантэксце авангарднай еўрапейскай паэзіі.

Слова як асноўная крыніца пазнання Свету. А.Разанаў і творчасць В.Ластоўскага. А.Разанаў і традыцыі еўрапейскай літаратуры.

Адметнасць разанаўскай паэмы розных гадоў ("Паэма маленства", "Паэма калодзежа"; "Гліна", "Камень", "Жалеза").

Перакладчыцкая творчасць А.Разанава (наследаванні-перастворы старабеларускай паэзіі, нямецкай і інш.).

## ПАЭЗІЯ УЛАДЗІМІРА НЯКЛЯЕВА (нар. у 1946)

Адметнасць паэтычнага таленту У.Някляева. Арыгінальнасць паэтычнага мыслення ў зборніку "Адкрыццё". Спалучэнне традыцый нацыянальнай паэзіі (М.Багдановіча, Я.Купалы) і "маскоўскай" паэтычнай школы 60-х гадоў. Вострае адчуванне сучаснасці,

выразная грамадзянская пазіцыя, спалучэнне публіцыстычнай пафаснасці з лірычнасцю светаўспрыняцця ў зборніках "Вынаходцы вятроў", "Знак аховы", "Наскрозь". Узнёсласць лірыкі паэта, мастацкая культура верша. Творчасць У.Някляева і "стадыённая" паэзія. Тэма смерці і неўміручасці ў лірыцы паэта (верш "Не, не таю надзей на бессмяротнасць"). Эстэтычная заглыбленасць і адкрытасць інтымнай лірыкі. Праблема прызначэння паэта і паэзіі (верш "Мост Шандара Пёцефі").

Паэмы У.Някляева. Схільнасць паэта да "паўнафарматных" эпічных асэнсаванняў. Цыкл балад зборніка "Вынаходцы вятроў" ("Балада дзеяння", "Тэатральная балада", "Балада пакінутага сэрца" і інш.). Адметнасць іх паэтыкі. Назыўныя сказы, дыялогі і ўнутраныя маналогі, лексічныя паўторы.

Традыцыйнае і наватарскае ў паэме "Прошча". Праблема мастацтва і прадвызначанасці лёсу мастака ў творы.

Творчасць У.Някляева-песенніка.

## ПАЭЗІЯ ЮРКІ ГОЛУБА (нар. у 1947)

Звесткі аб жыцці і творчасці паэта.

"Шчыльнасць" вобразнасці як мастакоўскае крэда Ю.Голуба. Адметнасць паэтычных зборнікаў "Гром на зялёнае голле", "Векапомнае поле", "Помню пра цябе", "Сын небасхілу". Узвышанасць лірычнага мыслення паэта. Багацце метафар, эпітэтаў, параўнанняў у яго лірыцы. Вострае адчуванне драматызму сучаснасці, мастацкі лаканізм, натуральнасць рытміка-інтанацыйных прамаўленняў.

## ПАЭЗІЯ СЯРГЕЯ ЗАКОННІКАВА (нар. у 1946)

Станаўленне творчай асобы С.Законнікава. Традыцыйнасць асноўных матываў лірыкі (зборнікі "Бяседа", "Пакуль жыве мая бяроза", "Вера, Надзея, Любоў", "Сутнасць", "Заклінанне"). Эмацыянальная выверанасць паэтычнага слова, душэўная адкрытасць паэтычнага маўлення. Нацыянальна-патрыятычны пафас апошніх паэтычных зборнікаў. Праблемы гістарычнай памяці і экалогіі ў іх.

Паэма пра чарнобыльскую катастрофу "Чорная быль", яе шырокі грамадскі рэзананс. Праблемы духоўнасці і метнальнасці ў творы. Вобразна-выяўленчыя сродкі выказвання. Адметнасць кампазіцыі паэмы.

## ДРАМАТУРГІЯ МІКОЛЫ МАТУКОЎСКАГА (1929 -- 2001)

Грамадскі рэзананс творчасці М.Матукоўскага на сучаснай драматургічнай сцэне.

Фантастычнасць сюжэтнага дзеяння ў п'есе "Мудрамер" (1987). Вобраз вынаходніка-рацыяналізатара Мікалая Рамашкі. Сатырычнае майстэрства драматурга і традыцыя К.Крапівы.

Маральная праблематыка і публіцыстычнасць п'есы "Бездань" (1992). Чарнобыльская тэма ў творы. Майстэрства драматурга ў перадачы псіхалагічнага стану герояў.

## ДРАМАТУРГІЯ АЛЯКСЕЯ ДУДАРАВА (нар. у 1950)

Звесткі аб жыцці і творчасці драматурга. Мастацкія асаблівасці творчай манеры А.Дударава.

П'еса "Радавыя". Вобраз "карэннага чалавека" ў п'есах. Тып "чалавека без глебы", дзівака, блазна, маргінала. Паказ вайны вачыма прадстаўніка пасляваеннага пакалення. Трагедыя чалавека-пераможцы Дзерваеда, Адуванчыка, Дугіна. Шматаспектнасць успрымання свету героямі п'есы. Вобразы праўдашукальнікаў у А.Дударава. Майстэрства драматургічнай інтрыгі і дыялога.

Драматургія А.Дударава канца 90-х гадоў. Гістарычная п'еса "Купала". Старажытнасць у творы. Гістарычныя персанажы (Вітаўт, Ягайла, Кейстут). Беларускай міфалогія ў п'есе. Маральна-гуманістычныя матывы ў творы. Драматургічнае наватарства А.Дударава (верлібр у п'есе). П'еса "Чорная панна Нясвіжа". Праблематыка, жанрава-стылёвая адметнасць.

## ТВОРЧАСЦЬ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ПОЛЬШЧЫ

Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Польшчы. Гісторыя стварэння і дзейнасць літаратурнага згуртавання "Белавежа". Бібліяграфія выданняў (альманахі, часопісы і арыгінальныя кнігі).

Творчасць АЛЕСЯ БАРСКАГА (нар. у 1930). Бібліяграфія паэтычных выданняў. Асноўныя матывы і мастацка-выяўленчая адметнасць кніг "Жнівень слоў", "Мой бераг", "Лірычны пульс". Песенная і

медытатыўная лірыка пісьменніка. Шчырасць і багацце духоўнага свету ў інтымнай лірыцы А.Барскага.

Публіцыстычныя нататкі А.Барскага.

Пераклады і літаратуразнаўчая дзейнасць пісьменніка.

Творчасць ЯНА ЧЫКВІНА (нар. у 1940). Станаўленне творчай індывідуальнасці. Асноўныя матывы, традыцыі і наватарства ў паэтычным самавыяўленні (зборнікі вершаў "Іду", "Святая студня", "Неспакой", "Светлы міг", "Кругавая чара", "Свет першы і апошні"). Філасафічнасць, багатая сімволіка, ускладнёна-метафарычная вязь паэзіі, яе эмацыйна-пачуццёвая насычанасць.

Празаічныя мініяцюры Я.Чыквіна.

Пераклады пісьменніка з польскай паэзіі (аўтарская анталогія "Лісце срэбнай таполі").

Літаратуразнаўчая дзейнасць Я.Чыквіна (кніга "Далёкія і блізкія").

ПРОЗА САКРАТА ЯНОВІЧА (нар. у 1936).

Асноўныя праблемы прозы, адметнасць паэтыкі. Аповесць, апавяданні, мініяцюры кнігі "Сярэбраны яздок" (1978). Наватарства прозы С.Яновіча, яе месца ў беларускай літаратуры.

Творчасць НАДЗЕІ АРТЫМОВІЧ (нар. у 1946). Постмадэрнісцкія тэндэнцыі ў яе паэзіі. Арыгінальнасць кнігі "Сезон у белых пейзажах". Адметнасць верлібру паэтэсы.

Мемуарна-аўтабіяграфічная проза ЯНКІ ЖАМОЙЦІНА (нар. у 1922) (аповесць "З перажытага"). Проза і паэзія ГЕОРГІЯ ВАЛКАВЫЦКАГА (нар. у 1923). Біяграфічная аповесць і фельетоны ВАСІЛЯ ПЕТРУЧУКА (нар. у 1926). Апавяданні АЛЕНЫ АНІШЭЎСКАЙ (нар. у 1927) і МІКОЛЫ ГАЙДУКА (1933–1998). Проза Міхася ШАХОВІЧА. Апавяданні Міхася АНДРАСЮКА. Матывы і вобразна-выяўленчая аснова паэзіі ВІКТАРА ШВЕДА (нар. у 1925), ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧА (нар. у 1926), ЯШЫ БУРША (нар. у 1929), УЛАДЗІМІРА ГАЙДУКА (нар. у 1941), ЮРКІ ГЕНІЮША (1935–1985), МІРЫ ЛУКШЫ (нар. у 1958), ЗОСІ САЧКО (нар. у 1955).

Беларускамоўная творчасць студэнтаў і ліцэістаў Польшчы.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 1986 – 1991 ГАДОЎ

Агульнакультурныя змены ў жыцці грамадства 1986—1991 гадоў. Палітыка галоснасці ў СССР. Чарнобыльская катастрофа.

Абвяшчэнне дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Заканчэнне савецкага (1917—1991) перыяду ў гісторыі беларускай культуры.

Рэарганізацыя форм літаратурнага жыцця. З'яўленне серыі “Бібліятэка часопіса «Маладосць»”. Літаратурная суполка “Тутэйшыя”, выданні “Літаратура”, “Ксэракс беларускі”, інш.

Актуалізацыя раней забароненых твораў, а таксама спадчыны пісьменнікаў, рэабілітаваных у 60—80-я гады (малавядомыя або невядомыя раней творы Я.Купалы, М.Гарэцкага, А.Гаруна, В.Ластоўскага, І.Канчэўскага, У.Дубоўкі, Л.Калюгі, А.Мрыя, Л.Геніюш і інш.). Узрастанне ролі дакументальнай, мемуарнай, публіцыстычнай літаратуры. Тэма асуджэння сталінізму, пераасэнсаванне савецкай гісторыі, матывы пакаяння ў мастацкай творчасці (“Паэма сораму і гневу” П.Панчанкі і інш.). Ажыўленне беларускай крытыкі і літаратуразнаўства.

Усплёск цікавасці да плёну пісьменнікаў дыяспары паваеннай хвалі эміграцыі (Н.Арсенневай, М.Сяднёва, Я.Юхнаўца і інш.).

Інтэнсіфікацыя ідэйных і мастацкіх пошукаў у мастацкай літаратуры. Шырыня жанрава-стылёвага дыяпазону ў прозе, паэзіі, драматургіі.

Проза. Эвалюцыя беларускай “ваенна-вясковай” празаічнай школы. Мадэрнізацыя эпічных форм пісьменнікамі гэтага кірунку. Рухомасць жанраў, дынаміка ідэй. Мастацкае пераасэнсаванне гіствpычных шляхоў беларускай нацыі.

З’яўленне этапных твораў В.Адамчыка, А.Асіпенкі, В.Быкава, В.Казько, В.Карамазава, Г.Далідовіча, М.Сяднёва.

Лірыка-філасофскі пачатак, інтэлектуальны пошук у прозе 1986—1991 гадоў Я.Брыля, А.Адамовіча, В.Гігевіча (зборнік прозы “Мелодыі забытых песень”, “Карабель”, “Марсіянскае падарожжа”), А.Жука, В.Карамазава, Б.Сачанкі, І.Пташнікава, І.Навуменкі, Я.Сіпакова.

Мемуарная проза Л.Геніюш (кніга “Споведзь”), С.Грахоўскага (аповесці з кніг “Так і было”, “Споведзь”), інш. Дакументальна-мастацкая кніга С.Алексіевіч “Цынкавыя хлопчыкі”.

Мастацкія творы пра славутых дзеячоў беларускай культуры: А.Лойкі, В.Хомчанкі (аповесць пра Ф.Багушэвіча “Пры апазнанні – затрымаць”), В.Коўтун (раман пра Цётку (А.Пашкевіч) “Крыж міласэрнасці”), В.Карамазава (аповесць-эсэ пра В.Бялыніцкага-Бірулю “Крыж на зямлі і поўня ў небе”), Э.Ялугіна (дакументальная аповесць пра Ц.Гартнага “Без эпітафіі”, інш.

Гістарычныя асобы і падзеі розных эпох на Беларусі ў мастацкай прозе У.Арлова (зборнікі “Добры дзень, мая шыпшына”, “Дзень, калі ўпала страла”), Л.Дайнекі, В.Іпатавай.

Мастакоўскі пошук у прозе 1986—1991 гадоў. Ваенная тэма ў кнігах І.Шамякіна, П.Місько (раан “Хлопцы, чые вы будзеце”), У.Дамашэвіча (аповесць “Кожны чацвёрты”, пісалася ў 70-я гады). Асуджэнне сталіншчыны ў творах М.Аўрамчыка (аповесць “У падзямеллі”, раман “Палон”), Арк.Марціновіча (раман “Цень крумкачовага крыла”). Маральна-этычная праблематыка ў прозе У.Дамашэвіча (раман “Камень з гары”), В.Гардзея (аповесць “Жалезная дзева), Г.Марчука (кніга “Кветкі правінцыі”). Актуальныя грамадскія праблемы ў кнігах В.Хомчанкі, А.Кудраўца, І.Новікава, Л.Гаўрылкіна, Л.Левановіча, У.Рубанава, А.Кажадуба, В.Супрунчука, М.Кусянкова, М.Гіля, Т.Бондар, М.Кацюшэнкі, А.Жалязоўскага, Х.Лялько, І.Жарнасек, М.Вайцяшонак. Проза С.Яновіча, В.Петручука, М.Гайдука (Польшча).

Рускамоўная літаратура Беларусі. Паэзія В.Грышкаўца, А.Дракахруста, Н.Кісліка, І.Шклярэўскага, М.Шэлехава, С.Яўсеевай, Ф.Яфімава. Проза М.Чаргінца (дакументальныя аповесці “Чацвёрты след”, “Следства працягваецца”, дэтэктыўныя аповесці “Фінал Краба”, “Служба – дні і ночы”, раманы “За секунду да выстрала”, “Тайна Чорных Гор”, “Ілоты вар’яцтва”).

Прыход у беларускую літаратуру новага пакалення празаікаў. Першыя-другія кніжкі А.Асташонка, Г.Багданавай, А.Глобуса, А.Казлова, В.Мудрова, А.Наварыча, Л.Неўдаха, У.Сцяпана, А.Федарэнкі.

Проза 1986—1991 гадоў С.Дубаўца, П.Васючэнкі, Ю.Станкевіча, Б.Пятровіча, М.Клімковіча, М.Шайбака, В.Чаропкі, С.Дзедзіча, У.Сіўчыкава, С.Астраўцова, А.Ветаха, У.Калкоўскага, інш. Афганская тэма ў апавяданнях А.Крываноса, І.Сяргейчыка, С.Дубовіка, інш.

Спецыфіка выяўлення нацыянальных традыцый у прозе маладых у 1986—1991 гадах.

Паэзія. Прыярытэтныя тэмы беларускай лірыкі 1986—1991 гадоў. Жанрава-стылёвыя арыентацыі буйнейшых талентаў, прадстаўнікоў розных пакаленняў.

Грамадзянскі пафас, трыбуннасць, публіцыстычнасць у паэзіі названага перыяду П.Панчанкі (кнігі “І вера, і вернасць, і вечнасць”, “Горкі жолуд”, “Неспакой”), Н.Гілевіча (“Жыта, сосны і валуны”, “Повязь”, “Незалежнасць”), С.Грахоўскага (“Верую”, “І радасць, і боль”).

Актуалізацыя “лірыкі з-за калючага дроту” Л.Геніюш, А.Звонака, С.Грахоўскага, П.Пруднікава, В.Супруна, С.Новіка-Пеюна і інш. Кнігі лірыкі Л.Геніюш (“Белы сон”, выбранае) і Я.Пфляўмбаўм (“Сувой жыцця”).

Асэнсаванне гісторыі і сучаснасці ў кнігах М.Танка (“Збор калосся”), М.Аўрамчыка (“Анкета”), М.Дуксы (“Занежаныя ягады”), С.Законнікава (“Прысак часу”, “Сутнасць”, “Вечная далеч”), В.Зуёнка (“Лета трывож-ных дажджоў”), А.Лойкі (“Талая вясна”), У.Някляева (“Галубіная пошта”), М.Мятліцкага (“Горкі вырай”).

Філасафічнасць мыслення, віртуознасць паэтыкі ў кнігах Р.Барадуліна (“Маўчанне перуна”, “Самота паломніцтва”), А.Разанава (“Вастрыё стралы”). Кнігі выбранай паэзіі А.Наўроцкага (“Пакаленні і папялішчы”), М.Стральцова (“Мой свеце ясны”), Я.Юхнаўца (“Творы”, Нью-Ёрк). Лірыка Г,Бураўкіна (“Гняздо для птушкі радасці”), Р.Баравіковай (“Каханне”).

Паэзія 1986—1991 гадоў Д.Бічэль-Загнетавай, Т.Бондар, Ю.Голуба, А.Грачанікава, Н.Загорскай, Г.Каржанеўскай, А.Каско, Г.Пашкова, В.Коўтун, А.Салтука, Н.Тулупавай, С.Шах і інш.

Лірыка беларускага замежжа: А.Барскага, М.Гайдука, М.Кавыля, Я.Чыквіна, М.Шаховіча, В.Шведа, інш.

Новыя паэтычныя кнігі Л.Галубовіча (“Споведзь бяссоннай душы”), Л.Дранько-Майсюка (“Над пляцам”, “Тут”), І.Багдановіч (“Фрэскі”), А.Мінкіна (“Расколіна”), А.Пісьмянкова (“Чытаю зоры”).

Ідэйная праграма, эстэтычныя арыентацыі маладога паэтычнага пакалення мяжы 80—90-х гадоў: А.Сыс (“Агмень”, “Пан Лес”), А.Глобус (“Парк”), С.Сокалаў-Воюш (“Кроў на сумётах”), Т.Булыка (“Сінтэз”), Зьніч (А.Бембель) (“Рэха малітвы”, выд. у Нью-Ёрку, “Саната ростані”, выд. у Беластоку), Л.Рублеўская (“Крокі па старых лесвіцах”), С.Адамовіч (“Кальварыйскія клёны”), Т.Сапач (“Восень”), В.Шніп, Э.Акулін, М.Скобла, А.Бадак, Г.Дубянецкая, В.Куртаніч, А.Аркуш, А.Бадак, Л.Сом і інш.

Драматургія. Размаітасць тэатральнай афішы 1986—1991 гадоў. Канкурэнцыя арыгінальнай драматургіі 1986—1991 гадоў з інсцэніроўкамі літаратурнай класікі і п’есамі з класічнага рэпертуару на беларускай сцэне.

П’есы А.Матукоўскага “Мудрамер”, У.Бутрамеева “Страсці па Аўдзею”, А.Петрашкевіча “Змова”,, “Прарок для Айчыны”, А.Дударава “Злом”. Афганская тэма на беларускай сцэне.

П’есы беларускіх паэтаў і празаікаў. Драматургія І.Чыгрынава: “Следчая справа Вашчылы”, “Чалавек з мядзвежым тварам”, “Звон – не малітва”, “Толькі мёртвыя не вяртаюцца”, “Ігракі”.

Пераклады біблейскіх тэкстаў – А.Клышкам, В.Сёмухам. Перакладчыцкі плён Н.Гілевіча, Л.Баршчэўскага, А.Лойкі, У.Чапегі, У.Скарынкіна, А.Асташонка, С.Шупы, З.Коласа, А.Мінкіна, інш.

Літаратура для дзяцей. Нарысістыка. Крытыка і літаратуразнаўства 1986—1991 гадоў.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ

Імкненне літаратуры канца стагоддзя “падвесці рысу” – канцэптуальна асэнсаваць духоўны плён ХХ стагоддзя. Драматызм працякання сучасных нацыянальна-адраджэнскіх працэсаў. Гісторыя беларускага адраджэння ў рэтраспектыве ХХ стагоддзя. Эсхаталогія і прагностыка ў беларускай літаратуры 90-х гадоў. Вылучэнне ў своеасаблівую плынь твораў на тэму чарнобыльскай катастрофы ў рознажанравым пісьменстве аўтараў розных пакаленняў (А.Адамовіч, С.Алексіевіч, Р.Барадулін, С.Законнікаў, В.Казько, В.Карамазаў, М.Мятліцкі, І.Пташнікаў, Б.Сачанка, Я.Сіпакоў, І.Шамякін, А.Федарэнка, інш.).

Узнікненне новых літаратурных суполак і выданняў у 90-я гады ("Таварыства вольных літаратараў", "Бум-Бам-Літ", інш.; часопісы "Першацвет", "Фрагменты", выпускі літаратурна-філасофскага дадатку "ЗНО" ў газеце "Культура", адношленыя "Наша Ніва", "Калоссе", па новаму з'арыентаваны часопіс "Крыніца", інш.).

Фармаванне новага светапогляду ў чытачоў і пісьменнікаў; новае самаўсведамленне беларускай літаратуры, арганічна звязанае з еўрапейскім і сусветным кантэкстам.

Вылучэнне элітнай літаратуры, “легалізацыя” і развіццё масавай культуры. Ускладненне дынамікі мастацкіх форм у культуры канца стагоддзя.

Проза. Пераасэнсаванне нацыянальнага быцця ў прозе В.Быкава (аповесць “Сцюжа”, апавяданні “На чорных лядах”, “Перад канцом”, “Бедныя людзі”, “Жоўты пясочак”, “Сцяна”, аповесці “Ваўчыная яма”, “Балота”), Я.Брыля (аповесць “Муштук і папка” ў кнізе “Пішу, як жыву”, кніга “Вячэрняе”, А.Асіпенкі (трыпціх аповесцяў “Цыркачка і маёр”, “Знікненне ў барвовай імгле”, “Клетка для берасцянак”, апавяданне “Генсек і геній”). Лёсавызначальныя падзеі гісторыі ў раманах Г.Далідовіча “Заходнікі” і “Кліч роднага звона”.

Новае ў прозе пра вайну з фашызмам В.Быкава (аповесць “Пакахай мяне, салдацік”, апавяданні “Генерал”, “Кацюша”, “Палітрук Каламіец”, “Народныя мсціўцы”), І.Чыгрынава (раманы “Вяртанне да віны”, “Не ўсе мы згінем”), В.Хомчанкі (раман “Забітае – не забытае”).

Асуджэнне сталінскіх рэпрэсій у творах В.Хомчанкі (аповесці і апавяданні з кнігі “Цар-зэк сямён Івашкін”), П.Пруднікава (аповесці з кнігі “За калючым дротам”: “Яжоўскія рукавіцы”, “Паўночнае пекла”, апавяданні “Самазабойца”, “Жывая мішэнь”, “Ваўкадаў”), С.Грахоўскага (аповесці і апавяданні з кнігі выбранага “Крыжавы шлях”: “Зона маўчання”, “З воўчым білетам”, “А маці не спіць”, “Мальвы”).

Дакументальна-мастацкія кнігі С.Алексіевіч “Зачараваныя смерцю”, “Чарнобыльская малітва”.

Выданне і перавыданне мастацкай, дакументальна-мастацкай прозы Б.Мікуліча (“Аповесць для сябе”, пасмяротна), А.Калубовіча (“Крокі гісторыі”, “На крыжовай дарозе”), К.Акулы (“Змагарныя дарогі”), С.Юстапчыка(Ант.Адамовіча) (“Каханы горад”, “Трывога”, М.Сяднёва (“Патушаныя зоры”, “Масеева кніга”), Ю.Віцьбіча (“Плыве з-пад Святое Гары Нёман”), інш.

Мастацкае даследаванне сацыяльных і маральна-этычных праблем у творах В.Казько (аповесці “Прахожы”, “Да сустрэчы”), В.Карамазава (творы з кнігі “Аброчны крыж”), А.Кудраўца (аповесць “Пахахуцікі”, апавяданне “Смерць нацыяналіста” і інш.), Б.Сачанкі, А.Шлега (раман “Сталінскія байструкі”), У.Арлова (апавяданне “Мой радавод да пятага калена”), А.Кажадуба, інш.

Маральна-этычная і грамадазнаўчая праблематыка ў творах 90-х гадоў І.Шамякіна (аповесці з кнігі “Сатанінскі тур”, аповесць “Бумеранг”, “Без пакаяння”, “Крывінка”, раман “Вялікая княгіня”), І.Навуменкі (кнігі аповесцяў “Дзяцінства”, Падлетак. Юнацтва”, кніга прозы “Гасцініца над Прыпяццю”, інш.).

Свет асобы, гуманістычная скіраванасць прозы Г.Далідовіча (кніга “Жар кахання”), Г.Марчука (раман, апавяданні з кнігі “Без ангелаў”), У.Бутрамеева (зборнік “Задарожжа”), В.Гардзея (зборнік “Уратуй ад нячыстага”), А.Масарэнкі (зборнік “Пакуль не завялі кветкі”), Т.Бондар (раман “Ахвяры”), іншых аўтараў.

Аб’ектыўнае і суб’ектыўнае ў прозе А.Адамовіча (“Vixi”), Р.Барадуліна (кніга “Аратай, які пасвіць аблокі”), А.Лойкі (аповесць “Кельты не ўміраюць”), А.Сямёнавай (эсэ “Бэзавы попел”), інш.

Прыпавесці, сацыяльная фантастыка, антыўтопія ў прозе В.Адамчыка (аповесць “Падарожжа на Буцафале”), В.Гігевіча (аповесці “Кентаўры”, “Пабакі”), Я.Сіпакова (кніга прытчаў “Тыя, што ідуць”, В.Супрунчука (кніга “Баю-бай, мой генерал”), А.Мінкіна (кніга

“Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў”, у суаўт.), А.Наварыча (“Дзённікі Рабунькі”), інш.

Гістарычная проза У.Арлова (кніга “Рандэву на манёўрах”: апавяданні, аповесць “Сны імператара”; аповесць “Час чумы” з кнігі “Міласць князя Гераніма”), Л.Дайнекі (заключны раман з трылогіі – “Жалезныя жалуды”), В.Іпатавай (раман “Залатая жрыца Ашвінаў”, аповесці), В.Чаропкі (раман “Храм без Бога”), інш.

Папулярная гісторыя для дзяцей і старэйшых у кнізе У.Арлова “Адкуль наш род”, “Таямніцы Полацкай гісторыі”, У.Бутрамеева “Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі”, В.Чаропкі “Імя ў летапісе”. Кнігі серыі “Нашы славутыя землякі”. Кнігі з серыі “Плошча Свабоды”: “Апакаліпсіс па графіку” А.Адамовіча, “На крыжах” В.Быкава, “Беларускае сэрца” С.Законнікава, інш.

Проза 90-х гадоў Б.Пятровіча (зборнікі прозы “Сон між пачвар”, “Ловы”, “Фрэскі”), Ю.Станкевіча (раман “Любіць ноч – права пацукоў”, аповесці “Прузі”, “Рыфма”, “Бесапатам”, інш.), А.Федарэнкі (кніга “Смута”, апавяданні “Бляха”, “У гасцях”, “Цверазілаўка”, інш.), А.Глобуса (тэксты з кніг “Смерць-мужчына”, “Толькі не гавары маёй маме”, “Койданава”, “Дамавікамерон”, інш.).

Творчасць А.Асташонка, Г.Багданавай, П.Васючэнкі, Л.Вашко, А.Ветаха, А.Казлова, М.Клімковіча, У.Клімовіча, М.Купрэева, А.Крэйдзіча, В.Куртаніч, В.Праўдзіна, Ф.Сіўко, У.Ягоўдзіка, інш.

“Проза паэтаў” (апавяданні “Як я...” Л.Дранько-Майсюка), “Зацемкі з левай кішэні Л.Галубовіча, “Мае сустрэчы з пані Сухоцкай і панам Пазнаньскім” А.Чобата, “Сабачыя гісторыі” В.Шніпа).

Паэзія. Лірыка 90-х гадоў М.Танка (вершы з кніг “Мой каўчэг”, “Errata”), П.Панчанкі (верш “Развітанне...”, кнігі “Выбранае”, “Высокі бераг”). Лірыка А.Вялюгіна (зборнік “Заклён на скрутны вір”). Факсімільнае выданне кнігі Н.Арсенневай “Пад сінім небам”. Выбранае Н.Арсенневай “Яшчэ адна вясна” (Мінск). Кніга выбранай лірыкі Я.Юхнаўца “Сны на чужыне” (у серыі “Галасы беларускага замежжа”).

Паэтычная творчасць Р.Барадуліна (кнігі “Міласэрнасць плахі”, “Евангелле ад Мамы”, “Рамансы”, “Здубавецьця”, цыкл “Палыновыя санеты”). Лірыка і публіцыстыка ў зборніках Н.Гілевіча “На высокім алтары”, “Талісман”, “Любоў прасветлая: Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове. Лірыка-публіцыстычная хроніка, 1947—1995”). Лірыка А.Вярцінскага (кніга “Хлопчык глядзіць”), Г.Бураўкіна (зборнікі “Узмах крыла” і інш.).

Вядучыя ідэйныя і эстэтычныя тэндэнцыі ў творчасці В.Зуёнка (кніга “Пісьмы з гэтага свету”), А.Разанава (кнігі “У горадзе

валадарыць Рагвалод”, “Паляванне ў райскай даліне”), У.Някляева (кніга “Прошча”), Л.Дранько-Майсюка (кнігі “Акропаль”, “Стомленасць Парыжам”), С.Законнікава (кніга “Заклінанне”), М.Купрэева (кніга “Правінцыйныя фантазіі”.

Паэзія С.Адамовіча, Э.Акуліна, У.Арлова, Н.Артымовіч, М.Башлакова, Г.Булыкі, Н.Гальпяровіча, В.Гардзея, М.Дуксы, К.Жука, К.Камейшы, А.Каско, Г.Каржанеўскай, М.Лукшы, В.Макарэвіча, М.Маляўкі, У.Марука, Н.Мацяш, М.Мятліцкага, А.Пісьмянкова, М.Пракаповіча, Л.Рублеўскай, Л.Сільновай, Я.Сіпакова, М.Скоблы, В.Стрыжака, А.Чобата, С.Шах, В.Шніпа, інш.

Першыя кнігі паэзіі Ю.Пацюпы, І.Бабкова, А.Пашкевіча, С.Явар, Ю.Гуменюка, А.Гуцава, К.Мяшковай, В.Слінко, З.Вішнёва, В.Угрыновіч, інш.

Паэты-пачаткоўцы “Першацвета”, “Маладосці”, інш.

Драматургія. Знікненне агульнасаюзнай тэатральнай прасторы, пераарыентацыя беларускіх драматургаў на нацыянальнага гледача. Новае аблічча А.Дударава: гістарычныя драмы “Купала”, “Палачанка”, “Чорная панна Нясвіжа”. Творчае “даспяванне” драматургаў дудараўскага пакалення: “Ку-ку” і “Лабірынт” М.Арахоўскага, “Сабака з залатым зубам” У.Сауліча.

Адкрыццё Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі “Вольная сцэна” (1991) як важнейшая падзея ў сучасным тэатральным жыцці Беларусі. Лёс тэатра.

Прыход у літаратуру новай, “тутэйшаўскай” генерацыі драматургаў (М.Адамчык, П.Васючэнка, С.Кавалёў, М.Клімковіч, І.Сідарук і інш.). Пашырэнне тэматычнага і жанравага спектра беларускай драматургіі: гістарычны фарс “Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія” і кабарэ-дэтэктыў “Чорны квадрат” М.Адамчыка і М.Клімковіча, п’есы абсурду “Галава” І.Сідарука і “Крывавая Мэры” З.Бойкі. Герменеўтычная драматургія С.Кавалёва: “Звар’яцелы Альберт”, “Трыстан ды Ізольда”, “Люстэрка Бландоі”, інш.

Пастаноўкі п’ес беларускіх аўтараў за мяжой: “Улюбёнцы лёсу” А.Паповай (Нямеччына), “Стомлены д’ябал” С.Кавалёва (Польшча).

“Пісьменніцкая” драматургія.

Сучасная літаратура для дзяцей.

Пераклады, крытыка і літаратуразнаўства мяжы стагоддзяў.

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2013
© PDF: Камунікат.org, 2013

## АСНОЎНАЯ КРЫТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА

Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік: У 6 т.—Мн., 1992—1995.
Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя. У 4 т.—Мн.: Беларуская навука. – 1999.
Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Ч.1—2. —Мн.: Выш. шк., 1981—1982.
Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: Ч.1—2. —Мн.: Выш. шк., 1981—1983.
Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. – Мн., 1992.
Лойка А.А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. У 2 ч. 2-е выд., дапрац. І дап.—Мн., 1989.
Адамовіч А.М. Беларускі раман: Станаўленне жанру.—Мн., 1961.
Адамовіч А. Маштабнасць прозы.—Мн., 1972.
Адамовіч А. "Браму скарбаў сваіх адчыняю…".—Мн., 1980.
Адамович А. Война и деревня в современной литературе.—Мн., 1982.
Александровіч С. Тут зямля такая…— Мн., 1974.
Александровіч С. Кнігі і людзі. — Мн., 1976.
Андраюк С.А. Традыцыі і сучаснасць. — Мн., 1981.
Андраюк С. А жыццё – вышэй за ўсё. Выбранае. – Мн., 1992.
Арочка М.М. Беларуская савецкая паэзія. – Мн., 1979.
Беларуская савецкая проза: Апавяданне і нарыс. – Мн., 1971.
Беларуская савецкая проза: Раман і аповесць. – Мн., 1971.
Беларускаія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў.—Мн., 1985.
Бельскі А.І. Жывая мова краявідаў: Пейзаж у беларускай паэзіі. – Мн., 1997.
Бельскі А.І. Сучасная літаратура Беларусі. – Мн., 2000.
Бечык В. Шлях да акіяна. – Мн., 1981.
Бечык В. Прад высокаю красою. – Мн., 1984.
Бугаёў Д. Паэзія Максіма Танка. – Мн., 1964.
Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. – Мн., 1965.
Бугаёў Д. Максім Гарэцкі. – Мн., 2003.
Бугаёў Д. Васіль Быкаў: Нарыс жыцця і творчасці. – Мн., 1987.
Бугаёў Д. Праўда і мужнасць таленту. Выбранае. – Мн., 1995.
Бугаёў Д. Спавядальнае слова. – Мн., 2001.
Бярозкін Р. Свет Купалы. – Мн., 1965.
Бярозкін Р. Пімен Панчанка. – Мн., 1968.
Бярозкін Р. Аркадзь Куляшоў. – Мн., 1978.
Васючэнка П.В. Драматургічная спадчына Янкі Купалы. – Мн., 1994.
Верабей А.Л. Максім Танк і польская літаратура. – Мн., 1984.
Верабей А. Абуджаная памяць: Нарыс жыцця і творчасці У.Караткевіча. – Мн., 1997.
Гілевіч Н.С. Акрыленыя рэвалюцыяй (Паэзія "Маладняка").—Мн., 1962.
Гніламёдаў У.В. Янка Купала: Новы погляд. – Мн., 1995.
Гніламёдаў У.В. Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс. – Мн., 1983.
Гніламёдаў У. Іван Мележ: Нарыс жыцця і творчасці. – Мн., 1984.
Грынчык М. Аркадзь Куляшоў.—Мн., 1964.
Дзюбайла П.К. Праблемы стылю ў сучаснай беларускай прозе. – Мн., 1973.
Жураўлёў В.П. У пошуку духоўных ідэалаў: На матэрыяле беларускай літаратуры XIX—пачаткук XX ст.—2000.
Каваленка В. Іван Шамякін: Нарыс жыцця і творчасці. – Мн., 1980.
Каваленка В.А. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры. – Мн., 1981.
Кабржыцкая Т., Рагойша В. Слядамі знічкі: Пра С.Палуяна. – Мн., 1990.
Калеснік У. Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура.– Мн., 1959.
Калеснік У. Янка Брыль: Нарыс жыцця і творчасці. – Мн., 1990.

Калеснік У. Ветразі Адысея.—Мн., 1997.
Колас Г. Карані міфаў (Жыццё і творчасць Янкі Купалы).—Мн., 1998.
Конан У. Адам Бабарэка: Крытыка-біягр. нарыс. – Мн., 1976.
Конан У. Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча. – Мн., 1991.
Сінькова (Корань) Л. Д. Беларуская проза ХХ стагоддзя: Дынаміка жанравых структур. – Мн., 1996.
Корань Л. Цукровы пеўнік. – Мн., 1996.
Ламека Л. А. Сучасная беларуская літаратура: Дапаможнік для навучэнцаў, абітурыентаў і настаўнікаў. – Мн., 1988.
Лаўшук С.С. Сучасная беларуская драматургія. – Мн., 1977.
Лойка А. Максім Багдановіч. – Мн., 1966.
Лойка А.А. Беларуская паэзія пачатку ХХ стагоддзя. – Мн., 1972.
Максімовіч В.А. Шыпшынавы край: Старонкі беларускай літаратуры 20 – 30-х гг. ХХ ст.. – Мн., 2002.
Мішчанчук М.І. Беларуская савецкая паэзія 20—30-х гадоў. – М., 1988.
Мушынскі М.І. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20—30-я гады. – Мн., 1975.
Мушынскі М.І. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 40-я – першая палова 60-х гадоў. – Мн., 1985.
Мушынскі М. І нічога апроч праўды. – Мн., 1990.
Мушынскі М. Нескароны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага. – Мн., 1991.
Навуменка І.Я. Янка Купала. – Мн., 1980.
Навуменка І.Я. Якуб Колас: Духоўны воблік героя. (2-е выд.) — Мн., 1981.
Навуменка І.Я. Змітрок Бядуля. – Мн., 1995.
Навуменка І.Я. Максім Багдановіч. – Мн., 1997.
Навуменка І.Я. Ранні Кузьма Чорны (1923—1929). – Мн., 2000.
Навумовіч У.А. Шляхамі арлянят (Проза “Маладняка”). – Мн., 1984.
Няфёд У. Францішак Аляхновіч. – Мн., 1996.
Пашкевіч А. А. Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры (Проза замежжа ХХ стагоддзя). – Мн., 2002.
Пшыркоў Ю.С. Летапісец свайго народа. – Мн., 1982.
Пяткевіч А. Сюжэт. Кампазіцыя. Характар. – Мн., 1981.
Рагойша В. Вяршыні: З невядомага і забытага пра Я.Купалу, Я.Коласа і М.Багдановіча. – Мн., 1991.
Сабалеўскі А. Беларуская савецкая драма. Кн.1—2. – Мн., 1969—1972.
Сачанка Б. Беларуская эміграцыя. (2-е выд.) – Мн., 1991.
Семашкевіч Р. Выпрабаванне любоўю. – Мн., 1982.
Семяновіч А.А. Гісторыя беларускай драматургіі: XIX—пачатак ХХ ст. – Мн., 1985.
Стральцоў М. Загадка Багдановіча. – Мн., 1968.
Стральцоў М. У полі зроку. – Мн., 1976.
Тычына М. Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення.—Мн., 1973.
Тычына М. Карані і крона. – Мн., 1991.
Чыгрын І. Проза “Маладняка”. – Мн., 1985.
Чыгрын І. Рэальнае і магчымае: Проза Я.Коласа. – Мн., 1991.
Чыгрын І.П. Паміж былым і будучым. Прза максіма Гарэцкага. – Мн., 1994.
Чыквін Я. Далёкія і блізкія: Творчасць беларускіх пісьменнікаў замежжа.— Беласток, 1997.
Усікаў Я. Беларуская камедыя. – Мн., 1979.
Ярош М.Р., Бечык В.Л. Беларуская савецкая лірыка. – Мн., 1979.
Яскевіч А. Грані майстэрства. – Мн., 1974.
Яфімава М.Б. Цэлы свет – дзецям. – Мн., 1983.

Вучэбнае выданне

# ПРАГРАМА ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XX СТАГОДДЗЯ

Для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў

Аўтары-складальнікі **Л. Дз. Сінькова, А. А. Пашкевіч**

Пад рэдакцыяй **Дз. Я. Бугаёва**

Карэктар В. Г. Ганаровіч
Камп'ютэрная вёрстка А. А. Акуліча

Падпісана да друку _____. Фармат 60 х 84 1/16. Гарнітура Таймс.
Друк афсетны. Ул.-выд. арк. 4,2. Тыраж 550 экз.

Падатковая льгота – Агульнадзяржаўны класіфікатар
Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.400.

Беларускі дзяржаўны універсітэт.
Ліцэнзія ЛВ № 315 ад 14.07.1998.
220050, Мінск, пр. Францыска Скарыны, 4.

Надрукавана ў Выдавецкім цэнтры БДУ.
Ліцэнзія ЛП № 284 ад 21.05.1998.
220030, Мінск, вул. Чырвонаармейская, 6.